26 красавіка 2019 | № 16 (627)
Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by
АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**За што Бог пакараў французаў?**
стар. 21

**ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**

Наступны нумар газеты выйдзе 10 ТРАЎНЯ.

Заставайцеся з намі, чытайце сайт novychas.by




4 **НЕЧЫРВОНЫ ЧАЛАВЕК ЗЯНОН ПАЗЬНЯК**

Яго імя вядомае кожнаму беларусу. Улады палохалі ім маленькіх дзяцей, а ён хацеў бачыць Беларусь моцнай і незалежнай. 24 красавіка 75-годдзе адзначыў Зянон Пазьняк

7–18 **Літаратурная Беларусь**

23 **ТАЯМНІЦА МАСКОЎСКІХ ПЕРАМОЎ**

Напярэдадні Другой сусветнай Вялікабрытанія і Францыя спрабавалі дамовіцца з СССР аб сумесным выступленні супраць нацысцкай Германіі

# Магчыма ўсё!

## Украіна можа стаць своеасаблівым палігонам для будучай Беларусі



Сяргей ПУЛЬША

Да гэтага часу няма больш цікавай навіны, чым перамога Уладзіміра Зяленскага на выбарах прэзідэнта Украіны. Ён набраў 75% галасоў і стане новым гарантам нашай паўднёвай суседкі.

Сам Зяленскі пракаментаваў сваю перамогу проста: «Усё магчыма». А дакладней, яго словы гучалі так: «Пакуль я яшчэ не прэзідэнт, павінен сказаць як грамадзянін Украіны ўсім краінам, экс-рэспублікам Савецкага Саюза — пaглядзіце на нас, усё магчыма».

Праўда, у тое, што ўсё магчыма, гэтыя экс-рэспублікі Савецкага Саюза пакуль не вераць. Ці самі кпяць з сябе. Вельмі папулярны зараз жарт, калі адзін чалавек выстаўляе ў сеціва навіну: «Ва Украіне ў другім туры Уладзімір Зяленскі перамог Пятра Парашэнку». Пад гэтай навіной каментары: «Патлумачце, што такое "другі тур" — прашу прабачэння, я з Расіі». «А што, можна два кандыдаты? Выбачаюся, я з Беларусі».

Мой добры сябар з Кіева пасля першага туру прэзідэнцкіх выбараў, калі Зяленскі выйшаў у фінал прэзідэнцкай гонкі, запытаў мяне: «А што ў вас у Беларусі з моладдзю? Яна паўсюдна такая, як у нас, што галасуе за Зяленскага?» У Зяленскага нібыта не было эканамічнай, палітычнай і знешнепалітычнай праграмы. І, тым не менш, Украіна прагаласавала за яго…

Адказаў я на пытанне сябра проста: «За Зяленскага ваша моладзь галасуе, бо ў яе ёсць выбар. Чаго пра беларускую сітуацыю не скажаш». Выбар, свабоднае волевыяўленне грамадзян — гэта галоўнае, што прадэманстравала Украіна. І таму Зяленскі мае права казаць: «Магчыма ўсё».

Нездарма старшыня беларускага ЦВК Лідзія Ярмошына, высока ацаніўшы першы тур галасавання, на пытанне, што б яна ўзяла з украінскіх выбараў для досведу Беларусі, адказала: «Нічога». Свабода, адкрыты падлік галасоў, вольнае назіранне, калі журналісты швэндаюцца па выбарчым участку, як па сваёй хаце, — наўрад ці ўкладаецца ў яе галаве.

Нешта ёсць у Зяленскім ад маладога Лукашэнкі. На голым папулізме прарвацца на вышыню ўлады… Дый маладога Лукашэнку старая наменклатура не ўспрымала ўсур'ёз — для іх ён таксама быў комікам. Гэтая памылка дорага абыходзіцца Беларусі.

Зараз усе кажуць, што Украіна галасавала не столькі за Зяленскага, колькі супраць Парашэнкі і яго старой наменклатуры. Тое ж можна казаць і пра прэзідэнцкія выбары ў Беларусі ўзору 1994 года — галасавалі не за Лукашэнку, а супраць тагачаснага прэм'ера Кебіча. Выйграй Кебіч, які падпісаў з Чарнамырдзіным пакт пра пераход Беларусі на расійскі рубель, — невядома, дзе б мы былі зараз. Як адгукнецца Украіне галасаванне «супраць Парашэнкі» — яшчэ пaглядзім.

Наўрад ці, канешне, будзе нешта, падобнае на Беларусь. Украіна — не Расія і не Беларусь. Калі новы ўкраінскі кіраўнік паспрабуе разагнаць парламент, перапісаць Канстытуцыю ці ўчыніць нешта такое — тамтэйшым грамадзянам нішто не перашкодзіць наладзіць новы Майдан. І ад дыктатарскіх амбіцый коміка застануцца толькі рожкі ды ножкі.




**Украінскія выбары паказалі, наколькі далёка — усяго за пяць гадоў і ва ўмовах вайны, — можа прайсці краіна ў дэмакратычных пераўтварэннях**

Дарэчы, за тое, што «ўсё магчыма», новы ўкраінскі прэзідэнт павінен шчыра дзякаваць мінуламу. Пётр Парашэнка — прыклад таго, як сыходзіць годна. Як толькі стала дакладна вядома, што ён не выйграе, Парашэнка не проста павіншаваў Зяленскага з перамогай — ён прапанаваў яму дапамогу, калі тая спатрэбіцца. Але і папярэдзіў, што не сыходзіць з палітыкі, ідзе ў апазіцыю, і гэтая апазіцыя будзе вельмі моцнай, аднак — на карысць краіне.

Прыняць волевыяўленне народа, такое, як яно ёсць, не фальсіфікуючы вынікі выбараў, не падладжваючы галасаванне на сваю карысць, не граючы ў «пераемнікаў», не перапісваючы Асноўны закон «пад сябе», — гэта таксама мужна і годна.

Гэта тое, чаго не хапіла нашаму «гаранту». І ў гісторыі ён застанецца не як «першы прэзідэнт Рэспублікі Беларусь», а як чалавек, які ўсімі сіламі трымаўся за ўладу.

Украінскія выбары паказалі, наколькі далёка — пры гэтым усяго за пяць гадоў і ва ўмовах вайны, — можа прайсці краіна ў дэмакратычных пераўтварэннях, калі яна гэтага жадае.

Калі-небудзь Беларусь таксама будзе абіраць другога прэзідэнта, другога кіраўніка дзяржавы. Безумоўна, у нас таксама ўзнікнуць кандыдаты-комікі. Таму зараз нам трэба прыглядацца да паўднёвай суседкі як да палігона. Трэба бачыць і асэнсоўваць, што будзе, калі да ўлады прыходзяць людзі, якія слаба ўяўляюць, што з той уладай рабіць. Калі ў Зяленскага не атрымаецца — гэта будзе і нам «прышчэпка ад папулізму». І тады казаць: «Вы хочаце, каб было, як ва Украіне?», мы будзем зусім з іншым кантэкстам.

А калі атрымаецца, будзе важны доказ: калі людзі вольныя, калі іх чуюць, калі галасы на выбарах сапраўды лічаць, а вышэйшыя асобы дзяржавы за ўладу не чапляюцца і прызнаюць выбар народа — магчыма ўсё. Нават неверагоднае.

# Арганізатары «Чарнобыльскага шляху»: плаціць за паслугі міліцыі — непрымальна

**Аргкамітэт сёлетняга «Чарнобыльскага шляху» выступіў з заявай з нагоды адмовы Мінгарвыканкама вызваліць традыцыйную жалобную акцыю ад аплаты за «паслугі міліцыі».**

Арганізатары лічаць непрымальным, калі прымусовае спагнанне грошай з удзельнікаў акцыі робіцца неканстытуцыйнай формай абмежавання свабоды сходаў.

Аргкамітэт «Чарнобыльскага шляху» атрымаў рашэнне Мінгарвыканкама аб правядзенні масавага мерапрыемства 26 красавіка са зборам удзельнікаў у 18.00 на пляцоўцы каля галоўнага ўваходу ў Прэзідыум Нацыянальнай Акадэміі Навук і шэсцем па традыцыйным маршруце да Чарнобыльскай капліцы.

У сваёй заяўцы на правядзенне гэтай вулічнай акцыі арганізатары прапаноўвалі забяспечваць ахову правапарадку сваімі сіламі. Гэта традыцыйнае на працягу апошніх 30 гадоў мерапрыемства мае высокую грамадскую значнасць для Беларусі, якая больш за ўсіх пацярпела ад наступстваў Чарнобыльскай катастрофы. Гэта даніна памяці ахвярам і штогадовая жалобная акцыя.

Мінгарвыканкам, насуперак прапанове заяўнікаў, запатрабаваў аплаты дзеянняў міліцыі і паведаміў пра тое, што вызваленне ад яе не прадугледжана.

Аргкамітэт ЧШ лічыць непрымальным спагнанне грошай за працу міліцыі, якая фінансуецца з дзяржбюджэту, паколькі па факце гэта падвойная аплата дзеянняў, у якіх не толькі няма неабходнасці, але часта ў Беларусі — пагроза для ўдзельнікаў мерапрыемстваў.

***«Мы лічым, што не грамадзяне павінны плаціць дзяржаве за памяць пра Чарнобыль, а дзяржава павінна грамадзянам, якія працягваюць пакутаваць ад наступстваў гэтай радыяцыйнай катастрофы.***

***Мы кваліфікуем патрабаванне ўладаў як палітычны і эканамічны ціск на грамадзян, асабліва ў святле нядаўняй практыкі выстаўлення вялікіх, непад'ёмных для ўдзельнікаў сумаў. Гэтая практыка і нарматыўныя акты, якія яе падтрымліваюць, парушаюць канстытуцыйныя правы і свабоды грамадзян. Мы лічым, што ўлады не павінны абвяшчаць мерапрыемства несанкцыянаваным на падставе нашай адмовы плаціць за міліцыю».***

Аварыя на Чарнобыльскай АЭС адбылася 6 красавіка 1986 года. Ад чарнобыльскай катастрофы так ці іначай пацярпеў ці не кожны беларус — каля 60% радыеактыўных ападкаў асели на тэрыторыі Беларусі, забруджана ў прыкметнай ступені каля 70% тэрыторыі краіны, на моцна забруджаных тэрыторыях жыве каля 12% насельніцтва.

«Чарнобыльскі шлях» — традыцыйная вулічная акцыя ў фармаце шэсця, якую штогод 26 красавіка праводзіць апазіцыя. Першая акцыя адбылася ў 1988 годзе з ініцыятывы Беларускага народнага фронту, і з таго часу шэсце адбываецца штогод. Выключэннем быў 2011 год, калі сталічныя ўлады забаранілі шэсце, даўшы дазвол толькі на правядзенне мітынгу. Самым масавым быў «Чарнобыльскі шлях» 1996 года (да 50 тысяч чалавек), які несанкцыянавана прайшоў па праспекце Скарыны (цяпер Незалежнасці). У сутыкненнях з міліцыяй пацярпелі каля 100 чалавек. Ад 2008 года да тэмы памяці Чарнобыльскай аварыі дадалася тэма небяспекі будаўніцтва ў Беларусі атамнай электрастанцыі па праекце расійскай кампаніі «Росатом».

**Паводле прэс-рэлізу**

# Хто ляжыць у Курапатах, або Немагчымае магчыма

Зміцер ДРОЗД

**Днямі кіраўнік КДБ Валерый Вакульчык агучыў: «На жаль, адназначна даць адказы на пытанні, хто там (у Курапатах) ляжыць па прозвішчах, немагчыма».**

Паколькі Вакульчык адказваў на пытанне журналіста аб адкрыцці архіваў КДБ, то яго словы можна разумець так, што ў закрытых да сёння фондах гэтай сілавой структуры не захавалася патрэбных нам дакументаў. Такіх, з якіх можна было б спраўдзіць, хто рэпрэсаваны і дзе пахаваны. І, тым больш, у якой менавіта яме.

Аднак са зместу інтэрв'ю можна зрабіць, як мінімум, адну важную выснову: сёння для беларускага КДБ няма сумневаў у тым, што ў Курапатах ляжаць менавіта ахвяры чэкістаў, а не нацыстаў. Праблема толькі ў персанальнай ідэнтыфікацыі парэшткаў, якая нібыта немагчымая. Ці так гэта?

Сапраўды, вопыт цалкам адкрытага для даследчыкаў архіва СБУ (былы архіў КДБ Украіны) паказвае, што ніякіх карт пахаванняў з дакладным указаннем, дзе спачывае прах кожнага канкрэтнага расстралянага, не існуе. У большасці ж актаў аб прывядзенні прысуду ў выкананне месца пахавання не ўказваецца.

Здавалася б, што гэта ставіць крыж на ідэі ідэнтыфікацыі. Але гэта не так. Сучасныя спосабы генетычных даследаванняў пакідаюць нам амаль стопрацэнтныя шанцы вызначэння асобаў усіх, парэшткі якіх знаходзяцца ў расстрэльных ямах або пахаваннях. Праўда, гэта нятанна і не хутка, але рэальна. Што можна зрабіць?

1. Вызначыць дакладныя месцы і межы месцаў расстрэлаў і пахаванняў, і канкрэтныя ямы, дзе знаходзяцца парэшткі ахвяр. Падобная праца праводзілася ў Курапатах, але не заўсёды правалы ў зямлі аказваліся месцамі пахаванняў. Аднак сучасныя тэхналогіі дазваляюць праводзіць падобныя даследаванні без раскопак кожнай падазронай ямкі. Існуе тэхніка, якая можа вызначыць не толькі тое, ці з'яўляецца гэтая яма пахаваннем, але прыблізную колькасць пахаваных.
2. Вызначыўшы дакладныя межы пахаванняў, можна зэканоміць сілы і час пры эксгумацыі парэшткаў. Эксгумацыя выконваецца для ўзяцця ДНК, якое добра захоўваецца ў касцях і зубах. Нават пасля пажараў і авіякатастроф, калі ад парэшткаў мала што застаецца, такія тэсты дазваляюць высвятліць асобы загінулых.
3. Аналізы ДНК бяруцца таксама ў нашчадкаў і блізкіх сваякоў расстраляных. Чым бліжэй сваяцтва, тым лепш. Аўтасомны тэст пакажа сваяцтва толькі да чатырох пакаленняў. Але, калі ў мяне быў расстраляны брат прадзеда па мужчынскай лініі Мікалай Дрозд, то аналіз нашых ДНК пакажа наша блізкае сваяцтва.

Для параўнання ДНК і пошуку сваякоў можна выкарыстоўваць ужо існуючыя базы дадзеных. У некаторых катэгорый грамадзян у Беларусі ДНК бярэцца ў абавязковым парадку.

4. Праца ў архівах КДБ для выяўлення максімальнай колькасці актаў аб прывядзенні ў выкананне смяротных прысудаў. У такім дакуменце адзначаецца: хто, калі і кім быў расстраляны. З вялікай доляй верагоднасці ў адной яме будуць знаходзіцца людзі з аднаго акта або актаў за адзін дзень, бо магілы нельга было пакідаць не закапанымі надоўга.

Гэтыя (і некаторыя іншыя, як, напрыклад, колькасць жанчын і мужчын) дадзеныя можна параўноўваць з колькасцю выяўленых у ямах парэшткаў, а па меркаванай даце расстрэлу вызначаць імянны спіс расстраляных.

5. Ідэнтыфікацыя нават аднаго або (ідэальна) некалькіх асобаў з кожнай ямы дазволіць дакладна вызначыць дату расстрэлу, а значыць, і ўсіх людзей, чые парэшткі знаходзяцца менавіта тут. З часам, па меры знаходжання новых супадзенняў ДНК, гэтыя дадзеныя будуць удакладняцца і карэктавацца.

Адно з галоўных пытанняў такой праграмы — кошт. Сёння кошт ДНК-тэстаў нават у камерцыйных арганізацыях, складае каля 50 долараў. Па розных падліках, колькасць людзей, расстраляных у Курапатах, вагаецца ад 7 да 30 тысяч, што нават па камерцыйных расцэнках — цалкам пасільная для Беларусі паўтара мільёна долараў. Калі ж гэтыя тэсты будуць выконвацца беларускімі лабараторыямі, то кошт будзе істотна ніжэйшы.

Калі Беларусь не знойдзе сродкаў, з просьбай аб падтрымцы можна звярнуцца да Польшчы (у пошуку ахвяр «беларускага катынскага спісу»), Ізраіля (калі ёсць нават 0,1% верагоднасці, што там — ахвяры Халакосту), Германіі.

Такім чынам, вызначэнне імёнаў тых, хто спачывае ў Курапатах і іншых месцах, тэхнічна магчымае. Ад Беларусі спатрэбіцца толькі палітычная воля на самым версе, каб Мемарыял не выглядаў як ганебны безназоўны помнік «невядомым рэпрэсаваным». Яны невядомыя толькі таму, што для ўлады гэта не так важна, як яе дарагія цацкі.

**Паводле gazetaby.com**
**Пераклад НЧ**

# Чаму беларусам не варта разлічваць на рост заробкаў

Наталля КАЛЕСНІЧЭНКА

**У якіх сферах і рэгіёнах зарплаты больш за ўсё адстаюць ад сярэдняй. Параўноўваем і тлумачым, што не так з планамі па іх павелічэнні.**

У той час, як сярэдні заробак у краіне памяншаецца другі месяц запар, Аляксандр Лукашэнка паставіў перад урадам задачу нарошчваць зарплаты тых, у каго яны не дацягваюць да планкі ў 500 долараў.

Дарэчы, сярэдняя зарплата ўсё яшчэ не дацягвае да 500 долараў. У лютым гэтага года яна склала 977 рублёў.

У 9 з 15 сфер эканомікі, па якіх Белстат вядзе ўлік, сярэдняя зарплата ніжэй за сярэднюю па краіне. Далей за ўсё ад яе зарплаты работнікаў сельскай гаспадаркі.

Калі параўнаць сярэднюю зарплату па абласцях, то самая нізкая ў Магілёўскай вобласці, а самая высокая, традыцыйна, у Мінскай і ў сталіцы.

Дамагчыся таго, каб ва ўсіх заробак быў не ніжэйшы за сярэдні ці ў большасці быў блізкі да сярэдняга, нерэальна, лічыць старшы аналітык кампаніі «Альпары» Вадзім Іосуб.

— Што з заробкамі ні рабі, расслаенне ў любым выпадку застанецца. І ўсё ж мае сэнс спрабаваць падымаць заробкі тым, у каго яны найбольш нізкія, — кажа аналітык.

Як правіла, ніжэйшыя зарплаты ў бюджэтным сектары. Такім чынам, на іх павышэнне спатрэбяцца дзяржаўныя рэсурсы. Але сур'ёзная частка зробленых бюджэтам грошай сыходзіць на пагашэнне і абслугоўванне знешняга дзярждоўгу. І так будзе працягвацца не адзін год.

— Запланавана, што чвэрць неабходнай сумы на пагашэнне даўгоў і выплаты працэнтаў па іх будзе ісці з зробленых бюджэтам грошай, а тры чвэрці будуць рэфінансавацца. Калі ўзнікнуць цяжкасці з рэфінансаваннем, то на пагашэнне даўгоў давядзецца аддаваць больш грошай з бюджэту. Адпаведна, будзе значна менш рэсурсаў, каб падымаць заробкі бюджэтнікам, — тлумачыць Вадзім Іосуб.

Ёсць просты варыянт для павышэння заробкаў, які беларускія ўлады ўжо не раз выкарыстоўвалі, — уключэнне друкаркі. Але гэта толькі падвысіць намінальныя зарплаты, у той час як рэальныя застануцца ранейшымі.

— У гэтым выпадку насельніцтву дадуць шмат грошай, але з-за працы друкаркі вырастае інфляцыя, якая з'есць увесь рост. Здаецца, папераж у кошыку стане больш, але на самай справе багацей людзі не стануць, — кажа Вадзім Іосуб. — Такі шлях ужо прыводзіў да гіперінфляцыі, шматлікіх валютных крызісаў. Дзяржава ўжо шмат разоў апякалася на гэтай практыцы і, думаю, наўрад ці вернецца да яе.

Застаецца адзіны «здаровы» варыянт для росту заробкаў — паказваць добрыя тэмпы эканамічнага росту.

— Патрэбен дастаткова сур'ёзны рост ВУП, пажадана, каб ён быў вышэй за сярэднесусветны. А яшчэ лепш для развіваецца краіны мець рост у 5–6%, — кажа аналітык «Альпары».

Але з прычыны адсутнасці рэформаў, а таксама рэгулярных заяваў на самым высокім узроўні аб тым, што ніякіх сур'ёзных структурных пераўтварэнняў не прадбачыцца, спадзявацца на такія тэмпы росту не даводзіцца.

Значыць, не варта сур'ёзна разлічваць і на магчымасць росту заробкаў бюджэтнікаў, робіць выснову эксперт.

**«Заўтра тваёй краіны»**
**Пераклад НЧ**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Стыхійнае бедства

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Калісьці мяне здзівіла адна фраза ў банкаўскай дамове. Там было напісана, што банк не нясе адказнасці ў выпадку «форс-мажорных абставінаў», і ў якасці такіх пералічваліся, сярод іншых, «пастановы ўраду і ўладаў Беларусі». Але зараз я гэтаму не здзіўляюся.**




Вось, напрыклад, Аляксандр Рыгоравіч заявіў, што ў гэтым годзе пройдуць парламенцкія выбары. Такім чынам, ён скараціў тэрмін паўнамоцтваў дзеючага парламента на 10 месяцаў — амаль на год. І, што немалаважна, на дзве паўнавартасныя сесіі гэтага органа. Што ж народныя абраннікі? Абурыліся? Запатрабавалі выконваць Канстытуцыю? Не.

«Наша ніва» апытала з гэтай нагоды некалькі дэпутатаў. Мікалай Улаховіч, напрыклад, сказаў, што яго гэта «прынцыпова не хвалюе». Дзіўна, што дэпутата не хвалюе парушэнне Канстытуцыі. Алена Анісім заявіла: «Можна абурацца, можна выказваць прэтэнзіі, але гэта нічога не зменіць». Дзмітрый Шаўцоў, намеснік кіраўніка пастаяннай камісіі па міжнародных справах Палаты прадстаўнікоў, паставіўся да гэтага «абсалютна нармальна». Маўляў, «калі гэта неабходна, нейкімі сваімі пытаннямі можна ахвяраваць, каб нармальна развівалася Беларусь». Але справа ў тым, што спадар Шаўцоў, насамрэч, ахвяруе не «сваімі пытаннямі», а пытаннямі яго выбаршчыкаў.

Вадзім Дзевятоўскі «не засмучаны», яму як спартоўцу не прызвычайвацца да стрэсаў і пераносу тэрмінаў, і ён збіраецца «трохі актывізаваць, паскорыць, пакуль ёсць паўнамоцтвы», вырашэнне тых пытанняў, за якія ён узяўся. І толькі Ганна Канапацкая ў эфіры «Еўрарадыё» сказала: так, скарачэнне тэрміну дзеяння парламента — гэта парушэнне Канстытуцыі.

Такім чынам, дэпутаты паставіліся да скарачэння сваіх паўнамоцтваў сапраўды як да землятрусу альбо павадку: «Яно ёсць, што зробіш?».

Салідарная з дэпутатамі старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына. На пытанне пра тое, што паўнамоцтвы парламентароў будуць скарочаныя амаль на год, яна адказала: «Што паробіш, так склалася...»

Асабліва інтрыгуе ў гэтай сітуацыі тое, што Лукашэнка пачаў сваё пасланне не з чаго іншага, як з адзначэння таго факту, што сённяшні год — гэта 25-я ўгодкі прыняцця Асноўнага закону, Канстытуцыі Беларусі. Адзначыўшы гэта на пачатку размовы, ён прапанаваў парушыць гэты Асноўны закон напрыканцы выступу. Ці не парадокс?

У час таго ж паслання кіраўнік дзяржавы заявіў, што «загуляліся ў рынак і дэмакратыю», і кошты на асноўныя прадукты трэба рэгуляваць. І вось ужо Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю «не выключыла» магчымасці пашырэння пераліку рэгуляваных цэнаў у выпадку неабходнасці. «Магчыма, пералік сацыяльна значных тавараў трэба будзе пераглядзець зыходзячы з удзельнай вагі тавараў у спажывецкім кошыку. Пералік можна і пашырыць», — сказаў агенцтву «Інтэрфакс-Захад» намеснік міністра антыманапольнага рэгулявання і гандлю Андрэй Картун.

Але гэта Лукашэнка пагадзіўся падпісаць дамову пра ЕАЭС. І той жа Картун пакінуў сабе невялічкую шчыліну для манеўра. Калі трэба ўзмацніць дзяржрэгуляванне цэнаў, гэта будзе зроблена, сказаў ён, але і дадаў, што ў краіны «ёсць абавязацельствы ў межах ЕАЭС, якія прадугледжваюць паступовую адмову ад рэгулявання цэнаў».

У ЕАЭС мы — святейшыя за Папу Рымскага. Чаго толькі нормы гэтага саюза кашталвалі прадпрымальнікам: сертыфікаты ЕАЭС патрабавалі беларускія кантралёры пры тым, што Расія іх увогуле не выдавала. Але ці будуць нормы ЕАЭС гэтак жа скрупулёзна дзейнічаць, калі яны пойдуць у супярэчнасць з патрабаваннямі Лукашэнкі?

З аднаго боку, ён патрабуе рэгуляваць цэны, а з іншага — сам жа падпісваў дамову пра «паступовую адмову ад рэгулявання цэнаў». Так што тут зноў — стыхійнае бедства, невырашальная дылема, галаўны боль для МАРГ.

З іншага боку, намеснік міністра МАРГ зазначыў, што ў асаблівым рэгуляванні сэнсу няма, бо ўзровень інфляцыі — у рамках прагнозу, у першым квартале — нават менш за прагнозны ўзровень. «У нас няма падстаў меркаваць, што мы не забяспечым прагноз па інфляцыі ў межах 5%», — сказаў чыноўнік.

Але з чыноўнікам не згодны Еўразійскі банк развіцця — той банк, які рэгулярна выдае Беларусі крэдыты. Паводле красавіцкага макраагляду ЕАБР, у 2019 годзе ў Беларусі замарудзяцца тэмпы прыросту валавога ўнутранага прадукту, а тэмпы росту інфляцыі, наадварот, паскорацца. ВУП краіны знізіцца да 1,5%, мяркуюць у ЕАБР. Таксама прагназуецца запаволенне росту спажывецкага попыту, бо знізіцца тэмпы павелічэння заробкаў і крэдытная актыўнасць грамадзян. Стрымліваць інвестыцыйную актыўнасць будуць больш жорсткія ўмовы банкаўскага крэдытавання, а беларускі экспарт не будзе расці праз запаволенне эканамічнага росту ў Расіі і Еўрасаюзе.

Карацей, ключавая рызыка для беларускай эканомікі — па-ранейшаму «геапалітычная напружанасць у рэгіёне», калі патэнцыйнае ўзмацненне заходніх санкцый у дачыненні Расіі можа негатыўна паўплываць і на Беларусь. Таму інфляцыя ў 2019 годзе, на думку аўтараў агляду, складзе 5,7%, што больш мэтавага арыенціру Нацбанка — 5% на год.

І яшчэ адна цікавая навіна. «Еўрагандаль», які кантралюе агулам амаль 750 крамаў «Еўраопт», «Хіт! Экспрэс» і «Магія», выставіў на продаж некалькі гіпермаркетаў. Гэтую інфармацыю TUT.BY паведамілі ўдзельнікі рынку і пацвердзіў прадстаўнік кампаніі.

Афіцыйна гэта зроблена «для аптымізацыі свайго крэдытнага партфеля». Варта зазначыць, што доля «Еўрагандлю» на рынку рознічнага гандлю прадуктамі харчавання на пачатак 2018 года была каля 19% (больш свежыя дадзеныя не публікаваліся). Выручка кампаніі за 9 месяцаў 2018 года склала 2,986 мільярда рублёў, што на 14% больш, чым было ў аналагічным перыядзе мінулага года.

Падавалася б, пятая частка рынку харчоў і рост выручкі — але кампанія выстаўляе на продаж буйныя гандлёвыя кропкі. Міжволі просіцца думка, што крэдытныя партфель тут не пры чым, а вінаватае «стыхійнае бедства», што заявіла: у краіне «загуляліся ў рынак і дэмакратыю».

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Марына Золатава

**«Справа БелТА» і справа рэдакткі TUT.BY так проста не заканчваецца. Следчыя органы дагэтуль выслухоўваюць непрыемныя пытанні.**

Прадстаўнікі Следчага камітэта і МУС на гэтым тыдні давалі прэс-канферэнцыю. І ім задалі пытанне: на судзе над Золатавай стала вядома, што яе праслухоўвалі супрацоўнікі ўпраўлення «К» МУС 19 сакавіка 2018 года — за два месяцы да падачы заявы БелТА ў праваахоўныя органы. На якой падставе? Ці значыць гэта, што ўсіх рэдактараў і журналістаў у краіне праслухоўваюць?

«Мае супрацоўнікі ні ў якім разе не праслухоўвалі Золатаву ў тыя даты, якія былі агучаны вамі. І ні ў якім разе не праслухоўвалі іншых супрацоўнікаў TUT.BY», — адказаў Вадзім Усціновіч, начальнік упраўлення па раскрыцці злачынстваў у сферы высокіх тэхналогій МУС.

Што ж да матэрыялаў праслухоўвання, то, паводле меркавання Усціновіча, «гэта ўсяго толькі дакумент, які знаходзіцца ў матэрыялах». «А ўсю перадгісторыю і ўсе пытанні, адказы на якія вы хочаце пачуць, вы павінны адрасаваць самой Золатавай», — заявіў Усціновіч.

То-бок, гэта Золатава сама сябе праслухоўвала і потым аднесла гэтыя матэрыялы ў Следчы камітэт і МУС?



## Зміцер Вайцюшкевіч

**Знакаміты спявак і музыка прэзентаваў новую праграму «Зорка Дзіва» на вершы паэта Уладзіміра Някляева. У альбом, запісаны з варшаўскім струнным квартэтам, увайшло 13 лірычных кампазіцый.**

Гэта ўжо трэцяя праграма Вайцюшкевіча на вершы Уладзіміра Някляева. «Ён актуальны, ён для мяне цікавы, ён жыццё бачыць вастрэй, і з пункту гледжання паэзіі ён не спыняецца і не стаіць на месцы — мне гэта імпануе», — адзначыў Вайцюшкевіч у інтэрв'ю «Еўрарадыё».

Апроч таго, зазначыў Вайцюшкевіч, Уладзімір Някляеў чулы да пажаданняў спевака. Некаторыя вершы былі напісаныя «па замове» Вайцюшкевіча — па тэмах, якія ён прапаноўваў паэту.

Праца над гэтым альбомам цягнулася прыкладна 10 гадоў. Пэўныя песні былі напісаныя ў 2008–2009 гадах, а некаторыя — напрыклад, «Зорка Дзіва», — па словах Вайцюшкевіча, «трапілі ў апошні вагон».

Мінская прэзентацыя на сцэне Рэспубліканскага палаца культуры імя Шарко прайшла ў суправаджэнні «WZ-Orkiestra». А Уладзімір Някляеў чытаў новую паэму пад назвай «Калі мяне не стане». Пры гэтым Вайцюшкевіч адзначыў: сам Някляеў вершы са сцэны не чытаў таксама каля дзесяці гадоў.



## Сяргей Вязовіч

**Беларускі экіпаж МАЗа пад кіраваннем Сяргея Вязовіча перамог у ралі-рэйдзе «Morocco Desert Challenge».**

Апошні спецучастак пралягаў па хуткаснай трасе і прайшоў без сюрпрызаў. Сярод беларусаў вызначыўся Аляксей Вішнеўскі, што паказаў чацвёрты час на восьмым этапе гонкі. Ад пераможцы заезду спартсмена з Нідэрландаў Герта Хузінка на «Renault» ён адстаў на 7 хвілін. Экіпаж МАЗа пад кіраваннем Сяргея Вязовіча прыехаў восьмым, прайграўшы каля 13 хвілін. Тым не менш, у агульным заліку грузавікоў ён атрымаў перамогу.

Другое месца з 22-хвілінным адставаннем заняў спартсмен з Нідэрландаў Петэр Верслейс на грузавіку MAN. Трэцім завяршыў марафон МАЗ Аляксея Вішнеўскага, які прайграў партнёру па камандзе 25 хвілін.

Сяргей Вязовіч адзначыў, што МАЗы паказалі сябе ў чарговы раз самымі надзейнымі і цягавітымі грузавікамі. «Нават удзел у гонцы з залімітавымі нагрузкамі грузавікі праходзілі без складанасцяў. Калі шчыра, мы думалі, што для нас гонка стане хутчэй праверкай на трываласць і выпрабаваннем. Але машына перасягнула ўсе нашы чаканні — яна змагла прывесці нас да перамогі. Гэта дазволіць нам умацаваць пазіцыі ў сусветным аўтаспорце і павысіць імідж Мінскага аўтазавода», — падкрэсліў Сяргей Вязовіч.

Варта адзначыць, што беларусы ўпершыню ў гісторыі сталі чэмпіёнамі афрыканскага марафона.

# Нечырвоны чалавек Зянон Пазьняк

Аляксандр КУР’ЯНОВІЧ

**Яго імя вядомае ледзь не кожнаму беларусу. Улады палохалі ім дзяцей, а ён хацеў бачыць Беларусь моцнай і незалежнай. Ён адкрыў свету Курапаты, якія і дагэтуль застаюцца незагойнай ранай Беларусі. Пра яго не пішуць у школьных падручніках, хаця ён варты дзясяткаў кнігаў. 24 красавіка сваё 75-годдзе адзначыў Зянон Пазьняк.**



### Крамольны артыкул

Першы сакратар ЦК КПБ Пётр Машэраў быў літаральна ў шаленстве. Ён раз-пораз нярвова браў у рукі нумар «Правды» за 13 красавіка 1969 года. Увагу ўсёмагутнага беларускага партыйнага боса прыцягнула не прамова таварыша Брэжнева, а сціплы артыкул пад назвай «Заботясь о будущем». Аўтарамі значыліся Зянон Пазьняк і Лявон Баразна.

Пётр Міронавіч дзівіўся і соты раз перачытваў артыкул, які фактычна мог паставіць крыж на планах забудовы Мінска. Машэраў ужо даўно нацэліўся на тое, каб надаць беларускай сталіцы камуністычны дух. З гэтай мэтай планавалася знішчыць будынак тэатра імя Янкі Купалы, а таксама шэраг старажытных пабудоў у раёне сталічнай Нямігі.

Артыкул Зянона Пазьняка і Лявона Баразны, без перабольшвання, выратаваў шмат гістарычных помнікаў сталіцы, хаця «добраўпарадкаванне» Мінска і працягнулася.

З тых часоў у Пазьняка і Баразны пачаліся праблемы. Лёс Лявона Баразны склаўся трагічна: летам 1972 года ён быў забіты ў Мінску вулічнымі хуліганамі. Зянон Пазьняк заўсёды сцвярджаў, што смерць Лявона — справа рук КДБ.

Сам Пазьняк за сваю актыўную грамадзянскую пазіцыю цкаваўся ўладамі, неаднаразова пазбаўляўся працы. Ён страціў магчымасць абараніць кандыдацкую дысертацыю ў БССР — дысертацыя на працягу пяці гадзін абаранялася ў Ленінградзе. Нейкая стабільнасць у жыцці Пазьняка наступіла, калі яму было ўжо за сорак. Ён працаваў старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі АН БССР, ладзіў археалагічныя раскопкі, у «Літаратуры і мастацтве» пісаў пра фатаграфічную працу.

### Шлях у палітыку

З прыходам перабудовы Гарбачова такі чалавек, як Пазьняк, канешне, не мог застацца ўбаку. Ён наладзіў сувязь з так званымі «нефармаламі» («Талака», «Тутэйшыя», «Паходня» і іншыя). Спачатку дзейнасць гэтых арганізацый не выходзіла за межы ўдзелу ў рэканструкцыі помнікаў даўніны, папулярызацыі беларускай мовы і культуры, экалагічных мерапрыемстваў. Таму афіцыйныя ўлады не толькі не перашкаджалі, але і нават падтрымлівалі іх, спрабуючы задобрыць, прадухіліць магчымую незадаволенасць моладзі, дэманстравалі салідарнасць з ёй.

Больш-менш прымальныя адносіны паміж «нефармаламі» і афіцыйнымі коламі маглі быць толькі да таго часу, пакуль не была перакрочаная пэўная рыса.

Фармальнай прычынай супрацьстаяння сталічных «нефармалаў» і рэспубліканскіх уладаў стала будаўніцтва новай лініі метро ў раёне Нямігі, што пагражала захаванасці аднаго за знакамітых помнікаў Мінска — Кафедральнага сабору. Працаўнікаў метро падтрымаў Васіль Быкаў. У газеце «Известия» ў сакавіку 1988 года было апублікавана інтэрв’ю народнага пісьменніка, які выказаў сумнеў у мэтазгоднасці «падзямкі» ў гістарычным цэнтры сталіцы.

Пазьняк выступіў на мітынгу супраць будаўніцтва метро, які арганізавалі актывісты «Талакі» 20 сакавіка 1988 года. Удзельнікі мітынгу ахарактарызавалі выступоўцу як «шматпакутнага мастацтвазнаўцу і глыбокага знаўцу гісторыі свайго народа». Пасля гэтага афіцыйныя выданні, у прыватнасці, газета «Вечерний Минск», пачалі кампанію дыскрэдытацыі Зянона Пазьняка. У адной з публікацый кандыдата мастацтвазнаўства абвінавацілі ў экзальтаваных закліках, беспадстаўным «критиканстве» ўчынкаў савецкай бюракратыі, якая нібыта разбурыла ў Беларусі больш помнікаў, чым нямецка-фашысцкія захопнікі.

Да крытыкі Пазьняка далучыўся партыйны камітэт па месцы яго працы ў Інстытуце гісторыі АН БССР. Мастацтвазнаўцу закідаліся не толькі эмацыйнасць і катэгарычнасць у меркаваннях, але і ***«отход от классовых оценок некоторых общественно-политических явлений»***, што, паводле парткама, з’яўлялася ***«недопустимым в институте идеологического профиля»***.

У абарону Пазьняка выступіла ліберальная газета «Літаратура і мастацтва». Пазіцыю парткама выданне ацаніла як прыклад бюракратычнай падстрахоўкі і чарговай «разбіралаўкі».

Да восені 1988 года Зянон Пазьняк стаў даволі вядомай грамадскай асобай не толькі ў Беларусі, але і ў СССР. Бо ў чэрвені таго года ў той жа газеце «Літаратура і мастацтва» быў апублікаваны знакаміты артыкул «Курапаты — дарога смерці», у якім ішла гаворка пра масавыя расстрэлы на Беларусі ў 1930-я гады.

Артыкул Пазьняка і Шмыгалёва (з уступным словам Васіля Быкава) быў нечаканасцю для пераважнай большасці беларускіх грамадзян. Больш за тое, артыкул меў канкрэтныя прававыя наступствы: 14 чэрвеня 1988 года была створана ўрадавая камісія, якая сумесна з Пракуратурай БССР распачала расследаванне падзей у Курапатах.

У гэты час ужо ішла падрыхтоўка да ўстаноўчага сходу Беларускага народнага фронту за перабудову «Адраджэнне». Праз супраціўленне беларускіх уладаў устаноўчы сход адбыўся за межамі Беларусі, у Вільні ў канцы чэрвеня 1989 года. Галоўная задача, якая паўстала перад новым рухам, палягала ў тым, каб перамагчы на выбарах у Вярхоўны Савет Беларусі 12-га склікання.

БНФ ішоў на выбары пад лозунгам «Галасую за Беларусь!», а сам Пазьняк балатаваўся па сталічнай Ангарскай выбарчай акрузе №9. Акрамя Пазьняка на запаветны дэпутацкі мандат прэтэндавалі яшчэ пяць чалавек, аднак сціплы старшы навуковы супрацоўнік перамог усіх ужо ў першым туры 4 сакавіка 1990 года.

### «С вами, товарищ Позняк, можно и нужно работать!»

Пры абмеркаванні кандыдатуры Зянона Пазьняка на пасаду старшыні камісіі пры Вярхоўным Савеце Беларускай ССР па аказанні садзейнічання ў забеспячэнні правоў і інтарэсаў рэабілітаваных і ўвекавечанні памяці ахвяр рэпрэсій у перыяд 30-х — 40-х і пачатку 50-х дэпутат Аляксандр Лукашэнка сказаў: ***«С вами, товарищ Позняк, не только можно, но и нужно работать, учитывая сегодняшнюю обстановку в нашем обществе. Я уже, кстати, о вас говорил ранее в своем выступлении, как о грамотном и, видимо, талантливом человеке. Я уважаю вас за веру в вашу идею, хотя, в общем, её и не разделяю. Но я уважаю вас за это и должен сказать как коммунист: если бы мы все верили в свою идею так, как верит Позняк, у нас бы проблемы решались проще».*** Было гэта 20 чэрвеня 1990 года

Камуністычная большасць у Вярхоўным Савеце тады не пусціла Пазьняка на пасаду старшыні камісіі, аднак кожны другі дэпутат быў гатовы падпісацца пад словамі Лукашэнкі.

Спроба кіраўніка парламенцкай апазіцыі заняць пасаду старшыні камісіі не была пазбаўлена логікі: Пазьняк меркаваў, што, распавёўшы свету пра месца масавых забойстваў у Курапатах, ён мае і юрыдычнае, і маральнае права кіраваць такой камісіяй. На той час яе статус быў значна ніжэйшы за статус пастаянных, дый нават часовых камісій Вярхоўнага Савета: яе старшыня не ўваходзіў у Прэзідыум ВС і не атрымліваў фіксаванай заработнай платы. Сама камісія не валодала кантрольнымі функцыямі і не мела права заканадаўчай ініцыятывы: фактычна, гэта быў дарадчы орган без істотных паўнамоцтваў. Аднак пад канец 1980-х гадоў пытанне рэабілітацыі незаконна асуджаных стала адной з важных праблемаў у савецкім грамадстве.

У Вярхоўным Савеце Зянону Пазьняку ўдалося сфармаваць дэпутацкую групу аднадумцаў, якія былі разам да канца. Амаль на трыста чалавек у парламенце іх было толькі 28, аднак карысна яны зрабілі больш, чым усе астатнія. Дастаткова прагледзець архіўныя матэрыялы: на кожны законапраект апазіцыя БНФ прапаноўвала свой. На чарговай другой сесіі Вярхоўнага Савета ў кастрычніку 1990 года Віктар Ганчар назваў ***«депутатским подвигом»*** законапраект апазіцыі БНФ аб уласнасці.

Галоўным ідэолагам БНФ, распрацоўнікам асноўных канцэпцый Беларускага народнага фронту, бясспрэчна, з’яўляўся Пазьняк.

На працягу 1990–1991 гадоў дэпутацкая група БНФ у Вярхоўным Савеце Беларусі 12-га склікання аформілася як рэальная палітычная сіла. Яе характарызавалі ўласная ідэйная платформа, адмысловыя формы і метады парламенцкай дзейнасці, у тым ліку і заканатворчай. Усё гэта дае падставу трактаваць яе як парламенцкую апазіцыю ў класічным разуменні гэтага тэрміна.

### Перамогі і паразы

Сярод перамог, безумоўна, гэта здабыццё Беларуссю незалежнасці (наданне Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце статусу канстытуцыйнага закона 25 жніўня 1991 года і распад СССР). Канешне, гэта зацвярджэнне бел-чырвона-белага сцяга і герба «Пагоня» ў якасці дзяржаўных сімвалаў.

Змяніць ход палітычнай гісторыі ўжо незалежнай Беларусі БНФ мог у 1992 годзе. Свае палітычныя і асабістыя надзеі Пазьняк звязваў з рэферэндумам аб датэрміновым роспуску Вярхоўнага Савета 12 склікання і прызначэнні новых выбараў. Прыхільнікі Пазьняка сабралі звыш 350 тысяч подпісаў на карысць рэферэндуму. Аднак 29 кастрычніка 1992 года парламенцкая большасць, што абапералася на даклад старшыні пастаяннай камісіі па заканадаўстве Дзмітрыя Булахава, адмовілася ад правядзення рэферэндуму. Гэта можна лічыць паразай.

Адна з неад’емных рысаў Пазьняка — не лавіць кан’юнктуршчыну, казаць толькі тое, што думаеш. Рыса, добрая для чалавека, але дрэнная для палітыка. Напрыклад, публікацыя яго артыкула «О русском империализме и его опасности» ў студзені 1994 года адштурхнула ад БНФ патэнцыяльных выбаршчыкаў. Ці разумеў гэта Пазьняк? Канешне, разумеў, аднак вырашыў выказаці свой пункт погляду, які праз чвэрць стагоддзя цалкам пацвердзіўся.

Пазьняк адным з першых угледзеў палітычныя папулізм Аляксандра Лукашэнкі і ўсяляк заклікаў не галасаваць за дырэктара саўгаса, лічачы, што гэты чалавек завядзе краіну ў тупік і яшчэ больш прымацуе да Расіі. Прайшлі дзясяцігоддзі — і зараз сам Лукашэнка вымушаны праграмаваць тыя рэчы, якія калісьці казаў Пазьняк: незалежнасць, суверэнітэт, дыверсіфікацыя і іншае.

Магчыма, лідару БНФ часам не хапала гнуткасці і дыпламатычнасці. Аднак ніхто не сумняваўся ў крыштальнай сумленнасці Зянона Пазьняка, адсутнасці ўсялякіх матэрыяльных мэтаў, калі гаворка ішла пра Беларусь.

Што найбольш за ўсё закідаецца Пазьняку, дык гэта яго эміграцыя ў 1996 годзе. Не трэба, праўда, забывацца, што жыццё — галоўнае ў чалавека. Магчыма, Пазьняк, як чалавек з добрай інтуіцыяй, адчуў для сябе сапраўдную небяспеку. Віктар Ганчар, Юрый Захаранка, Генадзь Карпенка і іншыя, відаць, гэтага не ўсвядомілі, кінулі выклік рэжыму і расплаціліся за гэта жыццём.

***Рэдакцыя НЧ шчыра віншуе Зянона Пазьняка з 75-годдзем і зычыць хуткага вяртання на Радзіму.***

# Чарнобыльская катастрофа агульная, музей адзін

Алена ЛАПЦЁНАК

**«Est dolendi modus, non est timendi. Ёсць мяжа ў смутку, але няма яе ў трывозе», — гэтымі словамі сустракае наведвальнікаў Нацыянальны музей «Чарнобыль» у Кіеве.**

Найбольшы след Чарнобыльская трагедыя пакінула менавіта на беларускай зямлі: тысячы жыхароў, адселеных з забруджанай тэрыторыі, апусцелыя дамы, пакінутая зямля. Забруджванне радыеактыўным цэзіем-137 выглядае так: Украіна — 6,9% ад агульнай плошчы, Расія — 0,34%, еўрапейскай часткі — 1,46% і Беларусь — 23,3% тэрыторыі.

Калі я апынулася па справах у Кіеве, наведала адзіны ў свеце тэматычны Чарнобыльскі музей. У Беларусі хіба толькі ў Хойніках у складзе краязнаўчага музея існуе невялікая экспазіцыя, прысвечаная аварыі на ЧАЭС, але адмыслова туды не паедзеш, хіба ў складзе цікавага тура. У 2014 годзе Гомельскае абласное ўпраўленне МНС заклікала грамадзян дапамагчы з экспанатамі, каб у будучыні ў горадзе з'явіўся музей Чарнобыля, ды калі тое яшчэ будзе! Сёння нават беларускі віртуальны музей чарнобыльскай катастрофы, створаны тры гады таму да 30-годдзя па даручэнні Дэпартамента па ліквідацыі наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС МНС, ужо недасяжны па заяўленых адрасах: ***чернобыль.бел*** і ***chernobyil.by.***




А вось музей Чарнобыля ва ўкраінскай сталіцы знаходзіцца ў самым цэнтры, на Падоле, побач з Андрэеўскім спускам, помнікам асветніку-гуманісту Георгію Скаварадзе, дзе ў сквэрыку і ўдзень, і ўвечары спакойна сабе тусіць моладзь. Дабрацца да яго і знайсці не складана, тут заўсёды шмат народу.

Адразу на ўваходзе направа размешчаная часовая выстава лялек народнай украінскай мастачкі, злева — каса і невялічкая японская экспазіцыя, звязаная з аварыяй на Фукусіма–1 у 2011 годзе.

Квіток у музей каштуе 24 грыўні, гэта недзе 1 рубель 80 капеек, і асобная даплата за фатаграфаванне па жаданні. Калі наведваць экспазіцыю без экскурсавода, то варта браць аўдыёгід, інакш многія моманты застануцца незразумелымі. Расповед падрабязны, доўжыцца паўтары гадзіны. Замежнікаў прыходзіць шмат, аўдыёгіды — на 6 мовах, яны вельмі запатрабаваныя і на ўсіх не хапае.

За дзве гадзіны ад пачатку працы музей ужо наведалі каля 140 чалавек. Каля інфармацыйнай стойкі набывае квіткі сям'я палякаў. На жаль, на польскай мове аўдыёгіду няма. Няма і буклетаў — кажуць, калісьці выпускалі, ды яны скончыліся, новыя падрыхтаваць пакуль не выпадае. Таксама разабралі сувеніры — памятныя драўляныя медалі. Але ж асноўнае — гэта ўражанні, яны абавязкова застануцца!

Створаны і адкрыты 27 гадоў таму, музей на сённяшні дзень наведалі каля 2,5 мільёна чалавек з 120 краінаў свету, штомесяц глядзяць экспазіцыю прадстаўнікі 50–60 краін. Пасля Фукусімы здарылася новая хваля цікавасці, а па кансультацыі ў музей звяртаюцца кінадакументалісты, здымаюць стужкі. Некаторыя наведвальнікі прыходзяць і не адзін раз.

Экспазіцыя музея насамрэч багатая: мноства прадметаў, дакументаў, фотаздымкаў, цікавых рэчаў — каля 9000 экспанатаў і вельмі шмат інфармацыі. Здаецца, усяго адзін паверх з чатырох залаў ды лесвіца — я сама правяла там некалькі гадзін.

Падымаюся па прыступках, чытаю назвы спусцелых украінскіх населеных пунктаў — так, выключна ўкраінскіх, беларускі бок у музеі не адлюстраваны. Рушнік. Звон. Абраз. Першая зала. Макет станцыі, ліквідатары ў паветры. На ўсіх вітрынах — адваротны адлік.

Група школьнікаў. Экскурсавод паказвае, як працуе дыярама, што знаходзіцца пасярэдзіне залы. Дакументы, фотаздымкі, асабістыя рэчы — шмат што можна памацаць рукамі. У 2010 годзе з'явіліся інфармацыйныя тэрміналы — базы дадзеных, інтэрактыўная віктарына на ўкраінскай, рускай і англійскай мовах.

Маю ўвагу прыцягвае тумба з электронным экранам, дзе на карце паказана, як распаўсюджвалася радыяцыя.

Экалагічная карта свету з усімі пазначанымі атамнымі дзеючымі станцыямі і тымі, што зачыненыя альбо будуюцца, школднымі хімічнымі вытворчасцямі, забруджанымі тэрыторыямі. На ёй пакуль няма нашай Астравецкай АЭС, бо карта 2012 года і патрабуе ўжо ўдакладнення.

Што з сябе ўяўляе рэактар АЭС, чаму менавіта такія рэактары РБМК-1000 (рэактар вялікай магутнасці канальны) былі ў Савецкім Саюзе, у чым спецыфіка атамнай энергетыкі савецкай дзяржавы, бо ні ў адной іншай краіне свету такіх не было.

Размаўляю з навуковай кіраўніцай музея Ганнай Вітальеўнай Каралеўскай, якая працуе ад самага пачатку, з 1992 года.

— Ініцыятыва зыходзіла ад пажарных Кіеўскай вобласці, якія першымі выехалі на месца аварыі, шасцёра іх таварышаў загінулі. Для стварэння музея, дзеля ўшанавання памяці пажарных, запрасілі спецыялістаў, а мы ўжо адчулі неабходнасць больш шырокага падыходу і стварэнні музея нацыянальнай трагедыі. За чатыры гады экспазіцыя была абноўленая на 80 працэнтаў, калі ў 1992 годзе ў нас было 250 экспанатаў, то ў 1996-м іх стала ўжо 7000. З тых, хто пачынаў, сёння я засталася адна, калегі сышлі з жыцця.

Музей атрымаў статус нацыянальнага, павялічыўся штат да сямі навуковых супрацоўнікаў, хоць і іх замала для таго, каб, скажам, актыўней папаўняць сайт — тут патрэбны дадатковы спецыяліст. Па словах спадарыні Ганны, чалавечых рэсурсаў не хапае, бо музей жывы, ён развіваецца, адначасова працягвае збіраць экспанаты, вядзе выставачную працу, арганізоўвае студэнцкія канферэнцыі. Аднак асноўная складанасць заключаецца ў тым, што многія артэфакты, рэліквіі радыяцыйна забруджаныя, таму не могуць быць прадстаўленыя. Тое, што знаходзіцца на экспазіцыі, прайшло дэзактывацыю, альбо гэта інсталяцыі. Карты і дакументы з малымі дозамі забруджвання пэўным чынам упакаваныя. Усё бяспечна, узровень радыяцыі вымяраецца ў рэальным часе, ёсць два датчыкі, адзін з іх на ўваходзе.

«У зоне адчужэння сама я была каля 20-ці разоў, калі не больш, — распавядае Каралеўская. — Першыя гады мы нават ездзілі без дазіметраў — не было іх. Збіралі экспанаты, потым тут замяралі і вывозілі назад. На тэрыторыі да 2000 года знаходзілася дзеючая АЭС, якая давала электраэнергію, працягвалася дэзактывацыя, навука развівалася, там працавалі тысячы людзей, забяспечвалі яе функцыянаванне.

Сёння ў інтэрнэце вельмі шмат усялякіх міфаў, фэйкаў, звязаных з Чарнобылем, многія гады тэма была сакрэтная, дый цяпер яна не зусім адкрытая, але мы мусім гаварыць пра гэта дзеля будучыні. І нашу задачу бачым у тым, каб зрабіць інфармацыю даступнай людзям рознага ўзросту і рознай адукацыі. Распрацавана цэлая праграма менавіта экалагічнай накіраванасці для школьнікаў, студэнтаў, дзяцей, пачынаючы з пяці гадоў, якіх мы знаёмім з асновамі бяспекі жыцця».

Цікаўлюся ў спадарыні Ганны пра сувязі паміж нашымі краінамі, музейнае супрацоўніцтва. Фактычна ўсялякія кантакты адсутнічаюць за выключэннем пары выпадкаў:

— Я бывала ў Беларусі, знаёмая з беларускімі ліквідатарамі. Напрыканцы 2000 года тагачасны прэм'ер наведваў наш музей, падарыў карціну (мы размясцілі яе ў экспазіцыі) і прасіў мяне дапамагчы стварэнню музея Чарнобыля ў Мінску. Але далейшага працягу не было, на жаль.

У 2007 годзе нас запрасілі ў Мінск на праваслаўную канферэнцыю святароў, якія служаць у зоне адчужэння і на забруджаных тэрыторыях. Яна праводзілася пад эгідай МНС, я выступала з дакладам і адчула, што нейкай зацікаўленасці да нас ужо няма. Сумна, але мы адсочваем сітуацыю, таму што пра Беларусь таксама гаворым, атрымліваем беларускія матэрыялы.

Сапраўды шкада, бо кіеўскі музея Чарнобыля арганізуе і праводзіць розныя мерапрыемствы, сярод якіх і мастацкія выставы, возіць іх у еўрапейскія краіны. Здаецца, беларусы павінны ў тандэме працаваць над гэтай тэматыкай, мець шчыльныя сувязі, бо аварыя на ЧАЭС — тэхнагенная катастрофа наднацыянальнага ўзроўню.

Так, прыкра, што беларуская ўлада і народ не знаходзяць адну мову — і ў прамым, і ў пераносным сэнсе. Замест зберагання памяці — міліцэйскія кардоны і дручкі на «Чарнобыльскі шлях», бо гэта апазіцыйная акцыя. Дык зрабіце яе сваёй, выйдзіце таксама шчыльнымі радамі са сваімі дзяржаўнымі чырвона-зялёнымі сцягамі, праводзіць жа БРСМ Дні вышыванкі! Не народ знаходзіцца ў апазіцыі да ўлады, гэта чыноўнікі, прадстаўнікі ўлады знаходзяцца ў апазіцыі да свайго народа, да ягоных праблем, да ягоных турбот.





# Хуткасны рэжым поўнай дэмакратыі

Вікторыя ЛАЎНІКЕВІЧ

**Некалькі тыдняў перад прэзідэнцкімі выбарамі ва Украіне шчыльнасць падзей на адзінку часу зашкальвала: здача аналізаў, павышэнне рэйтынгу Парашэнкі, паніжэнне рэйтынгу Парашэнкі, фіктыўны замах на Зяленскага, дэбаты на стадыёне, суд у ноч перад прэзідэнцкімі выбарамі на ануляванне рэгістрацыі Зяленскага...**




У дзень галасавання склалася ўражанне, што выбаршчыкі проста стаміліся: і ад бясконцых спрэчак у сацыяльных сетках, і, у цэлым, ад знясільваючай кампаніі.

## Неверагодныя выбары

На гэтым фоне поўнага спакою ў нядзелю, 21 красавіка, ва Украіне прайшоў другі тур прэзідэнцкіх выбараў. Яны былі ахарактарызаваныя як самыя мірныя за шмат гадоў.

Для правядзення выбараў было створана 199 тэрытарыяльных выбарчых акругаў і адна замежная, а таксама каля 30 тысяч участковых выбаркамаў. За мяжой працаваў 101 выбарчы ўчастак. Прыкладная колькасць выбаршчыкаў — больш за 29 мільёнаў грамадзян. 325,6 тысячы ўкраінцаў скарысталіся часовым змяненнем месца галасавання. Права назіраць за выбарамі атрымалі 139 украінскіх грамадскіх арганізацый. ЦВК Украіны зарэгістраваў 2,7 тысячы афіцыйных назіральнікаў ад 20 міжнародных арганізацый і 21 замежнай дзяржавы.

Бяспеку галасавання забяспечвалі больш за 130 тысяч праваахоўнікаў. ЦВК павінен абвясціць вынікі не пазней, чым на дзясяты дзень пасля галасавання.

Значных парушэнняў выяўлена не было. Камітэт выбаршчыкаў Украіны фіксаваў факты недазволенай у дзень галасавання агітацыі ў сацыяльных сетках, несвоечасовае адкрыццё некаторых участкаў, няправільнае пламбаванне скрыняў для галасавання, няправільнае размяшчэнне інфармацыйных плакатаў кандыдатаў на ўчастках. Са смешнага: у розных раёнах Кіева на розных участках былі эпізоды з'ядання выбаршчыкамі сваіх запоўненых бюлетэняў. Зрэшты, у выніку ўсё абмяжоўвалася не санкцыямі, а жартамі пра «асаблівую вясновую дыету».

## У чаканні цудаў

Галоўнымі матывамі выбаршчыкаў, незалежна ад таго, за каго яны галасавалі, часта былі асабістыя сімпатыі альбо антыпатыі. Прыхільнікам абодвух кандыдатаў таксама было цяжка растлумачыць, напрыклад, якіх эканамічных рэформаў яны хочуць, хаця яны на іх настойвалі. Асабістае назіранне паказала, што за Парашэнку, у асноўным, галасавалі высокаадукаваныя людзі ўзроставай катэгорыі ад 37 да 50 гадоў альбо маладыя сем'і з дзецьмі. Электарат Зяленскага — пенсіянеры, моладзь, людзі з нізкай аплатай працы.

«Усе праблемы ў сацыяльна-эканамічнай сферы каманда Парашэнкі спісвала то на вайну, то на ўрад, які сфармаваны збольшага «Народным фронтам». Прапаганда падавала Парашэнку як «меншае зло» — з-за поўнай несправакаванасці Зяленскага ў пытаннях дзяржкіравання, адсутнасці падтрымкі дыпламатаў і вайскоўцаў, адсутнасці выразнай пазіцыі па ключавых пытаннях дзяржаўнага будаўніцтва, адсутнасці праграмы. Сюды ж: «вушы» Каламойскага, папулізм ды іншыя хібы, — заўважыў у каментары для НЧ журналіст украінскага выдання «Левы бераг» Андрэй Палівода. — З арганізацыйнага пункту гледжання Зяленскі няздольны нават эфектыўна правесці звычайную нараду па не вельмі добра вядомай яму тэме. Тыя круглыя сталы, якія ён ладзіў, больш падобныя на крэатыўную генерацыю жартаў для сцэнару — гэта яму блізка і зразумела. У Зяленскага ёсць вялікі электаральны плюс: калі Парашэнка жорстка антырасійскі, то Зяленскі — мякка. У Зяленскага — лепшыя крэатыўшчыкі, у Парашэнкі — лепшыя паліттэхнолагі. Але гэтага аказалася недастаткова».

Штаб Зяленскага размясціўся ў кангрэсна-выставачным цэнтры «Паркавы» непадалёк ад Вярхоўнай Рады. Як і падчас першага тура, у прэс-цэнтры былі настольныя гульні, працаваў бар з алкаголем: налівалі піва, італьянскае віно і шампанскае.

Прыхільнікі Пятра Парашэнкі дыслакаваліся ў нацыянальным культурна-мастацкім комплексе «Мыстецькый арсенал». У штабе была ўстаноўленая сцэна, на якой выступалі грамадскія дзеячы, палітыкі і валанцёры. Самае характэрнае, што ўжо ў 19:20, не чакаючы канца галасавання, у штабе Парашэнкі прызналі паразу свайго кандыдата.

Паводле дадзеных сацыялагічных апытанняў, выбаршчыкі Зяленскага чакаюць ад «Народнага Галабародзькі» ў першыя сто дзён ледзь не цуду:

— Зніжэння тарыфаў на камуналку — 39%.

— Прыняцця закона аб зняцці недатыкальнасці з суддзяў, дэпутатаў, прэзідэнта — 35,5%.

— Паскарэння або пачатку расследавання найбольш рэзанансных карупцыйных спраў — 32,4%.

— Пачатку перамоваў з Расіяй — 23,3%.

— Зніжэння заробкаў высокім чыноўнікам — 18,4%.

Цуду чакаюць ад Зяленскага, таму што Парашэнка на цуд аказаўся не здольным. Пры гэтым рацыянальных прычын меркаваць, што Зяленскі знізіць тарыфы на камунальныя паслугі альбо прымецца за расследаванне рэзанансных спраў, няма і быць не можа. Рэгуляцыя тарыфаў — вотчына Кабміна, карупцыйныя справы і пасадкі па іх — сфера кампетэнцыі пракуратуры і суда. Зрэшты, Зяленскі ўсяго вышэйпералічанага нават не абяцаў. Не абяцаў ён і зніжэння заробкаў чыноўнікам. Закон «Аб дзяржаўнай службе» быў прыняты Радай яшчэ ў 2015 годзе. Любое яго змяненне ў дадзены момант можа пацягнуць за сабой кадравы хаос у дзяржаўным кіраванні.

Адзінае, што на сёння знаходзіцца ў сферы кампетэнцыі Зяленскага, — пачатак перамоваў з Расіяй. Болей за тое, гэта адна з галоўных, пазначаных у Канстытуцыі Украіны, функцый прэзідэнта — кіраванне знешнепалітычнай дзейнасцю дзяржавы. Тым не менш, варта разумець, што перамовы па праблеме Крыма — вельмі працяглы працэс. Закрыць яго апаратыўна Зяленскаму і яго камандзе не ўдасца.

Прычым, дадзеныя сацыялагічных апытанняў не паказваюць поўнага малюнку «народнага рэваншу», таму што ўлічваюць толькі меркаванні тых, хто здолеў выразна сфармуляваць свае найменш абсурдныя чаканні. Асабіста я сустракала зусім дзікія прэтэнзіі да Парашэнкі — адпаведна, яны пяройдуць у спадчыну да Зяленскага, але ўжо ў форме патрабаванняў. Напрыклад, неабходнасць асабіста сачыць за катамі па раёнах альбо рэгулярна выязджаць на заліўку новага асфальту ў рэгіёнах.

«Перамога Уладзіміра Зяленскага можа запусціць поўны дэмантаж сістэмы грамадска-палітычных адносін. Гэта значыць, зробіць тое, чаго не ўдалося дасягнуць нават двум «Майданам», якія прайшлі ў краіне. Раней электарат глядзеў на любыя магчымыя змены толькі праз прызму ўнутрыэлітных канфліктаў, кланавай барацьбы. Ніхто не падзяляў ранейшых прэзідэнтаў па сутнасці, таму што іх кіраванне не прыводзіла да маштабнага абнаўлення элітаў, — сказаў НЧ украінскі сацыёлаг, выкладчык КНУ імя Тараса Шаўчэнкі Мікола Ахрыменка. — Фенаменальная папулярнасць Зяленскага тлумачыцца тым, што для выбаршчыкаў ён — новая асоба, якая мае значна больш сувязяў з першасным асяроддзем, гэта значыць, народам, чым з элітамі. Магчыма, такая падтрымка дазволіць яму запусціць працэс маштабнай цыркуляцыі эліты на ўсіх узроўнях улады з наступным укараненнем якасна новых механізмаў кіравання. Але старая эліта пры гэтым, вядома, будзе або цалкам знішчаная, або як мінімум выціснутая ў рэгіёны».

## Што далей?

Для Уладзіміра Зяленскага цяперашняя перамога на выбарах — гэта толькі пачатак. Яго поле для манеўру будзе значна абмежаванае Вярхоўнай Радай, якая здольная заблакаваць яго кадравыя і іншыя прынцыповыя рашэнні. Вынікам гэтага можа стаць расчараванне выбаршчыкаў у абранніку, які не здолее спраўдзіць іх чаканні. Гэта азначае, што адным з найбольш верагодных крокаў новага прэзідэнта можа стаць роспуск Вярхоўнай Рады з абвяшчэннем датэрміновых выбараў. Гэта таксама дасць магчымасць максімальна эксплуатаваць усплёск антыэлітных настрояў і правесці ў парламент максімальна магчымую колькасць прыхільнікаў — тых жа самых умоўных «новых асоб». Гаворка, вядома, ідзе пра яго партыю «Слуга народа».

Пра тое, што Зяленскі гатовы распусціць Вярхоўную Раду, ён сам казаў за некалькі дзён да выбараў у інтэрв'ю агенцтву «РБК-Украіна». Зрэшты, ён абмовіўся тады, што будзе дзейнічаць строга ў рамках закона. І гэта якраз можа зрабіць яго першы палітычны крызіс непераадольным. Калі Вярхоўная Рада сама не пагодзіцца на роспуск, зрабіць гэта будзе практычна немагчыма. Усё ж ва Украіне парламент — самы галоўны орган улады, і тут ніякія сілавікі па загадзе прэзідэнта на штурм Рады не пойдуць — не тая краіна.

А вось дэпутаты, калі здолеюць аб'яднацца супраць «зялёнага прэзідэнта», патэнцыйна могуць нават не дапусціць яго да ўлады — напрыклад, заблакаваць інаўгурацыю. Зараз у Вярхоўнай Радзе вельмі папулярная ідэя закона «Аб імпічменце», у якім, у прыватнасці, павінна быць прапісана абавязковае тэставанне прэзідэнта на алкаголь і наркотыкі. Зразумела, што гэтая ініцыятыва цалкам накіраваная на Зяленскага, на яго слабое месца — абвінавачванні ва ўжыванні псіхаактыўных рэчываў, — нарадзіліся не на пустым месцы. І справа пагоршылася пасля таго, як ён пачаў бегаць ад аналізаў — здаў толькі кроў у лабараторыі аднаго са сваіх сяброў, тады як Парашэнка — яшчэ і мачу, і валасы (у іх сляды наркотыкаў захоўваюцца гадамі).

Па законе інаўгурацыя павінна прайсці па абумоўленай працэдуры ў Вярхоўнай Радзе. Калі каманда Зяленскага праўдзе яе ў іншым месцы, яе легітымнасць будзе паспяхова аспрэчана ветэранамі Майдана, што выйдуць на вуліцы — а яны біцца любяць і ўмеюць. Гэта Украіна, тут магчыма ўсё. «Трэці тур выбараў» у яе гісторыі таксама ўжо быў.

У цэлым у гэтай кампаніі Зяленскі бліскуча вырашыў бягучую задачу — мабілізаваць усіх, хто стаміўся ад «старых» палітыкаў. Але праз пяць гадоў ці нават раней рэйтынг Парашэнкі можа дасягнуць узроўню «а я што казаў», і апаненты могуць папросту зноў памяняцца месцамі. Тым больш, што, згодна з апошняй інфармацыяй, Парашэнка ўжо прапанаваў Зяленскаму як будучаму прэзідэнту супрацоўніцтва, і той не адмовіўся, нягледзячы на рэзкую крытыку дзеянняў Парашэнкі і публічнае дыстанцыяванне ад яго палітычных прынцыпаў.

Працяг тэмы на стар. 19 »

Літаратурная Беларусь

Выпуск №4 (152)
(красавік)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by

Змест



# Побач з першымі

Зінаіда БАНДАРЭНКА

**Не скажу, што мне выпала часта кантактаваць з першымі асобамі дзяржавы, але некалькі разоў гэта было.**


Фота www.nn.by

…У чарговы раз святкавалі дзень Перамогі. Ветэранская калона на чале з кіраўніком краіны ішла ад будынка ЦК КПБ. У тыя часы кампартыяй і фактычна ўсёй краінай кіраваў Пётр Міронавіч Машэраў. Пакуль калона падыходзіла да плошчы Перамогі, мы з Уладзімірам Шаліхіным па чарзе бралі інтэрв'ю ў ветэранаў і герояў вайны. У мяне была размова з генералам Чайкам, калі да нас падбег адзін з тагачасных кадэбэшнікаў і закрычаў, каб хутчэй прыбіралі камеры, бо калона прайшла ўжо мост. Машэраў павінен быў стаць у самым цэнтры, гэта значыць на нашае месца. Генерал Чайка мяне спыніў: «Зіна, стой! Сёння — наш дзень!» Як я яго не пераконвала, не атрымалася. Машэраву прыйшлося стаць побач са мной.

Той момант трапіў на фота, якое мне пазней прынеслі з ЦК Кампартыі Беларусі, але Машэрава «адрэзалі», бо «ў нас не паложана». На фота засталіся толькі рукі кіраўніка беларускай кампартыі.

З Брэжневым мне таксама выпала сустрэцца. Але не так блізка, як з Машэравым.

Як вядома, званне горада-героя Мінску доўга не давалі. Масква ўпіралася. Маўляў, пра які гераізм можна гаварыць, калі немцы на трэці дзень вайны былі ўжо тут, а бамбіць горад пачалі з самага пачатку.

Тым не менш, на мой погляд, Мінск трэба было адзначыць. Бо былі ж тут і гераізм людзей, і партызанскі рух, і рэйкавая вайна. Цяпер, праўда, стаўленне да яе змянілася. Партызаны зробяць сваю справу і схаваюцца ў лес, а мясцовыя жыхары адказваюць перад немцамі, якія ў адказ знішчалі ўсё вакол.

Моцна дапамог справе ўзнагароды Мінска журналіст Мікалай Матукоўскі. Ён працаваў карэспандэнтам «Известий» і добра ведаў, як гэта пытанне можна «прабіць». Матукоўскі меў у Маскве добрыя сувязі, а яго энергічнасці і ўпартасці можна было нават пазайздросціць.


Зінаіда Бандарэнка і Аляксандр Тамковіч. Фота БАЖ

Рашэнне пра званне, у рэшце рэшт, было прынятае ў 1974 годзе. Трэба ўручаць ордэн Леніна і «Залатую зорку», а Брэжнеў усё хварэе…

Прыехаць жа генеральны сакратар ЦК КПСС змог толькі праз чатыры гады, 25 чэрвеня 1978 года. Тады яшчэ Машэраў быў жывы.

Як заўсёды, урачыстасці прызначылі ў Оперным тэатры, адкуль ішла прамая трансляцыя на ўвесь Савецкі Саюз.

Яшчэ з раніцы мяне і рэжысёра папярэдзілі: імпрэзу трэба скончыць не пазней за дзявятую гадзіну вечара. Дасведчаныя людзі шэптам патлумачылі, што гэта звязана з працягласцю дзейнасці стымулятараў, якія Брэжнеў меў у сэрцы. Праз кожныя дзве гадзіны трэба было рабіць нейкую падпітку.

І вось ідзе канцэрт. Я выходжу на сцэну і бачу, што Леаніда Ільіча пасадзілі не як звычайна пасярэдзіне шостага рада, дзе атачэнне і ахоўнікі рабілі пэўны квадрат, а з краю, бліжэй да выхаду.

Канцэрт спакойна ідзе. Бліжэй да абазначанага часу я бачу, што вакол яго пачалася мітусня. Праз некалькі хвілін выходжу аб'яўляць наступны нумар — і раптам назіраю, як яго падымаюць і літаральна нясуць да выхаду. Я аб'яўляю народны дзіцячы калектыў Палаца прафсаюзаў «Равеснік», якім тады кіравала Марына Бяльзацкая. Дзеці ўжо стаялі за маёй спіной, я толькі на крок адышла ад мікрафона, і раптам заслона — шух! — зачынілася.

На гэтым канцэрт завяршыўся.

Цягнік Брэжнева стаяў на вакзале, як кажуць, «пад парамі».

Так выпала, што мне ў той дзень таксама трэба было ехаць у Маскву на нейкі запіс. Мой цягнік быў наступным за брэжнеўскім.

У «Астанкіне» ўсе адразу кінуліся з пытаннямі наконт здарэння на канцэрце ў Мінску. Нехта з маскоўскіх калег шэптам спытаў: «А можа ЁН ужо сканаў?»

Я адказала адмоўна. Маўляў, пакуль жывы.

Абставіны маёй сустрэчы з М. С. Гарбачовым былі зусім іншымі.

У СССР віравала перабудова.

У якасці Генеральнага сакратар ЦК КПСС у Мінску Міхаіл Сяргеевіч быў толькі адзін раз у канцы зімы 1991 года.

Паўдня ён наведваў розныя прадпрыемствы, потым быў кароткі абед і канцэрт у філармоніі.

Але любіў Міхаіл Сяргеевіч некалькі часоў пагаварыць на вуліцы з людзьмі, і мы, артысты, у нейкім сэнсе аказаліся закладнікамі гэтай ягонай «любві».

Трансляцыі не было. Натуральна, каб падрыхтавацца, я прыйшла ў філармонію значна раней. На ўваходзе праверылі дакументы.

Па завядзёнцы ўзяла ключ ад касцюмернага пакоя на другім паверсе, там звычайна пераапраналіся салісты і вядоўцы. Але туды не пускаюць спецслужбы.

Усіх адпраўляюць пераапранацца ў падвал.

Калі казаць вельмі мякка, гэта было не вельмі добра. Удзельнікаў канцэрта было некалькі сотняў. А падвал цяжка назваць касцюмернай. Выкарыстоўвалася гэтае памяшканне для складзіравання рознага скарбу філармоніі: інструменту, дэкарацый і г.д.

Божа мой! Мне толькі-толькі пашылі новы канцэртны строй. Напэўна, у ім быў мой першы выхад на сцэну.

Мадэльер Дома мадэляў Іна Булгакава намалявала вельмі прыгожы эскіз! Гэта быў цуд! З белага крэпдышына, увесь расшыты золатам, буйны арнамент нацыянальнай вышыванкі ў карычневым колеры выглядаў стылёва і вельмі сучасна.

Словам, для падвала гэта не пасавала.

Я падышла да супрацоўніка КДБ: «Калі ласка, прапусціце. Там касцюмерка, люстэрка, усе мае грымёрныя прылады!».

На шчасце, ён пагадзіўся і прайшоў са мной, праверыў, ці закрытая фортка і параіў не падыходзіць да акна.

Было гэта за гадзіну да запланаванага пачатку канцэрта. Канечне ж, Гарбачова яшчэ не было. Я спусцілася ўніз і расказала пра ўсё рэжысёру канцэрта Валянціну Дудкевічу, які і сёння з'яўляецца мастацкім кіраўніком Дзяржаўнага ансамбля танца Беларусі.

Вокны касцюмернай выходзяць на вуліцу, якая цяпер называецца «Бульвар Мулявіна». Менавіта з гэтага боку павінен быў прыехаць Гарбачоў і з бакавога ўваходу ўвайсці ў філармонію. Там ужо быў засланы чырвоны дыван.

Час ад часу я паглядала ў вакно. Картэж генсека нарэшце пад'ехаў. З машыны выйшлі Міхаіл Сяргеевіч і яго жонка Раіса Максімаўна. Імгненна вакол іх аказалася процьма людзей, і Гарбачоў затрымаўся яшчэ на гадзіну.

Бедныя артысты, якія ўвесь гэты час туліліся ў падвале!

У рэшце рэшт Гарбачоў з жонкай накіраваліся ў канцэртную залу, а я таксама спусцілася ўніз за кулісы. Мы з Дудкевічам пачалі назіраць у дзірачку, якая на ўсіх сцэнічных заслонах зроблена спецыяльна.

Міхаіл Сяргеевіч павольна з Раісай Максімаўнай падышлі да свайго шостага рада, які быў увесь пусты, і пачалі дзякаваць паклонамі. Атрымліваю каманду — выходзь. Адчуваю, што яшчэ рана, бо чую моцныя апладысменты, а яны ўсё кланяюцца. Мяне літаральна выпіхвалі на сцэну, а я ўпіралася. Як толькі адчула, што ў зале цішыня, выйшла за генеральны занавес да мікрафона.

Зала зноў узарвалася апладысментамі. На мой погляд, не мне, а строю, які пашыла Іна Булгакава. Потым я так ёй і сказала. Настолькі гэта было шыкоўна!

Шкада, што аддала яго ў грымёрку. Напэўна, ужо выкінулі.

На працягу ўсяго канцэрта Раіса Максімаўна нешта запісвала ў нататнік. За гэтым назіралі ўсе ўдзельнікі канцэрту. Потым мы на гэты конт доўга жартавалі. І не раз гадалі, што там магло быць.

Мне крыху незразумела, чаму Раіса Максімаўна так не падабалася людзям — першая лэдзі краіны, разумная, заўсёды прыгожа апранутая. Гэта не Ніна Пятроўна Хрушчова альбо Вікторыя Брэжнева, за якіх нам заўсёды было сорамна.

Наколькі мне вядома, у першых лэдзі завядзёнка — ніколі не паўтарацца і двойчы не выходзіць на публіку ў адным і тым жа строі.

І ўвогуле, да сваіх строяў некаторыя ставяцца вельмі раўніва…

Асабіста ў мяне была вельмі непрыемная гісторыя, звязаная з жонкай Ціхана Якаўлевіча Кісялёва (які тады быў старшынёй саўміна Беларусі, а пасля смерці Машэрава ўзначаліў кампартыю краіны) Нінай Фёдараўнай.

Працяг на стар. 9 (3) »

## У «Дэбюце» толькі дзяўчаты

**Прэмію «Дэбют» 2019 года атрымалі Галіна Сіўчанка за кнігу паэзіі «Зоў звычаю», Паўліна Вітушчанка за пераклад з літоўскай мовы рамана Рычарда Гавяліса «Віленскі покер» і Дар'я Трайдэн за зборнік апавяданняў «Крыштальная ноч».**

Кожная пераможца атрымала ад фонда «Вяртанне» грашовую ўзнагароду ў памеры 4200 беларускіх рублёў.

Таксама фіналісты намінацый «Проза» Алесь Кіркевіч («Самурай») і Стэфан Корф («Палескі дыярыуш дывізіі Серакоўскага») ды ў намінацыі «Паэзія» Алесь Замкоўскі («Наступны прыпынак») і Стась Карпаў («Канцылярыі розных спраў») атрымалі заахвочвальныя прызы — 1000 беларускіх рублёў.

У сёлетняе журы прэміі ўвайшлі Павел Берагавіч, Леанід Галубовіч, Адам Глобус, Вера Жыбуль (Бурлак), Ганна Кісліцына, Андрэй Хадановіч, Ганна Янкута.

Прэмія «Дэбют» імя Максіма Багдановіча была заснаваная ў 2010 годзе Дабрачынным фондам «Вяртанне», Саюзам беларускіх пісьменнікаў і Беларускім ПЭН-цэнтрам.

## Кнігі-лаўрэаты Прэмій Цёткі і Глінянага Вялеса

**Сёлета падчас фестывалю інтэлектуальнай кнігі «Прадмова» адбыліся цырымоніі ўручэння цэлага шэрагу літаратурных прэмій.**

Фактычна ўсе лаўрэаты і лаўрэаткі — сябры нашай арганізацыі. Так, лаўрэатам прэміі імя Францішка Багушэвіча быў названы Васіль Герасімчык, аўтар кнігі пра Кастуся Каліноўскага. Найлепшай дзіцячай кнігай мінулага года і кнігай-лаўрэаткай Прэміі Цёткі сталі «Фантазюркі» Веры Бурлак, а ў намінацыі «Найлепшыя ілюстрацыі» першай была прызнаная праца Кацярыны Дубовік, якая стварыла мастацкі свет кнігі Надзеі Ясмінскай «Чаму Меша не мае хаты», што выйшла ў серыі Саюза беларускіх пісьменнікаў «Каляровы ровар». Ужо другі раз запар найлепш ілюстраванымі прызнаюцца кнігі нашай серыі, летась улаўраваныя былі ілюстрацыі Лізаветы Лянкевіч да кнігі Рыгора Барадуліна «Азбука. Вясёлы вулей».

Новым лаўрэатам прэміі «Гліняны Вялес», заснаванай Алесем Аркушам і Таварыствам вольных літаратараў, стаў Ілля Сін за кнігу «Libido», якая выйшла ў серыі СБП «Кнігарня пісьменніка».

Шчыра віншуем усіх пераможцаў!

**Прэс-служба СБП**

## Барыс Пятровіч: «Ідзі адзін»

«Так, гэта быў 1993 год. Мне 33 гады. Узрост самі ведаеце каго. Узрост, калі хочаш ня хочаш, а падумаеш: вось і ўсё… Жыццё пражыта. Вучэньне ня створана. Вучняў няма. Адчай несусветны.

Хтосьці да такіх гадоў увогуле не дажыў. Засіліўся. Застрэліўся. Утапіўся. Загінуў, словам… Але яны пакінулі напамін пра сябе. Метку. Спадчыну. Здалелі. Засталіся… І мы памятаем пра іх, ведаем, а то і вывучаем. У школе. Ва ўнівэрсітэце. А значыць — не дарэмна…

А тут — беспрасьветнасьць. Поўная. І ўсе мары ідуць у пясок. У тупую штодзённую працу, дзеля таго самага кавалка штодзённага…

Як жыць далей? Як?!

А жыць трэба. Калі ня дзеля сябе, дык дзеля таго, каго (так бяздумна, неабачліва!) на сьвет гэты пусьціў.

Трэба жыць. Сам загнаў сябе ў кут. Але хочацца, каб таксама не марна. Каб выканаць тую місію, дзеля якой (магчыма, дужа няпэўна, сумнеўна бясконца, але ўсё ж — магчыма), і ты зьявіўся на гэтым сьвеце і пакінуты тут…

Значыць, нягледзячы ні на што трэба кожны дзень працаваць. Над сабой. Над сваім. Над тым, што, магчыма, застанецца. Нават, калі яно не застанецца. А проста будзе.




Па праўдзе сказаць, я забыў пра тыя запісы. Але, колькі гадоў таму, пераязджаючы на іншую кватэру, натыкнуўся на іх. Перабраў-перагледзеў, і з таго часу не даюць яны мне спакою. Не адпускае думка: а чаму б і сапраўды не надрукаваць іх так, як пісалася некалі? Бяз правак, бяз зьменаў...»

Гэтая незвычайная кніга Барыса Пятровіча складаецца з запісаў, зробленых у далёкім студзені 1993 года, калі аўтар вырашыў весці дзённік, а таксама штодзень пісаць кароткую прозу ў прыдуманых ім жанрах: мроях, пліпіках, апофрыках. У выніку атрымаўся адзін месяц жыцця, асветлены з розных бакоў, — асабістага, грамадскага, творчага… Другой «дзейнай асобай» гэтай кнігі з'яўляецца маладая дзяржава Беларусь, якой яна была ў студзені 1993 года. Такім чынам, чытачам прапануецца ўсяго адзін месяц з жыцця чалавека і краіны, якіх ужо няма. Бо час змяніў іх незваротна.

# Вясновыя вакацыі з Саюзам і «Будзьма!»

**Крочыць па зямлі вясна! І нашыя сябры не сядзяць на месцы — ладзяць новыя цікавыя сустрэчы-імпрэзы.**

Нядаўна завітаў у Пружаны спадар Аляксей Шэйн, каб пабачыцца з прыхільнікамі жанру фэнтэзі. Удзельнікі імпрэзы (а імі былі вучні 5-7 класаў) прайшлі шляхам узнікнення жанру фэнтэзі: даведаліся, хто быў яго прадвеснікам; пагаварылі пра бацькоў-заснавальнікаў (Льюіса і Толкіна), а таксама пра тых, хто піша фэнтэзі і прыгодніцкую літаратуру ў Беларусі сёння.

У мінскай бібліятэцы № 14 імя Ф. Багушэвіча адбылася літаратурна-музычная імпрэза з прэзентацыяй анталогіі беларускай жаночай паэзіі міжваеннага перыяду «Бліскавіцы». Перад слухачамі выступілі ўкладальнікі анталогіі, літаратуразнаўцы і паэты Аксана Данільчык і Віктар Жыбуль, музычную частку забяспечыў вакаліст і гітарыст гурта «Балцкі Субстрат» Максім Іўкін. Прагучалі вершы Зінаіды Бандарынай, Наталлі Вішнеўскай, Яўгеніі Пфляўмбаўм, Ядвігі Бяганскай, Наталлі Арсенневай, Арыны Глінскай, Эдзі Агняцвет, Ірыны Каганоўскай, песні на словы Н. Арсенневай, Казіміра Сваяка, Сяргея Дарожнага, Юліі Таўбіна, а таксама расповеды пра пакручастыя лёсы паэтак міжваеннага часу.

На Тыдзень дзіцячай кнігі святочныя імпрэзы таксама адбыліся ў дзіцячай бібліятэцы № 14. Туды завіталі чарговыя госці — музычна-літаратурны дуэт: спявачка Таццяна Грыневіч-Матафонава і пісьменнік, літаратуразнаўца Міхась Скобла. Спачатку прыгожа і мелагучна выступіла спадарыня Таццяна. Яна выканала песню пад гітару пад назвай «Дзынь, дзынь, школьны званок!», — бо гэта тэма асабліва актуальна для школьнай аўдыторыі. А потым былі песні на словы Народных паэтаў Беларусі Р. Барадуліна «Трэба дома бываць часцей» і Я. Коласа «Мой родны кут, як ты мне мілы». Затым на сцэну выйшаў Міхась Скобла. Адразу малыя слухачы ажывіліся, бо пісьменнік надта вясёла, шчыра і жартоўна ўмее весці размову. Спадар Міхась зачытаў сваю вершаваю казку «Як грыбы на вайну збіраліся», а потым з дзецьмі правёў конкурс па тэме «Перакажы назвы грыбоў, якія сустракаюцца ў нашых лясах». Дзятва ажывілася, гаманіла, выкрыквала з месцаў, але перамагла ўсіх сціплая дзяўчынка Каця, якая пералічыла больш за сем назваў грыбоў (найперш тых, што апісваліся ў казцы пісьменніка) і атрымала не толькі прызы, але і званне «Заслужаны грыбнік Беларусі». Яшчэ былі загадкі, цудоўны вершык пра самую вялікую жывёлу ў свеце — пра Кіта, і шмат усмешак, жартаў і гумару. Самыя актыўныя слухачы атрымалі прызы: налепкі, шакалад і «Календары Пэтсана-2019» ад Саюза беларускіх пісьменнікаў і ГКК «Будзьма беларусамі!».

***P.S.** Калі Вы жадаеце зладзіць цікавую сустрэчу з ГКК «Будзьма беларусамі!» і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» у сваёй мясцовасці/установе, пішыце на скрыню: stasyaky88@gmail.com. Будзем рады новым сябрам!*

## Біл і Бола, Харланчук і Хітрык вяртаюцца

**У Міжнародны дзень дзіцячай кнігі і ў дзень, які ААН вызначыла Сусветным днём распаўсюду інфармацыі аб праблеме аўтызма, Саюз беларускіх пісьменнікаў прэзентаваў свой новы праект.**




Дыск «Суперкніга пра Біла з Болай», як і аўдыёкнігі пра Пэтсана і Фіндуса, агучылі акторы Павел Харланчук і Ганна Хітрык. Для найвядомейшай кнігі Гунілы Бэргстрэм Ганна Хітрык запісала і адмысловае музычнае суправаджэнне. Прадакшн-менеджаркай і прадзюсаркай запісу стала перакладчыца і выдавец Надзея Кандрусевіч.

…У хлопчыка Біла з'яўляецца маленькая сястрычка Бола — нагода для радасці, весялосці і гонару. Але час ідзе, і паступова сям'я пачынае разумець, што яна зусім не размаўляе. Кніга ў вершаванай форме распавядае пра жыццё маленькай дзяўчынкі, якая ніколі не будзе такой, як усе. Пра звязаныя з гэтым радасць і гора, надзею і роспач. Пра тое, наколькі мы гатовыя жыць побач з тымі, хто не падобны да нас. Але найперш гэтая кніга пра любоў.

«Суперкнігу пра Біла з Болаю» Гунілы Бэргстрэм падрадкова пераклалі на беларускую мову Надзея Кандрусевіч і Алеся Башарымава, а Андрэй Хадановіч зрабіў так, каб пераклад загучаў напоўніцу — эмацыйна і кранальна. У 2017 годзе кніга для дзяцей пабачыла свет у серыі «Каляровы ровар» Саюза беларускіх пісьменнікаў у выдавецтве «Кнігазбор».

Шведская пісьменніца Гуніла Бэргстрэм напісала каля 40 дзіцячых кніг, якія сама і праілюстравала. Яна пісала гісторыю Біла і Болы са сваёй уласнай сям'і: у яе двое дзяцей, а ў малодшай дачкі аўтызм.

Кнігі пра Біла і Болу — класіка шведскай літаратуры, яны шырока чытаюцца ў каледжах і навучальных установах. Паводле іх зняты анімацыйныя фільмы і зробленыя тэатральныя пастаноўкі. А ў 2012 годзе на кніжным кірмашы ў Гётэборгу Гуніле Бэргстрэм уручылі залаты медаль «за новы падыход у напісанні і афармленні дзіцячай кнігі з бездакорным адчуваннем дзіцячага светапогляду».

## След, вечна жывы

**Палуян Сяргей. След, вечна жывы: Творы. Успаміны. Прысвячэнні. Даследаванні / Сяргей Палуян; уклад., падрыхт. тэксту, агляд. аналіт. арт., прадмова і камент. Т. Кабржыцкай, В. Рагойшы. — Мінск: Кнігазбор, 2018. — 336 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Выпуск 114).**




Аснову выдання складае творчая спадчына самабытнага публіцыста, крытыка, празаіка і паэта Сяргея Палуяна (1891-1910), руплівa сабраная даследчыкамі ва ўкраінскай і беларускай перыёдыцы. У кнізе ўпершыню найбольш поўна прадстаўлены ўспаміны пра пісьменніка яго родных і знаёмых, мастацкія творы, прысвечаныя яму, матэрыялы па радаслоўе Палуянаў. Укладальнікі кнігі ставяць Сяргея Палуяна поруч з Янкам Купалам, Максімам Багдановічам, Вацлавам Ластоўскім, рашуча і доказна ўпісваюць яго асобу ў панараму гісторыка-філасофскіх, эстэтыка-культурных характарыстык беларускага адраджэння пачатку XX ст.

# Побач з першымі

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 1 (7)

Як вядома, заробкі ў дыктараў заўсёды былі даволі сціплымі. На адзенне нам давалі па сто рублёў на год. Потым нам ужо крышку дабавілі грошаў. Але гэта было значна пазней.

Астатняе мы набывалі за свой кошт. Усё кардынальна змянілася з прыходам каляровага тэлебачання. У нас з'явілася свая грымёрка, касцюмерка, а таксама грымёры і нават касцюмер.

Для мужчын вырашыць пытанне добрага строю было значна прасцей, а жанчынам заўсёды трэба было шукаць нейкія варыянты.

Адзінае, нас пускалі на базы, куды завозілі імпартныя рэчы.

А вось дзе шыць, прыходзілася шукаць самому. Калі я ўжо была мастацкім кіраўніком дыктарскай групы (14 чалавек), то пайшла на прыём да дырэктрысы пашывачнага атэльe Савета Міністраў. Тады гэта была Мар'яна Васільеўна Травіна. У нас адразу склаліся добрыя прыязныя адносіны, якія захаваліся на ўсё жыццё.

Да гэтага атэльe дыктараў Беларускага тэлебачання і «прымацавалі». Нашы бухгалтары пераводзілі туды грошы — і ніякіх праблем надалей не было.

Канешне, больш за ўсё строяў выпадала шыць мне, бо мне даводзілася весці безліч канцэртаў, у тым ліку і ўрадавых. Акрамя гэтага было шмат розных выездаў. І мне, як кажуць, прыходзілася круціцца. Не раз нешта купляць альбо шыць прыватным чынам. Аднойчы ў атэльe саўміна мне пашылі вельмі прыгожы новы строй. Я б сказала так: ён быў акадэмічна-эстрадным, больш прыстасаваным для канцэртаў. Гэта была тканіна з люрэкса французскай вытворчасці.

Тканіны ў партыйныя атэльe прывозілі з усяго свету. Калі ў крамлёўскую швейную майстэрню прыязджала дачка Леаніда Брэжнева Галіна і шыла сабе нейкі строй, то мясцовая дырэктрыса адразу загадвала: «Прыбраць!» І цэлы рулон некуды «знікаў», каб потым з яго не пашылі каму-небудзь яшчэ.

Напэўна, такая завядзёнка была і ў нас.

Першы раз у новай сукенцы я выйшла на канцэрце ў Палацы спорту. Два аддзяленні. Як заўсёды, у першым я выходзіла ў вышыванцы ці нацыянальным строі. А да другога пасавала новая сукенка. Усім артыстам яна вельмі спадабалася. Шчаслівая, я прыехала дадому. З раніцы прыходжу ў дыктарскую — і адразу тэлефонны званок ад Травінай. Мар'яна Васільеўна нейкім дзіўным голасам пацікавілася, у якой сукенцы я ўчора была. Адказала. Тады спытала, ці магу я зараз яе ўзяць і прыехаць у атэльe? Яна высылае па мяне машыну. Ну, думаю, –УСЁ.

Справа ў тым, што ззаду новай сукні была даволі вялікая шліца, якая для тых часоў лічылася занадта смелай. Падумалася, што нехта з чыноўнікаў звярнуў увагу. Аказалася, прычына зусім іншая...

Я прыехала ў атэльe. У Мар'яны Васільеўны быў чырвоны ад хвалявання твар. Я паклала на стол сукенку і спытала, што здарылася? Тая ў адказ: «Я зрабіла непапраўную памылку. Мы пашылі Вам сукенку з той самай тканіны, з якой раней рабілі касцюм Ніне Фёдараўне Кісялёвай!».

Так атрымалася, што менавіта ў гэтым самым касцюме яна прыйшла на канцэрт. Калі я ў другім аддзяленні з'явілася на сцэне, то ўсе астатнія жонкі, якія былі ў той самай ложы, пачалі ад задавальнення хмыкаць і зларадна паглядаць на Ніну Фёдараўну. Яна схапіла сваю сумачку і куляй вылецела вон.

Раніцай жонка Кісялёва была ў кабінеце Травінай. Як яна зняважвала і крычала на бедную Мар'яну Васільеўну, можна толькі здагадвацца, аднак фраза Травінай «Каб я не падсунула бліжэй да сябе гэтую папяльнічку, яна б, пэўна, кінула яе ў мяне!» гаворыць пра многае. Асабліва, калі ўлічыць, што папяльнічка на яе працоўным стале была мармуровай і важыла не адзін грам...

Дадам таксама, што жонка Кісялёва працавала тады ў міністэрстве адукацыі.

Мар'яна Васільеўна прапанавала пакінуць сукенку, а ў трохдзённы тэрмін пашыць для мяне іншую. Я адказала, што заўтра еду з «Песнярамі» ў Маскву выступаць у канцэртнай залі «Расія», учарашні варыянт усім спадабаўся, а прамой трансляцыі там не будзе.

Яна пагадзілася. Ніякіх трансляцый, сапраўды, не было, аднак гэта не дапамагло. Праз пэўны час Мар'яну Васільеўну Травіну звольнілі і адправілі на пенсію.

Неўзабаве мы наладзілі стасункі з Беларускім цэнтрам моды, і гора больш не ведалі...

**Літаратурны запіс
Аляксандра Тамковіча**

*Народная артыстка Беларусі Зінаіда БАНДАРЭНКА 25 красавіка адсвяткавала свой слаўны юбілей. Штотыднёвік «Новы час» і яго «Літаратурная Беларусь» сардэчна віншуюць Зінаіду Аляксандраўну і жадаюць ёй новых запамінальных сустрэч, здароўя і радасці!*

# АФАРЫЗМЫ



Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

Напісаў геніяльныя радкі, але ў друкарцы скончылася папера.

Старыя афарызмы — як бутэлькі са старым віном: пакрываюцца пылам, але набываюць яшчэ большую вартасць.

Жабры зямлі здушаны чорным асфальтам.

Гарадскі сабака не бяжыць нават за роварам.

І лежачы можна ісці да мэты.

Тут быў адвакатам, а ў пекле стаў катам.

Коцік Барсік быў перакананы, што зямля трымаецца на трох катах.

У чэрапе чалавека завяліся думкі, але іншыя людзі казалі: «У яго тараканы ў галаве».

«Далей маўчаць нельга!» — падумала рыба, разявілася і заглынула кручок.

Для бальшыні людзей галоўным у слове прыярытэт ёсць «я».

На схіле веку бракуе часу чалавеку. А ў маладосці ўсё чакаецца чагосьці.

Лысіна, якая блішчыць на сонцы, не ёсць свяцілам.

«Танкі і хакі — гэта нашы ўлюбёныя формы паэзіі» — гаварыў генерал падначаленым.

На конкурсах міс прыгажосць — не надта ўжо частая госць.

Найбольш наша планета падабаецца людзям пры сыходзе з трапа самалёта.

Бясконцае зорнае неба разбіваецца для п'янага на дне лужыны.

«Як тут выступаць — вакол адны голыя сцены!?» — абуралася стрыптызёрка.

Ацяпляльныя батарэі, замураваныя ў сцяну, значна змяншаюць камунікацыю з суседзямі.

Дарвуцца да карыта — і кажуць, што яны эліта.

Гумар — рэч тонкая, можа і парэзаць.

У каханні, як на вайне, ахвяры можна злічыць толькі з часам.

Стрэлы Амура часта разбіваюцца аб мур чалавечага сэрца.

Рамэа дамогся кахання Джульеты, але гэта была Шэкс-піраўа перамога.

Першае каханне рэжа, як лязо нажа, апошняе б'е, як абух сякеры.

Розніца паміж мужчынамі: адныя залазяць пад спадніцу, іншыя пад яе хаваюцца.

Рогі — гэта прэрагатыва жанатых мужчынаў.

У дачыненні да жанчын мужчыны падзяляюцца на целаахоўнікаў і целаахвотнікаў.

Не шукайце жанчыну, бо яна вас ашукае.

З усіх асобаў жаночага роду найбольш запамінаюцца дзве: першая жанчына і тая, што прыходзіць з касой.

Нават жаночыя манекены падманваюць.

Вальпургіева ноч — гэта міжнародны жаночы дзень.

Яны правялі ноч у адной пасцелі, але так і не сустрэліся.

Эвалюцыя погляду: назіраў здалёк, падглядваў за целам, заглядваў у душу, прыжмурваў вочы, заплюшчыў іх назаўсёды.

Баба з возу — каню лягчэй. Толькі пра каня і думалі.

Жанчына мусіць быць у маладосці крыніцай натхнення, а ў старасці — крыніцай міласэрнасці.

Мужчыны позна прыходзяць, жанчыны позна вяртаюцца.

Любоўныя раманы бываюць кароткімі, як апавяданні.

Паміж М. і Ж. трэба заўсёды ставіць кропку над «і».

Тыя, што высока задзіраюць нос, ніколі не бачаць Неба.

Сучаснікаў становіцца ўсё менш: адны апярэджваюць свой час, іншыя жывуць у мінулым.

Тыраназаўры даўно вымерлі, а тыраны ўсё пладзяцца.

Фіга ў кішэні — гэта зялёны плод пратэсту.

Калі прынцы становяцца каралямі, яны часта губляюць прынцыповасць.

Гісторыя не прымае не толькі ўмоўнага, але і разумнага ладу.

У спісе сваіх ворагаў ты сам заўсёды на першым месцы.

Калі прыходзіць вера ў Бога, пакідае надзея ў чалавецтва.

У Бога дарог многа, а чалавеку выйсця няма.

Чалавек пакутуе на адзіноту таму, што Бог стварыў яго паводле свайго падабенства.

Адкрыць вочы на гэты свет можа толькі сляпая вера.

Пісьменніка і графа Льва Талстога праваслаўная Царква лічыць грахаманам.

Чалавеку наканавана жыць у страху: атэісты баяцца смерці, а вернікі — жыцця пасля смерці.

Спакушаць усіх — гэта і ёсць д'ябальская справядлівасць.

Колькасць без ліку ахвяр, паўшых у баі за даляр.

Ніколі не купіш індульгенцыю за трыццаць срэбнікаў.

Бляск залатога цяльца для многіх ёсць жалезным аргументам.

Лісліўцы віляюць галовамі, нібы хвастамі.

Злы чалавек той, хто не любіць вясковага сабаку.

Флюгеры вышэй, чым вентылятары, таму што круцяцца ў розныя бакі.

Праўда — гэта палка з двума канцамі: адзін б'е па табе, другі дабівае.

Знайшоў падкову на шчасце — лічы звычайная выпадковасць.

Безліч людзей любіць мора, і толькі адзінкі — акіян.

Пустое месца можа сведчыць пра змястоўнасць таго, хто яго не заняў.

Падобна на тое, што ў кнізе лёсаў бываюць выдраныя старонкі.

Дабро ўрэшце пераможа. Можа...

Гэты свет недасканалы — ніяк не можа сканаць.

Матэматыкі — самыя вялікія дагматыкі, бо два на два можа быць не чатыры, а дзве пары.

Калі б я меў добры зрок, даў бы сабе зарок многае не бачыць.

Часта жыццё складаецца з чорна-белых палосаў: чорныя — гэта калі ўсё кепска, а белыя — калі няма нічога добрага.

І хросны бацька можа быць блудным сынам.

Колькі ў нас рэальных кандыдатаў у голыя каралі!

Кожнаму келіху хочацца быць разбітым на шчасце.

Кнігі даюць для людзей занятак: адныя іх пішуць, другія чытаюць, трэція паляць.

Самая няшчасная геаметрычная фігура — шар. Ён цэлы час змушаны круціцца.

Пра гу́сты не спрачаюцца, калі няма чаго есці.

Час выбраў нас, а мы яго пераабралі.

Людзі звыклі не глядзець у зубы дараванаму каню, нават калі ён Траянскі.

Яблык спакусы, яблык разладу... Высякуць яблыню з райскага саду.

З выступу адваката: «Падсудны акуратна націснуў на курок, але незнарок».

# «Пашпарт серыі 1-ТЭ,
## (З турэмнага жыцця Адама Станкевіча)



Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК

**Дох сядзеў за круглым сталом, які быў засланы белым абрусам і на якім ляжала чырвоная папка, і стаяла вялікая крышталёвая ваза, поўная аранжавых апельсінаў, і сядзеў ён не пад звыклым партрэтам Сталіна, а пад карцінаю «Гракі прыляцелі».**

Робычы ўсё з намерам, Дох загадаў прывесці падследчага (арыштаванага ксяндза) не ў кабінет, а ў пакой адпачынку.

«Ён што, яшчэ і аматар жывапісу?!» — атрымаўшы дазвол сесці і пакрысе авалодваючы сабою, падследчы з трывожным здзіўленнем апусціўся ў мяккае крэсла.

Зрэшты, ці не ўсё адно (аматар жывапісу ці не аматар!), галоўнае, што пачатковай мэты ён, падследчы, здаецца, дасягнуў, таму сёння (на Новы год!), мяркуючы па ўсім, будзе не допыт, а нешта блізкае да гаворкі, магчыма, нават з дамешкам дыпламатыі з абодвух бакоў.

Трэба думаць, Дох уважліва прачытаў ягоны праект беларускага каталіцкага біскупства, далажыў па камандзе, і там зрабілі памысныя высновы — словам, у апошні дзень 1944 года гутарка стане падобнай на абмеркаванне.

І гэта вельмі добра, што прачытаў менавіта ён, — з усіх іх найбольш адукаваны і з выгляду нешта чалавечае мае, хаця ў маладосці, пэўна, быў такім жа, як і ўсе яны...

Ці не пачынаў з таго, што каля цаглянага муру, перад тым, як цісНуць на курок, завязваў рот асуджаным на расстрэл, каб яны перад смерцю не крычалі, а калі пайшоў канвеер, то паблізу расстрэльнага муру, заглушаючы галасы няшчасных, запускаў рухавік, — бясконцым ахвярам завязваць раты — рукі адвалiцца!

Здатнасць да катаўскай работы зазвычай і выводзіць у вялікія начальнікі, — ці не праўда?!

І здатнасць да правакацый — вялікіх і малых!

— Вашу дзейнасць фінансаваў і штаб Дзянікіна[1]? — аднойчы, нібыта мімаходзь, Дох укалоў бязглуздым пытаннем.

— Ніякіх кантактаў са штабам Дзянікіна я ніколі не меў!

— А ў пратаколах Беларускага навуковага таварыства адзначана, што ў 1922 годзе ў вас і ў Браніслава Тарашкевіча было на руках 10000 рублёў дзянікінскіх папяровых грошай!

— Божа мой, якія гэта грошы?! Музейныя экспанаты! І тады, у 1922 годзе, мы з Тарашкевічам і перадалі іх у Беларускі музей, што і засведчана было ў адным з пратаколаў нашага навуковага таварыства!

— Аднак жа гэтыя экспанаты, — з яхіднасцю ўдакладняў Дох, — трапілі да вас у той час, калі Дзянікін наступаў на Маскву?! Дык як яны аказаліся ў вас?

— Я не магу прызнаць, што яны трапілі менавіта ў той час, бо не памятаю ўжо, калі дакладна трапілі, але сітуацыя даволі простая... Каталіцкія сем'і вярталіся з поўдня Расіі ў Вільню і ахвяравалі на касцёл дзянікінскія грошы, бо іншых не мелі...

Так ён, арыштаваны ксёндз, адказаў тады правакатару, які меў вялікія пагоны, аднак жа досыць...

Трэба сабрацца і з думкамі, і словамі, а галоўнае з духам, бо і гэты пакой, дзе на сцяне замест выявы правадыра мастацкі твор, а на стале замест пратакола чырвоная папка і спакуслівa залацеюць апельсіны, таксама — пекла.

Але як супакоіцца, калі гняце адсутнасць заўсёды неабходнага спакою?!

Пад балотным позіркам Доха надзея выжыць не павялічвалася — наадварот, мізарнела, страх узмацняўся, і душу апаноўвала расчараванне.

Хрысціянін не павінен расчароўвацца, але з дня арышту, і нават раней, ахвота адпала жыць, бо ў галаве смылела: трапіў у пастку назаўсёды!

Так, зараз пойдуць не проста пытанні, якія ўжо былі (...імя ...калі і дзе нарадзіўся ...дзе жывеш ...хто бацька і маці ...колькі ў іх было зямлі ...дзе вучыўся ...да якой партыі належаў ...у якіх выданнях друкаваў антысавецкія артыкулы...), — зараз пачнецца торг, і, даючы адказы, трэба трапіць у тон.

А сіл амаль нестае, і сатана ж ніколі не спіць, таму, каб не сесці макам, хочаш не хочаш, а неабходна патрапіць пад густ...

Ты і палітык, і царкоўны дзеяч, але найперш ты — лётуценнік, нацыянальны фантазёр: у роднай гісторыі па-ранейшаму хочаш бачыць, як павінна быць, а не як было, і нават у сённяшнім сваім горкім існаванні спадзяешся іншы раз на тое, на што нельга спадзявацца.

Дарэчы, доўгія гады меў надзею, што ўсё складзецца, ды не склалася, а калі й склалася, то не зусім так, як хацелася, таму й засталецца пакуль адно: калі трапіў у кіпцюры — будзь хітрэйшы за саму хітрасць...

Палякі хоць судзілі, гублялі час на выслухоўванне нейкіх там адвакатаў, а гэтыя знішчаюць без ніякага суда; праўда, могуць зазваць на апельсіны і вывесціць гракоў на сцяне...

На сумотным палатне, якое ў гэты момант з'яўлялася праўдзівым увасабленнем ягонага расчаравання, бліжэй былі паказаны непрыгожыя крывыя дрэвы (здаецца, бярозы), з невыразна-чорнымі несамавітымі на выгляд гнёздамі-кублами і птушкамі (гракамі), якія таксама выглядалі несамавіта.

І тут падследчага ўсё адно як страпянула ўсяго:

«А гэта ж і ёсць яно, сапраўднае жыццё, і яно амаль заўсёды непрывабнае, таму на палатне



**Адам Станкевіч — на волі і ў турме.**
Фота www.katolik.life

й паказана бліжэй, набліжана да чалавечых вачэй! А што ад вачэй адсунута? Прычым знарок! Адсунута царква...»

Дох тут жа прачытаў зрух яго душы, угадаў ягоныя думкі:

— Вы і раз, і два сумна паглядзелі на рэпрадукцыю з саўрасаўскай карціны...

— Я паглядзеў на царкву, — як зачараваны, падследчы ўздыхнуў.

— Вось я і хачу сказаць пра царкву! — падхапіўшы патрэбнае яму слова, Дох пачаў нібыта лектар. — У царкве ўвесь час гавораць аб тым, чаго ў жыцці няма, і толькі таму, што яго няма, гавораць і гавораць... Просяць: не забі, бо забіваюць штодня і штоночы... Заклікаюць: не крадзі, бо зноў жа крадуць і штодня, і штоночы... Галосяць: не сведчы хлусліва, бо навокал усе набожныя і ненабожныя — манюкі, кожны праведнік і няправеднік — хлус... Царква заўсёды вучыць, як трэба жыць, але вось бачыце...

Паказаў на карціну:

— ...мастак адсунуў царкву, змясціў яе на заднім плане, каб тым самым, напэўна, выдзеліць сваю патаемную думку: царква мае другарадную ролю ў жыцці чалавека, а мо і наогул не патрэбна, бо чалавек не хоча вучыцца і слухацца, а хоча жыць так, як жывецца...

Дох быў задаволены тым, што выклаў, і скончыў сваю імгненную лекцыю, строга трымаючы яе, як жывую істоту, у такой струне:

— А чалавек... А чалавек наогул убогі, як убогія на карціне дрэвы, гнёзды і птушкі... Зрэшты, яны хоць намаляваны, а чалавека на карціне зусім няма, што вельмі сімвалічна... І гэта добра, што яго няма...

«Каб ты спрах, старанны дзеяч Лубянкі! Як жа ты хітра ўсё разабраў!» — арыштаваны ажно сцяўся ўвесь, і мяккае крэсла здалося яму цвёрдым.

Апусціў на хвіліну вочы, гэтак схаваў кароткую злосць: не, ніяк не скажаш, не падумаеш нават, што ён — ніжні пільшчык, звычайны прапагандыст, высновы ж свае догмамі не абмяжоўвае...

Варухнуўшы густымі зоркамі на плячах, начытаны Дох і далей паказваў дасведчанасць у царкоўным жыцці; з яго скупых разважанняў не адкрыта, прыхавана, аднак даволі выяўна чулася: няхай сабе мастакі й адсоўваюць царкву на задні план, але гэтая інстытуцыя ўсё ж патрэбна...

«О, мастакі вінаватыя... У іх заўсёды нехта вінаваты... А самі... Па ўсёй зямлі столькі храмаў пусціў з паветра, столькі святароў знішчылі, а тут раптам — царква патрэбна...» — падследчага ажно ў пот кінула.

Выціраючы лоб рукавом і трохі счакаўшы, мякка прамовіў:

— Людзям патрэбна вера ў Бога...

— Вы кажаце: людзям патрэбна вера? — голас Доха бліснуў, як соль. — Адна толькі вера?!

— Яна адна, але вялікая, як само жыццё! — арыштаваны разумна насцярожыўся і выйшаў за грань рэлігійнай тэмы. — Напрыклад, нашы песняры верылі ў народ, у свой край, і кожны верыў у самаго сябе, а таксама ж і сваім мазалям...

— Для пратакольнай паўнаты трэба верыць і яшчэ ў нешта! — абыякава зірнуўшы на чырвоную папку, Дох наўмысна зрабіў паўзу, па-гаспадарску пазяхнуў і плюснуў адсутным поглядам. — Трэба верыць, скажам... Ну, хоць бы ў рэлігію Эйнштэйна[2]!

Ён умеў здзіўляць, — на мінулым допыце нечакана зайшоў у кабінет і спытаў пра евангелічнага пастара Вэсэля, які разам з кайзераўскім войскам у верасні 1915 года прыбыў у Вільню.

Падследчы такога пастара не знаў і адказаў, што на могілках у Закрэцэ[3] нямецкія святары хавалі, праводзілі ў апошнюю дарогу сваіх забітых салдат, — магчыма, там чытаў малітвы і пастар Вэсэль.

«Магчыма...» — неяк зусім па-прасцецку згадзіўся Дох і тут жа выйшаў.

Калі дзверы зачыніліся, капітан, які вёў допыт, патлумачыў, што гэты пастар быў бацькам Хорста Вэсэля[4] — сябра Гімлера...

Так, Дох умеў здзіўляць, часам нават выклікаў прыхільнасць да сябе; мог, нібыта ўспамінаючы самае запаветнае, паведаміць, што яго хрысцілі ў папа, і змалку маці вадзіла яго маліцца ў царкву, у гімназіі ён вельмі добра вучыўся і па літаратуры, і па фізіцы, і што каб жыў у Польшчы, то не дарос бы да такіх чыноў, бо ведае: палякі не давалі праваслаўным працаваць на дзяржаўнай службе, а ў сталінскай Расіі ён прыхаваў сваю праваслаўнасць і займеў высокае званне.

А наогул жа, каб не рэвалюцыя, то яму ад бацькі ў спадчыну перайшла б фуражачная майстэрня...

І от жа, гэты ўдачлівы сын шапачніка зноў здзівіў, агаласіўшы вестку пра нейкую там рэлігію Эйнштэйна.

— А што, ёсць і такая рэлігія?!

— Ну, чаму ж няма, ёсць... Рэлігія ад якой разнявольваецца душа...

Трохі збіты з тропу, але не трацячы рэштку спакойнасці, падследчы памеркаваў, падумаў, ускінуў стомленае аблічча ўгару і ўдакладніў:

— Душа ўсё ж павінна супакойвацца, а не разнявольвацца...

— Так, няхай сабе й так! — па-дзіцячы проста такнуў Дох. — Тут галоўнае тое, што можна верыць у час і прастору!

— У якім сэнсе?!

— А ў тым, што яны паасобку не існуюць, бо час — гэта бачная прастора, а прастора — гэта нябачны, але адчувальны час!

«О-о, ды ты мяне заблытваеш...» — падследчы ніяк не чакаў пачуць такое з вуснаў сталінскага службы.

Ягоная хітрасць, замешаная на слізкай гульні, палохала, таму трэба пільнавацца...

Зрэшты, ці варта настройвацца на нейкую яшчэ большую пільнасць, бо як толькі яны з'явіліся, — з таго часу ён і пільнаваўся, як умеў, ды, як бачна, кепска пільнаваўся.

Там, за гэтым снежаньскім акном, на якім няма жалезных кратаў, пільнуецца ўся Вільня, увесь край, увесь прыгнечаны люд; пільнуецца кожны — і ў каго ёсць ежа, і каму бракуе грошай на кавалак хлеба; там, за акном, у кожнага забіраюць гвалтам спакой, і ў любы момант могуць забраць жыццё.

Пільнуецца таксама знявагажаная і скатаваная царква; яна яшчэ пакуль мае сілы шаптаць змучанаму кожнаму: «Будзь паслухмяны, і трапіш у рай...», а навокал у поўны голас з любога слупа вучаць яны: «Будзь паслухмяны, і трапіш у камунізм...»

# № 604171...»

А змучаны чалавек, хоць і паслухмяны, а не верыць ні ў рай, ні ў камунізм, а толькі ў сваю хату...

У пакоі ўсталявалася на момант вострая цішыня, і хоць арыштаваны быў гатовы да галоўнага ў гаворцы — яно, тое галоўнае, не проста прагучала, а жахнула, як бліскавіца.

— А вы хітры, пан-ойча!

— Хітры?!

— Ды яшчэ які хітры! Вы ж вельмі своечасова склалі свой праект! — Дох паказаў на чырвоную папку.

— Своечасова?! — падследчаму закалола пад сэрцам.

— У Маскве якраз вырашаюцца вялікія рэлігійныя пытанні...

— На жаль, не маю акрэсленай інфармацыі аб тым...

— Не маеце інфармацыі?! — Дох нібыта ўсумніўся. — А вы неблагі дыпламат... Але добра, я вам скажу... Праз месяц пройдзе памесны сабор рускай праваслаўнай царквы, на якім выберуць патрыярха маскоўскага і ўсяе Русі!

— Я рады за праваслаўных братоў!

— А праваслаўныя браты, магчыма, парадуюцца і за вас?! — няпэўна абнадзеіў Дох.

Зусім трохі памаўчалі.

— Тое каталіцтва, якое было, заняпала. Касцёл трэба пераўтварыць. Ён павінен стаць на народны падмурак, таму хачу ў новым часе па-новаму служыць народу, — падследчы вальней варухнуўся ў крэсле.

— Разам з намі хочаце, разам з уладай...

— Разам...

— Вы былі дэпутатам і ў польскім Сейме выступалі за тое, каб улада не ўмешвалася ў рэлігійнае жыццё! — Дох рагатнуў.

— Я не быў прыхільнікам той улады, а ў Сейме перш за ўсё адстойваў нацыянальныя правы свайго народа!

— Як палітык, вы ўхіляліся ад супрацоўніцтва з камуністамі... Чаму?

— Я сустракаўся з камуністамі, вёў з імі перамовы і ратаваў іх, калі тут былі немцы...

— Вы абачлівы, вы не верылі актывістам з КПЗБ і, дарэчы, правільна рабілі... Вялікі Сталін зразумеў, што яны — слугі дэфензівы і авантурысты!

— Іхняе жаданне падняць паўстанне, каб далучыць Заходнюю Беларусь да БССР, сапраўды з'яўлялася чыстай авантурай! — ажывіўся арыштаваны.

— У 1917 годзе вы часта выступалі перад сялянамі і заклікалі іх не ўдзельнічаць у сацыялістычнай рэвалюцыі! — Дох лёгка пераскочыў на іншую тэму.

— Я заклікаў сялян не збівацца з правільнай дарогі. Я ўгаворваў іх не чыніць разбой і вучыў правільна ўспрымаць свабоду, — такі быў адказ.

— Зрэшты, гэта ўжо гісторыя, — тон Доха заставаўся памяркоўны. — А вось ваш праект — дзень сённяшні. Паперу вы напісалі талкова. Так, вам патрэбна ўласная дыяцэзія. Але якая далей, на вашу думку, мае быць тактыка?

— Трэба выклапатаць згоду Рымскага пасада!

— Гэта згода непатрэбна!

— Я ж каталіцкі святар...

Спахмурнеўшы, Дох звыклым жэстам разгарнуў чырвоную папку, крыху пашукаў у ёй і дастаў пашпарт:

— Я прачытаю вам, што ў гэтым дакуменце напісана... Пашпарт серыі 1-ТЭ, № 604171, выдадзены Адаму Вікенцьевічу Станкевічу 22 траўня 1941 года 5-м Віленскім аддзяленнем міліцыі... Гэта ваш дакумент?

— Так, гэта мой пашпарт! Вашы людзі яго канфіскавалі, калі забіралі мяне! — падследчы недаўменна ўзвысіў голас.

— Усе гады нямецкай акупацыі вы захоўвалі яго, і гэта вельмі добра! — Дох паклаў дакумент у папку. — Дык вось, перш за ўсё вы савецкі грамадзянін, а пасля ўжо каталіцкі святар!

— Але...

— А раз так, то цяпер замест Рыма ў вас Масква!

— Масква — трэці Рым, — міжвольна сухім голасам, нібыта самому сабе, асуджана прамовіў падследчы.

— Можаце пакуль і так жартаваць... Але не гэта галоўнае, а галоўнае тое, што ваш праект кіраўніцтву спадабаўся, кіраўніцтва прызнала вашу рацыю і мяркуе з часам заклaсці новы беларускі касцёл, але, зразумела, без удзелу Ватыкана... Гэта будзе народны касцёл!

«Касцёл незалежны ад Апостальскай сталіцы?! Нешта неверагоднае! Які ж гэта тады касцёл?! Усё адно, што званіца без звона! Не, такога не павінна быць! З'ява немагчымая... Касцёл мусіць быць незалежны, але незалежны ад Масквы і Варшавы...» — так няшчасны арыштаваны падумаў, а збалелым голасам акрэсліў, што людзі не прызнáюць такі «народны» касцёл.

— Людзі ўсё прызнаюць, калі ім загадаюць! — катэгарычна заявіў Дох. — І вы станеце для іх новым духоўным кіраўніком, і будзеце служыць у тым віленскім храме, у якім захочаце! І да вас пойдуць каталікі з усіх куткоў Беларусі, і служыць будзеце па-беларуску... Палякі ж не дазвалялі вашай мовы?

— Дазвалялі ў касцёле святога Мікалая...

— А немцы?

— Дазвалялі больш...

— І вы супрацоўнічалі з немцамі?! — Дох пачаў нібыта зацягваць пятлю.

— Мая пастырская дзейнасць далёкая была і ад такога супрацоўніцтва, і ад нацысцкай ідэалогіі!

— Добра. На сёння хопіць ужо, нагаварыліся... Аднак жа хай і глухі пачуе: народнаму касцёлу непатрэбна благаславенне рымскага пераемніка апостала Пятра...

Дох біў, як у бубен, і ад раптоўнай стомы ў падследчага з'явіліся матылі ў вачах, і на нейкі момант, як жаданне шчаслівага адпачынку, ва ўяўленні чамусьці паўстаў зімовы святочны кірмаш...

На гэтым ажыўленым стракатым базары коні, накрытыя каляровымі гунькамі, елі з торбаў авёс, а вясёлыя гандляркі ў белых цесных халатах, нацягнутых паверх паліто, прадавалі вянкі смачных абаранкаў.

А яшчэ тут можна было купіць і лубачныя карціны, і калыскі, і драўляных конікаў, і дзіцячыя вазкі на гумавым хаду; прадаваліся нават і нейкія галасістыя птушкі ў клетках...

Ён ачуўся, матылі з вачэй зніклі, гракі на сцяне зрабіліся нібыта большымі, а Дох, падводзячы ў гаворцы канчатковую рысу, схаваў у шуфляду чырвоную папку, а да яго пасунуў, камечачы белы абрус, вялікую крыштальную вазу, поўную апельсінаў — частуйся, арыштант!

З пакоя адпачынку стомлены вязень вынес вялізны круглы аранжавы апельсін, на хаду ў калідоры вымяркоўваючы: у іхні касцёл служыць не пойдзе, а там, у агульнай камеры, з гэтай рэдкай заморскай смакаты выйдзе сем хлябоў...

1 Антон Дзянікін (1872 — 1947) — расійскі генерал-лейтэнант, адзін з кіраўнікоў Белага руху, кіраваў Поўднем Расіі ў 1918–1920 гг.
2 Альберт Эйнштэйн (1879–1955) — нямецкі і амерыканскі фізік-тэарэтык, стваральнік тэорыі адноснасці спецыяльнай (1905) і агульнай (1916); лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1921).
3 Закрэт — парк у Вільні.
4 Хорст Ханс Вэсэль (1907–1930) — нямецкі штурмавік, аўтар нацысцкага гімна.

# Свет наш



Сяргей УКРАІНКА

***

*Я нарадзіўся,*
*а свет быў ужо старым.*
*Гэткім амаль, як суседка баба Казліха...*

*Мудры, што гáдзіна,*
*вечны, нібыта Рым,*
*шчодра ён сее на лёсах*
*шчасце ды ліха.*

*Парасткі гонкія ўмомант дзірваняць лёс,*
*хоць і скубе іх штодзень*
*няўедлівы статак:*
*ліха-траву —*
*хто з дзяцінства прывык да слёз,*
*шчасце-траву —*
*хто з маленства смокча дзвюх матак.*

*І часцяком ужо одум бярэ мяне,*
*як разбяруся з чарговай нейкай навалай:*
*свет наш дзяцініца*
*ці ўжо даўно здурнеў —*
*розуму ж старасць нікому не дадавала?*

*У неспасціжную вечнасць жыццё плыве,*
*вера мая ў справядлівасць*
*сыплецца друзам.*
*Крыўдна: памру вось,*
*а мудры наш белы свет*
*гэтак жа, гад,*
*будзе ехаць некуды з глузду.*

***

***Памяці сябра дзяцінства Крукава Пятра***

*Мелодыя. Перапыніў гарнітурай*
*і чую пракураны твой барытон:*
*«Ну дзе цябе носіць дняпроўская бура?*
*Якога ражна не бярэш тэлефон?»*

*«Дык, гэта, — кажу, — мне хіба толькі жонка*
*ці з працы там хто набірае за дзень.*
*Навошта займаць лішняй цацкай кішонку,*
*калі й пасатыжы няма куды ўдзець».*

*«Тут нехта забыўся пра нашы вазёры —*
*ні разу не быў ад вясновай вады!» —*
*Твой голас падаўся задужа бадзёрым*
*(ды не, ён такім быў, здаецца, заўжды).*

*Ты мне расказаў, што наведваюць дочкі,*
*што ўнукі павырaслі з дзедзьку даўно,*
*што зрэдку чытаеш мае «смехаёчкі»,*
*але толькі тыя, што, гм, не лайно.*

*Я слухаў, а вочы глядзелі ў дзяцінства*
*і ў ім быў Пятро, мой смяшлівы дружан.*
*Затым прамільгнуў ужо ў форме танкіста*
*з чырвонаю зорачкай — за Афган.*

*Прашу: «Падграбай. Ты ж тут блізка начуеш?*
*Ёсць лёгкае, дзіўнага смаку віно».*
*І сэрца прыстала, як раптам пачуў я:*
*«У хоспісе мы, брат. Апошнюю ноч».*

## Маналог сабачай будкі

*Мяне Гаспадар выгаблёўваў*
*зусім не для Джыма —*
*тады абжываўся ў двары*
*дурнаваты Пірат.*
*Праз год ён патрапіў пад колы*
*цыганскага джыпа,*
*а ці пагуляў хоць разок на зімовым вяселлі?..*
*Наўрад.*

*Затым была Дуська,*
*ікласценькі змесак балонкі*
*і шустрага бомжа Браткá,*
*істэрычная б...яць.*
*Парвала ўсім нервы,*
*пакуль не нырнула ў палонку.*
*А хто «дапамог»,*
*дык пра тое вам нечага знаць.*

*Пасля цэлы студзень*
*сямейка жыла на кватэры —*
*вушастая парачка*
*вечна галодных трусоў.*
*Абгрызлі кару*
*на суседняй ігрушыне-бэры*
*і зніклі.*
*Але падаецца, прапалі*
*не ў нетрах лясоў.*

*Мінулай вясною*
*наседжвала яйкі квактуха —*
*я ледзь не аглухла ад піску яе куранят!*
*Так доўга чыхалася потым*
*ад іхнага пуху*
*і дошкам балела*
*ад згнілых прасяных зярнят.*

*Нарэшце нядаўна*
*з'явіўся і Джым на падворку.*
*Ён даў зразумець,*
*што не проста ўсё, чорт вас вазьмі:*
*братам вашым меншым*
*бывае балюча і горка,*
*калі іх няўцям параўноўваюць*
*з вамі, людзьмі.*

*Учора сачыла за спрэчкаю*
*двох задавакаў*
*(адказваю дахам уласным за гэты «базар»):*
*калі Гаспадар*
*прасіпеў на суседа: «С-сабака!»,*
*у Джыма на левае вока*
*набегла сляза.*

## Versus

*Бліз будынiны былой бібліятэкі*
*(там цяпер ТАА «Камп'ютарныя сеткі»)*
*гопнікі частуюць цыгарэткай*
*хілага прадстаўніка хай-тэку.*

*Крывіць пыску кволае стварэнне*
*ды старанна дыхае смуродам,*
*і — ніякага табе памкнення*
*штосьці «паказаць тупым уродам».*

*Тыя ж «выпрасілі» новую мабілу,*
*пашарпаны скураны бумажнік*
*і цярпіле пpaказалі важна:*
*«Радуйся, што лівер не адбілі».*

*І пайшлі сабе з бадзёранькім настроем,*
*а юнак на ганак сеў паныла...*
*Вось табе й сустрэліся ў двубоі:*
*інтэлект vs дурная сіла.*

***

***Айцу Міхаілу (Укружаскаму)***

*Шукаў свайго бога і я.*
*Не тое, што ўпарта*
*ці апантана,*
*аднак і маю галаву*
*іншы раз забівала да краю*
*рознакаліберным*
*эзатэрычным хлудам.*
*Хлуд спарахнеў і асыпаўся пылам.*
*Ні Бог і ні нават Сварогавы дзеці*
*не паказалі аблічча.*
*Так і суцешыўся ўрэшце*
*канонамі дыямату...*

*Цяпер, безбаговец упарты,*
*шалёна зайздрошчу айцу Міхаілу:*
*ён мае цiхую радасць*
*як не штодня наталяцца*
*нятварным Фаворскім святлом...*

## Даведка

*Самай масавай узнагародай краіны —*
*больш за 9 мільёнаў уганараваных —*
*стаў, вядома, не ордэн Францыска Скарыны*
*і нават не значак «Выдатніку...»,*
*а ўпламбаваны наўпрост*
*у аддзел галаўнога мозгу*
*(адказны за генную памяць)*
*віртуальны медаль*
*«За ордновение языка».*

# Віленскі ўніверсітэт



Уладзімір АРЛОЎ

**Тысячы юнакоў-ліцьвінаў цягам некалькіх стагоддзяў выпраўляліся па навуку ў еўрапейскія ўніверсітэты. Большасць з іх, атрымаўшы вышэйшую асвету, вярталіся на Бацькаўшчыну і служылі ёй здабытымі ведамі. Але ўлады Вялікага Княства, Царква, усе адукаваныя людзі дзяржавы даўно марылі пра свой універсітэт. Гэтая мара здзейснілася, калі была створаная Віленская акадэмія.**

## Vivat Academia!

Найлепшым месцам для заснавання вышэйшай навучальнай установы, відома, была сталіца Вялікага Княства, даўні цэнтр беларускай культуры і дзяржаўнасці. У Вільні ўжо дзейнічаў калегіюм, дзе займаліся блізу двухсот студэнтаў. Калегіюм, адчынены манахамі Таварыства Ісуса (Ордэна езуітаў), даваў добрую адукацыю, але не меў універсітэцкіх правоў.

Адгукнуўшыся на шматлікія просьбы свецкіх і царкоўных уладаў, магнатаў і шляхты, вялікі князь Стэфан Баторы, якога нашыя продкі называлі Сцяпанам Батурам, у 1579 годзе выдаў прывілей пра пераўтварэнне Віленскага калегіюма ў Акадэмію — першую ва Усходняй Еўропе. Баторы сам некалі вучыўся ў славутым Падуанскім універсітэце і добра разумеў неабходнасць вышэйшай школы для сваёй дзяржавы.

Прывілей гаспадара быў зацверджаны дзяржаўнай пячаткай, якую прыклаў падканцлер Астафей Валовіч, і адмысловай пастановай папы рымскага Рыгора XIII. Да заснавання Акадэміі таксама прычынілася Таварыства Ісуса, якое давала ў сваіх навучальнях найлепшую на той час адукацыю.

Віленская акадэмія атрымала ўсе правы ўніверсітэта. Яна вызвалялася ад падаткаў і набывала права прысвойваць вучоныя ступені ды мець незалежнае выбарнае кіраўніцтва. Першым рэктарам акадэміі стаў знакаміты пісьменнік, прапаведнік і красамоўца Пётра Скарга. Ён нарадзіўся ў Польшчы, але добра ведаў беларускую мову і напісаў на ёй некалькі кніг.

Стварэнне Віленскай акадэміі шырока адзначалася ў нашай дзяржаве. Гэтай падзеі прысвячалі творы паэты і мастакі. У палацах магнатаў і ў шляхецкіх маёнтках шумелі святочныя балі, на якіх зноў і зноў гучала: Vivat Academia! — Слава Акадэміі!

## Упоравень з Кракавам і Ляйпцыгам

Напачатку Акадэмія складалася з двух факультэтаў: філасофскага і тэалагічнага (багаслоўскага). Потым, паводле прывілея вялікага князя Уладзіслава Вазы, да іх даліся медыцынскі і юрыдычны. Пазней з'явіліся фізічны і астранамічны факультэты. Мовай выкладання, як і ва ўсіх тагачасных еўрапейскіх універсітэтах, тады была лаціна.

Акадэміі ўсяляк дапамагалі і шчодра падтрымлівалі яе ахвяраваннямі віленскі біскупВаляр'ян Пратасевіч, магнацкія роды Радзівілаў, Сапегаў, Хадкевічаў, Валовічаў, Па́цаў. Казімір Леў Сапега, сын знакамітага канцлера Льва Сапегі, падараваў новай навучальнай установе багатую бібліятэку і стаў фундатарам юрыдычнага факультэта. Арыстакратка Лізавета Пузына ахвяравала сродкі на стварэнне адной з першых у Еўропе абсерваторый.

Князь Мікалай Радзівіл Сіротка перадаў Акадэміі абсталяванне і шрыфты некалькіх друкарняў. Дзякуючы гэтаму акадэмічная друкарня хутка зрабілася адной з найважнейшых у дзяржаве. Яна выдавала падручнікі, слоўнікі, гістарычныя і філасофскія даследаванні, літаратуру па дакладных навуках, мастацкія творы на некалькіх еўрапейскіх мовах. Тут пабачылі свет трактаты старажытнагрэцкага філосафа Арыстоцеля, некалькі выданняў «Гісторыі Вялікага Княства Літоўскага», «Гісторыя Англіі», «Радзівілаўскія хронікі з кароткім зместам подзвігаў князёў Радзівілаў» ды сотні іншых кніг.

Акадэмія прымала ў навучанне пераважна ліцьвінаў-беларусаў з магнацкіх і шляхецкіх сем'яў, але там вучыліся і дзеці месцічаў. У студэнцкіх аўдыторыях можна было сустрэць і юнакоў з суседніх еўрапейскіх дзяржаваў, бо Віленская акадэмія на пачатку XVII стагоддзя давала такую самую добрую адукацыю, як і ўніверсітэты недалёкіх Кракава, Каралеўца (Кёнігберга) і Ляйпцыга. Большыня акадэмічных выкладчыкаў паходзіла з земляў Вялікага Княства Літоўскага.

Сярод найбольш знаных выпускнікоў Акадэміі — пісьменнік і вучоны-філолаг Мялет Сматрыцкі, філосаф Марцін Сміглецкі, правазнаўца Арон Алізароўскі, паэт і філосаф Міхал Карыцкі, гісторык Альберт Каяловіч, матэматык і архітэктар Тамаш Жаброўскі, філосаф і знаўца красамоўства Жыгімонт Лаўксмін, астраном і матэматык Марцін Пачобут Адляніцкі...

Паэт Мікола Гусоўскі, інжынер-вынаходнік Казімір Семяновіч, педагог, асветнік і пісьменнік Сімяон Полацкі — яны таксама пачыналі шлях да славы ў Віленскай акадэміі. Многія з яе вядомых выхаванцаў заставаліся выкладаць там і прымнажалі славу галоўнай навучальнай установы Княства. Сярод іх быў і выдатны паэт, філосаф і літаратуразнаўца Мацей Казімір Сарбеўскі.

**Перад паэтам і вучоным з Вільні адкрывалася паспяховая і заможная будучыня ў Вечным горадзе, але Сарбеўскі адгукнуўся на покліч сэрца, якое імкнулася на радзіму. Па дарозе дадому Мацея некалькі разоў абрабавалі і збілі разбойнікі**

## Хрысціянскі Гарацый

Калі прафесар Сарбеўскі падымаўся на сваю катэдру, студэнты захоплена перашэптваліся. Яны ведалі, што вершы Мацей Казімір пачаў пісаць з дзесяці гадоў. У юнацтве ён выкладаў у Полацкім калегіюме, потым вучыўся на тэалагічным факультэце Віленскай акадэміі, адкуль як адзін з яе найлепшых выпускнікоў быў пасланы дасканаліць веды ў Рым.

У Вечным горадзе, як часта называюць Рым, паэтычны талент Сарбеўскага па-сапраўднаму расквітнеў, і нядаўняга віленскага студэнта пачалі параўноўваць з самымі знакамітымі паэтамі мінулага і сучаснасці. Увесь адукаваны Рым ужо называў Мацея Казіміра «хрысціянскім Гарацыем» і лічыў яго бліскучым спадкаемцам славы гэтага старажытнага паэта.

Сарбеўскі, як і некалі Гарацый, пісаў на лаціне і лічыўся найвыдатнейшым лацінамоўным паэтам тагачаснай Еўропы. Папа рымскі Урбан VIII укаранаваў нашага суайчынніка лаўровым вянком на Капіталійскім узгорку, дзе здаўна ўшаноўвалі самых таленавітых творцаў. Мацей Казімір заслужыў такую ўзнагароду першым са славянаў. У падарунак «хрысціянскі Гарацый» атрымаў залаты ланцуг з папскім партрэтам.

Перад паэтам і вучоным з Вільні адкрывалася паспяховая і заможная будучыня ў Вечным горадзе, але Сарбеўскі адгукнуўся на покліч сэрца, якое імкнулася на радзіму. Па дарозе дадому Мацея некалькі разоў абрабавалі і збілі разбойнікі. Ён не аднойчы рызыкаваў жыццём, але вярнуўся ў Вільню, каб выкладаць у роднай Акадэміі.

Прафесар Сарбеўскі чытаў лекцыі па філасофіі, тэалогіі, літаратуры. Яго навуковыя даследаванні высока цаніліся ва ўсёй Еўропе. Не пакідаў ён і плённай паэтычнай творчасці. Кнігі вершаў Мацея Казіміра выходзілі не толькі ў Вільні, але і ў Кёльне, Антверпене, Рыме. Самым дарагім ён лічыў выданне, якое праілюстраваў слынны мастак Пітэр Паўль Рубенс.

Мацей Казімір Сарбеўскі смела для таго часу меркаваў, што свет, які стварае паэзія, існуе побач з светам, народжаным Божай воляй.

Пасля заканчэння зямнога шляху Мацея Казіміра яго паэтычныя кнігі




**Перад вамі панарама Віленскага ўніверсітэта на пачатку XIX стагоддзя. Справа — першы рэктар Пётр Скарга, славуты філосаф, пісьменнік і прапаведнік XVI стагоддзя. Злева — вучоны з еўрапейскай славай, знакаміты астраном, матэматык і асветнік Марцін Пачобут-Адляніцкі, які займаў пасаду рэктара нашай вышэйшай школы ў 1780–1799 гадах.**
**Пачобут-Адляніцкі ва ўрачыста-цырыманіяльным рэктарскім строі з залатым ланцугом і жазлом, якое сімвалізавала шырокія вольнасці ўніверсітэта і яго незалежнасць ад уладаў. Навершнік жазла — «Пагоня», якая была і на ўніверсітэцкім гербе. На другім плане навучальныя карпусы і двары ўніверсітэта, дзе жыццё цячэ як у асобным горадзе. Там жывуць студэнты, выкладчыкі і прафесура, знаходзіцца рэзідэнцыя рэктара. Над універсітэцкімі будынкамі і ўсёй Вільняй узвышаецца званіца касцёла Святых Янаў. Бліжэй да вас дзве вежы астранамічнай абсерваторыі з гадзіннікам на адной з іх. На фрызе — паэтычны надпіс, які ў перакладзе з лаціны гучыць так: «Адвага дае старому небу новае святло. Тут забываюць пра грэшную зямлю і ўздымаюцца да зорак...» На картушы над панарамай на лацінскай мове змешчаныя найменні ўніверсітэта ў розныя часы.**

больш за 50 разоў перавыдаваліся ў Парыжы, Варшаве, Львове, Дрэздэне, Страсбургу, Лос-Анжэлесе… Сёння імем Сарбеўскага названы адзін з двароў Віленскага ўніверсітэта.

### Галоўная школа Вялікага Княства

Першае ў свеце міністэрства народнай асветы — Адукацыйная камісія Рэчы Паспалітай. Яна адчыняла новыя школы і навучальні, паляпшала працу ранейшых. Пад кіраўніцтва камісіі перайшла і Віленская акадэмія, якую вызвалілі з-пад моцнага ўплыву каталіцкай царквы і назвалі Галоўнай школай Вялікага Княства Літоўскага. У яе ведамства перадалі ўсе навучальныя ўстановы дзяржавы. На змену лацінскай мове ў былой Акадэміі пад уплывам палякаў і значна апалячанай ліцьвінскай шляхты пачала прыходзіць польская.

Пасля страшнай вайны з Расеяй 1654–1667 гадоў, калі Беларусь страціла палову насельніцтва, наша вышэйшая школа перажывала застой. Адукацыйная камісія паставіла перад Галоўнай школай мэту вярнуць былы аўтарытэт Акадэміі ды паспяхова спаборнічаць з універсітэтамі Заходняй Еўропы.

У Галоўнай школе, якая захавала ўсе ўніверсітэцкія правы, з'явіліся новыя катэдры і навучальныя дысцыпліны. Студэнты з захапленнем займаліся ў астранамічнай абсерваторыі. Катэдру выяўленчага мастацтва ўзначаліў славуты мастак Францішак Смуглевіч. На працу ў Вільню запрашалі вядомых замежных вучоных. Сярод іх быў французскі батанік і медык Жан Эмануэль Жылібер, які да гэтага стварыў Гарадзенскую медыцынскую акадэмію. Пераехаўшы разам з вучнямі ў сталіцу Княства, прафесар Жылібер адчыніў у Галоўнай школе Княства медыцынскі факультэт, заклаў батанічны сад і аранжэрэю. Неўзабаве медыцынскі факультэт у Вільні стаў заслужана лічыцца найлепшым факультэтам такога кшталту ў Рэчы Паспалітай.

Галоўная школа Княства праіснавала толькі чвэрць стагоддзя, але паспела падрыхтаваць нямала вядомых вучоных. Доктарам медыцыны і філасофіі стаў Аўгуст Бекю, які плённа займаўся гігіенай. Сярод выхаванцаў нашай вышэйшай школы — хімік і біёлагАндрэй Снядзецкі, які адкрыў новы метал — весцій (цяпер ён называецца рутэніем) — і напісаў першы ў Рэчы Паспалітай падручнік хіміі. З удзячнасцю згадваў сваіх выкладчыкаў гісторык Тэадор Нарбут. Ён даследаваў айчынныя курганы і замкі, надрукаваў каштоўную беларускую «Хроніку Быхаўца», вывучаў старажытную міфалогію.

Нязменным рэктарам Галоўнай школы Вялікага Княства Літоўскага быў добра вядомы ў навуковым свеце Еўропы астраном і матэматык Марцін Пачобут-Адляніцкі.

### Адкрывальнік зорак і талентаў

Будучы рэктар і вучоны нарадзіўся ў вёсцы Саломенка Гарадзенскага павета. Шлях у вялікую навуку Марцін пачаў у калегіюме Таварыства Ісуса



Марцін Пачобут-Адляніцкі (1810).Рэпрадукцыя паводле партрэта Ё. Аляшкевіча



Мацей Казімір Сарбеўскі. Ананімны партрэт другой чвэрці XVII стагоддзя

ў Горадні. Юнак вызначаўся добрым веданнем розных прадметаў — ад матэматыкі да старажытных моваў, але ўжо тады яго вабілі таямніцы бяздоннага зорнага неба. Калі астатнія шкаляры засыналі, Марцін уладкоўваўся пры вакне і мог доўгімі гадзінамі зачаравана назіраць за рухам Месяца, за планетамі і сузор'ямі.

У Віленскай акадэміі Пачобут-Адляніцкі сустрэў таленавітых выкладчыкаў астраноміі. Тут гэтая навука здаўна выкладалася на высокім роўні. Менавіта ў нашай Акадэміі ўпершыню ва Усходняй Еўропе яшчэ ў сярэдзіне XVII стагоддзя адкрыта прызналі геліяцэнтрычную сістэму Мікалая Каперніка, паводле якой Зямля і планеты круцяцца вакол Сонца. Плённаму навучанню віленскіх студэнтаў спрыяла і ўласная абсерваторыя.

Здольнага маладога астранома накіравалі паглыбляць веды спачатку ў Прагу, а затым — у абсерваторыі французскіх гарадоў Марсэля і Авіньёна ды італьянскага Неапаля. Вярнуўшыся ў Вільню, Марцін узначаліў акадэмічную катэдру матэматыкі і астраноміі, а таксама быў прызначаны дырэктарам абсерваторыі, якую вырашыў зрабіць узорнай.

Пад кіраўніцтвам выкладчыкаў, а часта і самога дырэктара студэнты пачалі кожную ноч назіраць планеты Сонечнай сістэмы і зоркі. Прафесар Адляніцкі найперш сачыў за Месяцам і, дзякуючы гэтаму, дакладна вызначыў шырату і даўгату Вільні, а пазней Горадні ды іншых беларускіх гарадоў. Вучоны вырашыў набыць для абсерваторыі найноўшае абсталяванне і выправіўся па яго ў Вялікабрытанію, Францыю і Галандыю. На працягу цэлага года ён вывучаў дзейнасць Парыжскай і Грынвіцкай абсерваторый.

Пачобут-Адляніцкі ніколі не спыняў і назіранняў за нябеснымі свяціламі, не прапускаў ніводнага сонечнага ці месяцавага зацмення. Ён склаў табліцы руху Меркурыя, адкрыў новае сузор'е, названае Каралеўскім Цяльцом Панятоўскіх у гонар нашага тагачаснага вялікага князя і караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага.

Разам з уласнымі навуковымі даследаваннямі рэктар Галоўнай школы чула апекаваў маладых вучоных. Ягоным вучнем быў, напрыклад, сын ашмянскага суддзі Вінцэнт Карчэўскі, што выдаў высока ацэненыя ў навуковым свеце кнігі «Пра каметы» і «Астраномія».

**Вельмі хутка ўніверсітэт пачаў ператварацца ў магутны агмень вальнадумства і супраціву расейскім каланізатарам. Тут узніклі таемныя таварыствы, сябры якіх хацелі служыць не Расейскай імперыі, а свайму народу. Да гэтых суполак належалі самыя здольныя студэнты**

Марцін Пачобут-Адляніцкі не стаяў у баку ад палітычных падзей у нашай дзяржаве. У 1794 годзе ён падтрымаў вызвольнае паўстанне Тадэвуша Касцюшкі і спрыяў кіраўніку паўстанцаў у Вялікім Княстве Якубу Ясінскаму. Рэктар ахвяраваў змагарам вялікія грашовыя сродкі і ўвайшоў у Найвышэйшую Літоўскую Раду — Часовы ўрад Літвы-Беларусі.

Навуковая і грамадская дзейнасць нашага суайчынніка была высока ацэненая ў роднай дзяржаве і ў Еўропе. Вялікі князь і кароль Станіслаў Аўгуст загадаў выбіць медаль з партрэтам Адляніцкага. Вучонага абралі сябрам Лонданскага і Варшаўскага навуковых таварыстваў і сябрам-карэспандэнтам Французскай Акадэміі навук. Імем Пачобута-Адляніцкага названы кратэр на Месяцы.

### Большы за Оксфард

Пасля захопу земляў Вялікага Княства расейцамі Галоўная школа была перайменаваная ў Імператарскі Віленскі ўніверсітэт. Ён быў прызначаны для адукацыі моладзі з васьмі губерняў — Віленскай, Віцебскай, Гарадзенскай, Магілёўскай, Менскай, Кіеўскай, Валынскай і Падольскай.

Як і раней, большыня студэнтаў і выкладчыкаў паходзілі з беларускіх земляў, але мовай выкладання, як і ў Галоўнай школе, заставалася польская. Расейская ўлада не прызнавала ні самастойны беларускі народ, ні нашу мову. Гэта ўмела выкарыстоўвалі ў сваіх інтарэсах палякі. Апекуном універсітэта стаў кіраўнік Віленскай навучальнай акругі, наближаны да расейскага цара паляк Адам Чартарыйскі. Ён імкнуўся адчыняць на нашых землях польскія школы і выхоўваць моладзь у польскім духу.

Студэнты Віленскага ўніверсітэта вучыліся на чатырох факультэтах: фізічна-матэматычным, медыцынскім, маральна-палітычным і філалагічна-мастацкім. Там выкладаліся 55 прадметаў. Вышэйшая школа мела багаты батанічны сад, анатамічны музей, фізічную і хімічную лабараторыі, свой шпіталь. Амаль 60 тысяч кніг налічвала самая вялікая на абшары былога Княства ўніверсітэцкая бібліятэка.

У 1820-я гады Віленскі ўніверсітэт стаў найбуйнейшым не толькі ў Расеі, але і ў Еўропе. Тут займалася больш за 1300 юнакоў, што пераважала колькасць студэнтаў у слаўным англійскім Оксфардзе. Пра значнасць Віленскай вышэйшай навучальні казала, напрыклад, тое, што на пачатку XIX стагоддзя яна рыхтавала кожнага трэцяга лекара ўсёй Расейскай імперыі.

Ва ўніверсітэце працаваў вядомы вучоны астраном, матэматык і філасоф Ян Снядзецкі, які ў 1812 годзе, калі быў рэктарам, увайшоў у Часовы ўрад адноўленага Вялікага Княства. Снядзецкі некалькі разоў сустракаўся ў Вільні з Напалеонам і ўразіў французскага імператара розумам і вучонасцю.

Катэдрай сельскай гаспадаркі кіраваў прафесар Міхал Ачапоўскі. Ён здзейсніў навуковую вандроўку па дзесяці еўрапейскіх краінах і паспяхова ўкараняў замежныя дасягненні аграрнай навукі на Бацькаўшчыне.

Запрошаны з Вены доктар медыцыны Ёзэф Франк заклікаў калегаў і студэнтаў даследаваць і лекаваць хваробы разам з вывучэннем умоваў жыцця хворых. Дзякуючы яму ў Вільні пачалі рабіць прышчэпкі ад воспы і дапамагаць бедным хворым жанчынам.

### Агмень вальнадумства

Вельмі хутка ўніверсітэт пачаў ператварацца ў магутны агмень вальнадумства і супраціву расейскім каланізатарам. Тут узніклі таемныя таварыствы, сябры якіх хацелі служыць не Расейскай імперыі, а свайму народу. Да гэтых суполак належалі самыя здольныя студэнты Адам Міцкевіч, Тамаш Зан, Ян Чачот, Ігнат Дамейка ды многія іхнія сябры і аднадумцы.

Студэнты асабліва шанавалі і любілі выпускніка Віленскага ўніверсітэта прафесара гісторыі Яўхіма Лялевеля. Ён напісаў шматлікія працы пра мінулае Вялікага Княства Літоўскага. У лекцыях прафесар сцвярджаў, што гісторыя павінна стаць летапісам народнага жыцця. Лялевель глыбока перажываў паняволенае становішча Айчыны і верыў у яе вызваленне ў выніку супольнага змагання патрыётаў Літвы-Беларусі і Польшчы разам з расейскімі дэмакратамі. Да іх ён звярнуўся з крылатым заклікам: «За нашу і вашу свабоду!»

Калі жандары раскрылі антыўрадавыя студэнцкія таварыствы, дзясяткі філаматаў і філарэтаў трапілі ў царскія турмы, а затым былі высланыя ў розныя мясцы Расейскай імперыі. Улады забаранілі чытаць лекцыі Яўхіму Лялевелю, якога лічылі натхняльнікам моладзі. Пакараныя былі і прафесары Міхал Бабровіч ды Ігнат Даніловіч, якіх лічаць пачынальнікамі беларускага нацыянальнага адраджэння.

## ГІСТАРЫЧНАЯ ВІКТАРЫНА

1. Раскажыце пра стварэнне Віленскай акадэміі.
2. Як дапамагалі Акадэміі ліцьвінскія арыстакраты?
3. Якія кнігі выпускала акадэмічная друкарня?
4. Назавіце найбольш знакамітых выпускнікоў вышэйшай школы Вялікага Княства.
5. Каго з нашых суайчыннікаў і за што назвалі «хрысціянскім Гарацыем»?
6. Што вы даведаліся пра Мацея Казіміра Сарбеўскага?
7. Як Галоўная школа Вялікага Княства працягвала справу Акадэміі?
8. Чаго дасягнуў у навуцы Марцін Пачобут-Адляніцкі?
9. Як дзейнічаў Віленскі ўніверсітэт на пачатку XIX стагоддзя?
10. Чаму мы кажам, што ўніверсітэт стаў агменем вальнадумства?

# Забыцца памерці



Альжбета КЕДА

## Сукенка

Вельмі прыгожая. Цёмна-барвовы, з чорнымі паскамі трыкатаж. А яшчэ — з люрэксам. Так называлі ў вёсках бліскучыя ніткі. Мець такую ў сямідзясятыя гады было вялікім шыкам. У крамах такіх не было. Затое жылі яшчэ ў нашым краі краўчыхі з польскіх часоў, якія валодалі сваім майстэрствам дасканала. Не проста адзенне шылі, а мастацкія ўзоры тварылі. Матэрыял з-за мяжы даставалі: з блізкае-далёкае Польшчы, з Масквы, а часам — з Амерыкі.

Гаспадыня сукенкі — пані доктарава. Прыгожая кабета, якая ніколі не дазволіла сабе з хаты выйсці, належна не выстраіўшыся. Была, ды і засталася, узорам беларускае жаночае шляхетнасці.

Гэтая сукенка Ларысы Антонаўны Геніюш у Гудзеўскім музеі.

## Куфар

Драўляны, з металёвымі акаймоўкамі. Выразна відаць літары — АК. Ініцыялы паненкі на выданні, куды збіраўся пасаг. Для будучае сямейкі, для шчасця.

Не магу без болю глядзець на яго, бо ўсплывае тое, чаго не было, чаго не магло быць. Куфар АК не мог трапіць у ягоны дом. Хоць ён так кахаў яе! Верыцца, што было тое ўзаемна. Але хто ён? «Бедны студэнт, сухотнік. Не пара маёй пляменніцы!» — вырашыла цётка-апякунка. І куфар трапіў у дом іншага, шчаслівага абранніка.

Прайшло больш за сто гадоў. Людзі памятаюць яе, бо яна — ягонае каханне. І той куфар сёння ў ягоным доме.

Куфар Ганны Какуевай у Музеі Максіма Багдановіча.

## Забыцца памерці

Яна перажыла ўсіх са свайго пакалення. З пакалення наступнага — пляменнікаў, дзяцей свае сястры. Страціла памяць. Але памятае вершы, якія вучыла ў дзяцінстве.

Не пра яе гэта: «Ён ведае так мала, каб памерці, // І гэтак многа ведае, каб жыць». Яна забылася, што паміраць трэба.

Яе блакітныя вочы напоўнены туманам. Яны глядзяць не на свет. Позірк увесьчасна сплывае некуды ў глыбіні, дзе нельга адшукаць сэнсу. Вочы быццам становяцца вадою, што некуды сплывае. Мо ў мінулае, мо ў будучыню, якое тут, у гэтым жыцці, у яе больш няма.

Да болю шкада яе, і тых, хто побач.

Не дай Божа забыцца памерці.

## Здымак

Яна магла бясконца ўглядацца ў твары, вочы гэтых незвычайна прыгожых маладых людзей. Двое мужчынаў і адна дзяўчына. І тады, калі атрымала гэты водгук з далёкае, даваенная пары, і пазней, калі ўжо ведала, як пераблытаў лёс іхнія шляхі, як перакруціў, пераплёў, завязаўшы ў вузел, каб ураз жа яго і рассекчы. Яна не проста глядзела, а імкнулася дайсці: пра што яны думаюць цяпер, што было перад тым, калі фатограф выхапіў гэтае імгненне, і што было пасля. Хто падаў ёй руку, хто і што сказаў ёй — адзінай паненцы між гэтых прыгожых хлопцаў? Цікавілі звычайныя жаночыя пытанні: якога колеру яе цёмная сукенка з белым карункавым каўнерыкам, што быў заколаты пасярэдзіне брошкай з пярлінавымі вочкамі? І завушніцы таксама з пярлінкамі. Хто так прыгожа ўклаў каронаю вакол галоўкі яе шыкоўныя валасы, якія туфлікі на яе ножках?

Ад самага пачатку дакладна ведала толькі імя жанчыны — Гелена. Была тая стрыечнай бабулінай сястрой аднакласніцы, ад якое і атрымала здымак: «Ты збіраеш даўняе, відаць, табе будзе цікава». Яшчэ як цікава! Здымкі тае пары ў яе Шчонаве лічаныя, дзясятка не набярэцца. А тут такі якасны, выразны, зроблены няйначай прафесіяналам. Дзе зроблены? Ніякага надпісу, ні рамачкі ці хоць якога знаку нямашака.

Нат прозвішча аднакласніца не назвала, бо сваячка бабулі была па кудзелі. То і згубілася яно, у той даўняй кудзелі заблытаўшыся. Сям'я Гелены з'ехала ў сярэдзіне трыццатых гадоў недзе пад Баранавічы, дзе бацька служыў эканомам у пана. Яна тады ўжо не ў Шчонаве жыла, замуж кудысьці выйшаўшы. Гэта было ўсё, пра што даведалася. Аднакласніцы хапала таго, што імя бабулі і дзеда памятала. Глыбейшае яе не цікавіла.

З пяці не заўсёды надзейных крыніцаў, шчонаўскіх доўгажыхарак, толькі апошняя, цётка Волька Харанджукова, да якой даехала ў Наваградак, пазнала, хто справа ля Гелены:

— Дык гэта ж яе мужык, Костусь Сасімовічаў. О, яго то я добра памятаю, хоць малая тады была, бо ён да мае старэйшае сястры спачатку заляцаўся, спадзяваліся бацькі, што замуж возьме... А той, як Гэлю ўгледзеў, то на Агату нашу і не глянуў болей. Надто харошая тая Гэля была. Шмат хто на яе заглядаўся... Сасімовічы прыязджалі на Спаса да сваякоў у Шчонава, на гуляні Костусь яе і ўпадабаў. А ішоў да Агаты...

Адразу згадала: шэкспіраўскі сюжэт па-шчонаўску: Рамэо забывае Разаліну, угледзеўшы Джульету... Даведалася, што сям'я Гелены жыла ў сядзібе на ўскрайку Захомаў, недалёкага ад Шчонава лесу. Бацька яе Пахалінскі, у тутэйшага пана Ждана эканомам працаваў. Замуж за Костуся пайшла ў фальварак за Цырынам. Аўдавеўшы, адна ўсё жыццё пражыла, з сынам. Той быў ажаніўся, развёўся, сын у яго быў. Не ведала цётка Волька, дзе той сын, Гэлін унук, бо радні блізкае ў нашых ваколіцах не засталося. Згубіўся след...

— Хто думаў тады, як Агату Костусь пакінуў, што на добрае



Фота www.deskgram.net

гэта выйдзе. Бо забілі Костуся на вайне, а яе мужыка нат не паранілі. Хоць таксама на вайну быў узяты...

Вось жа, адзін з мужчынаў на здымку, той, што справа, Канстанцін Адамавіч Сасімовіч, муж Гелены. Загінуў ва Усходняй Прусіі 25 кастрычніка 1944 года. Адкуль такія дакладныя звесткі? З кнігі «Памяць» іхняга раёна.

Падавалася б, дастаткова даведалася, каб адкласці гэты здымак, супакоіцца і пакінуць у спакоі тых, каго ўжо даўно няма. Але спакою не было. Ёй чамусьці вельмі хацелася ведаць, хто быў трэці, што звязвала гэтых людзей. Але ніхто з старэйшага пакалення таго маладога хлопца не прызнаў. Ужо і надзею страціла. На сваёй стужцы яшчэ раней стварыла суполку «З даўнейшага». Многія туды заглядвалі. Знаёмыя і незнаёмыя. Выкладала здымкі. Каб лепей было зразумела, хто ёсць хто, падпісвала не толькі прозвішчы, імёны, але і мянушкі. Любіла шчонаўскія мянушкі. Па-рознаму яны гучалі. То ласкава — Леснічок, Чорненькі, то грубавата — Корч, то са смяшынкай — Чубко, то ганарова — Ахвіцэр, Пасэсар, Барын.

Апошняя мянушка якраз і дапамагла разгадаць, хто трэці на здымку. Як аказалася, зусім не таго чалавека за Барына прымала. На трох здымках той быў. Ды вось адгукнуўся аднойчы незнаёмы мужчына:

— Вы часам згадваеце мянушку майго дзеда Міхася — Барын. Ведаю, што так нас называлі. Ад бабулі пра гэта чуў. Але гэта не той чалавек, якога Вы пазначаеце. Той, мой дзед, іншы, на Вашым здымку таксама ёсць. Мяне ў гонар яго Міхасём назвалі. Праўда, на радню бацькаву я не падобны. Па маме я.

І пазначае — каго б Вы думалі!? — таго трэцяга мужчыну з ёйнага здымка, што поруч з Геленай. Гэта было так нечакана! З маладзейшага пакалення мала хто мянушкі шчонаўскія ведае, мала хто і здымкі даўнейшыя ма́е. Таму гэта падалося ёй праўдзівым цудам: знайшоўся згублены для шчонаўскае грамады чалавек усяго з трэцяга пакалення. Так параскіданыя яе шчонаўцы па свеце! І знайшоўся ён дзесьці за марамі-акіянамі, а ў не такім і далёкім Санкт-Пецярбурзе. Каранямі сваімі цікавіцца, здымкі беражэ. Праўда, да Шчонава ні разу так і не даехаў. Даслаў ён здымкі сваіх дзядулі (так, гэта той, трэці), бабулі. І бабуля ягоная, жонка Міхася Барына Аксіння, з Геленаю знаёмая была, сябравалі, на вяселлі іхнім з сваім мужам будучым пазнаёмілася. Перад вайною пабраліся. Таксама, як і Гелена, мужа страціўшы, разам з сынам жыццё пражыла. На старасці забраў ён яе ў Санкт-Пецярбург. Адтуль з Геленаю стэлефаноўваліся часам, перапісваліся, здымкі адна адной дасылалі. Сыноў сваіх, унукаў. І тыя здымкі даслаў таксама...

Там яна і ўгледзела тое, што не давала ёй спакою. Папрасіла спадара Міхася звесці яе з унукам Гелены, адрас даць, бо не прызнаваў той сацыяльныя сеткі. Напісаў яму, дазволу папрасіў, даслаў адрас...

Яна сутрэлася з Кастусём Сасімовічам, унукам Гелены і Кастуся, мінулым летам у Райцы, недалёкім ад Шчонава мястэчку, на Спаса, парафіяльным святе. Не тое, што баялася гэтае сутрэчы. Не, проста не ведала, ці можна паведаміць яму пра іх сямейную таямніцу, якая адкрылася ёй, чужой кабеце, праз столькі гадоў. Напачатку яны абодва, унук Сасімовіча і ўнук Барына, прыехаць меркавалі. Але і гэтым разам даехаць на Радзіму бацькоў апошняму не выпала.

Калі яна хвалявалася і мусіла нешта хаваць, то гаварыла шмат, адводзячы ад галоўнага, адцягваючы час. Так і гэтым разам. Расказвала пра сваю кнігу, пра ягоных сваякоў, блізкіх і далёкіх, сувязі з якімі ён не меў, пра даўняе Шчонава і самотнае цяперашняе вёскі. Пасля свята яны збіраліся туды паехаць. Вырашыла, што скажа яму (калі ўсё ж асмеліцца) там. Глядзела ў ягоныя вочы, высокі, адкрыты твар, хвалістыя валасы. І бачыла ў ім таго, іншага, што не вярнуўся з вайны. Баялася загаварыцца і назваць яго Міхасём. Было ніякавата. Мужчына (а яны ж так любяць, каб слухалі іх), не надта імкнуўся падтрымаць размову. У нейкі момант ёй падалося: ён ведае, што яна хавае. Такім праніклівым быў ягоны пагляд. Яна змоўкла.

— Хочаце ведаць, што сказала мне бабуля Гелена перад смерцю?

Пытанне прагучала вельмі нечакана. Яна яшчэ нічога пра іх не сказала, баялася загаварыць пра Гелену, Кастуся, Міхася... Ён разумеў, што пытаць пра гэта было лішнім. Быццам выпрабоўваў яе.

— Вы ж хочаце назваць мяне Міхасём?

Гэта ўжо было занадта! Ён што — чытае яе думкі?

Гаварыць пачаў не так, як яна. Без хвалявання, стрымана:

— Бабуля глядзела на мяне вельмі ўважліва. Прыблізна як Вы зараз. А яшчэ з такою любоўю і пяшчотай, як на мяне не глядзеў ніхто і ніколі. Прамовіла: «Міхасю...» Калі я памкнуўся пратэставаць, думаючы, што яна трызніць, бо я ж яе ўнук, Кастусь, яна сказала: «Ты ўнук Міхася Барына». І пачала гаварыць хутка. Пра Міхася, якога кахала ўсё жыццё. Пра тое, што толькі з ім звязвала свае надзеі на замужжа, шчасце. А сябра ягоны, Кастусь, так яе ўпадабаў, што сватоў той жа восенню праслаў. І бацькі адразу пагадзіліся: багаты быў, фальварак меў, ды і хлопец прыгожы, добры. Нічога не скажаш. Яна і не сказала нічога. Хто б яе слухаў? Бацькі вырашалі. За гонар ім было мець такога зяця. Як пабегла вечарам пасля таго сватання на спатканне да Міхася. Як рвалася на часткі яе сэрца. Як ён суцяшаў яе... І як сталася... Як страшна было ёй сказаць Кастусю пра той смяротны грэх. Ды ўсё ж сказала, ведаючы, што добры ён, не пракляне, не выдасць яе на ганьбаванне, што мо адмовіцца ад шлюбу. Не адмовіўся. Доўга маўчаў. Сказаў, што даруе, бо кахае. Але запатрабаваў ад яе клятвы, што будзе вернай яму ўсё жыццё. Стрымала клятву. Ні за кога не выйшла, удавою застаўшыся. Засталася вернай свайму Кастусю. І Міхасю. «І ты, унучак, даруй...»

Змоўк на хвіліну. Спытаў:

— Вы дзеля гэтага прасілі мяне прыехаць?

— ...І каб пра здымак распытаць...

— Гэты? — Ён дастаў з свайго кейса канверт, у які быў укладзены той жа здымак, у які яна бясконца ўглядалася. Яна ўжо не здзіўлялася...

— На Спаса быў зроблены. Калі Кастусь упершыню маю бабулю ўгледзеў. Фатографа з Наваградка запрашалі, у школе здымкі рабіў.

— Мо ведаеце, якога колеру была сукенка пані Гелены?

Задумаўся:

— Не, не памятаю, каб бабуля пра гэта казала. Тады ж, перад смерцю, здымак гэты мне аддала. Казала, што вельмі няёмка ёй было сядзець між імі. Бачыла, што Кастусь захапіўся ёю. Міхась іх і пазнаёміў...

Яны вырашылі пайсці да Шчонава пешшу. Шляхам, якім хадзілі Гелена, Міхась, а таксама яе бабуля Волька і той, каго кахала ды за каго не выйшла...

А хто той, каго яна як Барына ўспрымала? Ніхто ўжо, пэўна, не падкажа...

# Аповеды



Алесь БЫЧКОЎСКІ

## Настаўнік

Мне здаецца, кожны шчыры беларус трошкі любіць Ізраіль. Гэта генетычная, ну або гістарычная памяць. Напрыклад, Беразіно да рэвалюцыі лічылася штэйтлам і дало свету шмат нашчадкаў Аўраама. Дый уласна Беларусь, напэўна, лічылася б негалоснай юдзейскай правінцыяй, адрадзіся Ізраіль гадоў на сто раней. Аднак я пра іншае.

Рыгор Яўсеевіч, бадай, доўга вагаўся, ці выпраўляцца на гістарычную радзіму. Але калі ад'язджаў, праважалі піянеры. Унукі Ільіча ў святочных строях, то бок, белых кашулях, пры чырвоных гальштуках і пілотках, з горнам, барабанам і спевамі, сталі шыхтам і хорам салютавалі Рыгору Яўсеевічу. Суседзі павылазілі з вокнаў, павытыркаліся на гаўбцы падзівіцца на цуда. Дасведчаныя ж людзі, што памяталі стракатыя лёсы тых габрэяў, якія хацелі з'ехаць у эпоху Брэжнева, пэўна, думалі — цырк прыехаў, ну ці кіно здымаюць.

Аднак Рыгор Яўсеевіч з годнасцю сына абранага народа развітаўся з кожным сябрам, калегам, вучнямі школы, у якой працаваў, і разам з сям'ёй забраўся ў чэрава мікрааўтобуса, каб ніколі ўжо не ступіць на бярэзінскай зямлі.

Фельдманы жылі ў нашым пад'ездзе на пятым паверсе. Дасведчаныя людзі ў 80-я наш пад'езд між сабою менавалі дурдомам. Сёння ў нас гулянка, у суседзяў вайна, заўтра ў суседзяў «празьнік», а ў нас — сварка. Па чарзе, на кожным паверсе, у кожнай кватэры амаль без выключэння гудзелі, звінелі, раўлі, смяяліся, плакалі, душыліся, клубком качаліся і спявалі песні. Да адных часам прыбываў нарад міліцыі, да другіх — «хуткая». Слаўна балявалі савецкія людзі. І як у гэтай атмасферы пачувалася інтэлігентная сямейка з пятага паверха, можна толькі ўявіць і пасачуваць.

Жонка Рыгора Яўсеевіча, цётка Наташа, часам жаласліва піліла на скрыпачцы (выкладала ў музычнай школе), і ніхто ў пад'ездзе не скардзіўся на залішні шум, бо ўсім было сорамна, па-першае, за сябе.

Наша сямейства на трэцім паверсе яны лічылі таксама інтэлігентным. Лёнька і Ігарок заходзілі да мяне гуляць у вайнушку, хованкі і шашкі, а дзядуля Мойша пазнаёміўся з маёй бабуляй Марыяй і таксама часцяком наведваўся ў госці. Да таго часу бабуля ўжо шаснаццаць гадоў жыла без мужа-нябожчыка, і дзядуля Мойша таксама, здаецца, быў удавец. Яны сядзелі на кухні ў нас і пілі гарбату, як навучыў дзядуля Мойша — з малаком. Пра што яны размаўлялі? Ужо і не скажаш. Спрытная на язык бабуля магла ляпнуць такое, што ў дзядулі Мойшы злёгку чырванела лысаватая макаўка. І ён тады скрушна хітаў галавою і спешліва запіваў пачуцці гарбатай.

— Бабка, выйдзеш замуж? — цікавіўся я.

— А навошта мне гэта старое мудо абсціраваць, есці варыць, я сама сабе, даўно звыкла!

Дзядуля Мойша, мабыць, і сам здагадаўся, і сяброўства-гасцяванне старых патрошкі згасла ў нуль.

***

У дзяцінстве я незнарок здзейсніў учынак, за які і сёння сорамна. Справа была перад 23 лютым. Народ мыўся, галіўся, наважваўся ўзяць чарку. «Празьнік» жа! І вось наша сям'я гамузам вываліла на вуліцу пад шчыльны снегапад у накірунку да крамы, бо нейкі дэфіцыт перад святам давалі па аднаму на рукі. І якраз сутыкнуліся з цёткай Наташай, якая перла ёмістыя ванзэлкі. Цётухна спынілася, пераняла дых і папрасіла мяне (!) дапамагчы занесці на пяты паверх святочны падарунак мужу: масіўны пісьмовы прыбор з керамічнай статуэткай зубра і пампезна-шыкоўнымі бліскучымі асадкамі. Усё загорнутае ў слюду, перавязанае святочнай стужкай. Ну я і пабег старчма. Ды, на бяду, спатыкнуўся на лесвіцы і (о, гора!) растоўк статуэтку. І калі Рыгор Яўсеевіч адчыніў дзверы на званок, я моўчкі працягнуў яму падарунак ад жонкі. І ён моўчкі забраў. Чырвоны, нібы бурак, я спусціўся ўніз і пераможна адрапартаваў цётцы пра паспяховае завяршэнне задання. Цётка падзякавала, прыязна развіталася з маімі бацькамі і пакрочыла з трантамі ў пад'езд. І толькі праз шмат часу я ўсвядоміў усю недарэчнасць свайго неахайнага ўчынку. Яны нічога не сказалі пасля, мабыць, толькі падумалі і зрабілі высновы.

А яшчэ ў мяне была царская манетка. Тры капейкі прыкладна 1873 года. О, як яна мяне вабіла няўмольнай сілай і таямнічасцю даўно зніклай эпохі! Я насіўся з гэтай манеткай, усім паказваў і хваліўся. А Лёнька ўсім паказваў пісталет, які страляе пістонамі. Часцей паказваў мне. «Дай мне на некалькі дзён пагуляцца манетку, а я табе дам пісталет з пістонамі», — прапанаваў Лёнька, і я з радасцю згадзіўся. Назаўтра Лёнька з'ехаў у Гомель да радні, а я тым часам палохаў дарослых нечаканымі выбухамі з пісталета. Лёнька вярнуўся. Я аддаў цацку законнаму ўладальніку і запатрабаваў царскую манетку.

— Ой, а я забыўся яе ў Гомлі, — на мяне глядзелі шчырыя, трошкі спалоханыя вочы. — Абяцаю, што вярну, калі паеду туды наступным разам.

Ну як мне не дараваць сябру? Па сённяшні дзень вяртае.

Здаецца, у чымсьці мы былі адзін аднаго вартымі...

***

У школе Рыгор Яўсеевіч выкладаў рускую літаратуру. Я ж ставіўся да школьнай літаратуры не вельмі прыветна. Усе вывучаюць Лермантава, я чытаю «Дон Кіхота». Усе «карпяць» над Пушкіным, я адольваю Роберта Шэклі. У мяне існавала ўласная індывідуальная праграма. У школьных таварышаў дык і пагатоў. Наш клас лічыўся не дужа ўпартым у справе засваення навук, таму да ўрокаў Рыгора Яўсеевіча мы ставіліся адпаведна, чым вельмі раздражнялі настаўніка. Аднак мы яго паважалі. Ён мог расказаць нешта такое, што нават нас вымушала кінуць на ўроку гуляць у карты і пачаць слухаць. Чаго ўжо не адняць: Рыгор Яўсеевіч быў настаўнікам з вялікай літары, а не проста кімсьці.

І вось аднойчы ён трошкі спазніўся, прыйшоў маўклівы, разгублены, нават пануры нейкі, стаў каля вакна. Мы адразу сцямілі, што адбылося нешта няладнае, нязвыклае.

— Мяне толькі што ледзь не засыпала цэглай з вялікай вышыні, — прамовіў Рыгор Яўсеевіч. — Абвалілася вежа каля дзіцячага садка, калі я праходзіў.

Рэч у тым, што каля агароджы дзіцячага садка нумар два, побач са школай, узвышалася воданапорная вежа з чырвонай цэглы. Вежа была настолькі старой, што ўнутры яе бегала па лесвіцах у дзяцінстве яшчэ мая маці, гуляліся там разам з іншымі малымі дзяўчынкамі. Вежу даўно ніхто не выкарыстоўваў па прызначэнні. Яна стаяла сабе і стаяла, нібыта ў чаканні. Цяпер мо сказалі б — арт-аб'ект. Ніхто і падумаць не мог, што вежа паваліцца. Пакуль не выспеў час ікс. Па сцежцы, якая ўзбоч вежы вяла да школы, крочыў Рыгор Яўсеевіч, калі раптам пачуў за спіною грукат лёсу...

Рыгор Яўсеевіч зачаравана ўзіраўся ў вакно, забыўшы на пушкінскую «Капітанскую дачку», доўга думаў і нарэшце вымавіў:

— Не, усё ж, відаць, трэба ехаць, то мне знак звыш.

Я выразна пачуў, бо сядзеў за першай партай каля вакна.

***

І вось салютуюць піянеры, трубяць у горн, лупяць у барабан. Нехта мо і пасмяяўся ўпотай, паздзекваўся. Маўляў, піянеры з помпай праводзяць старога юдзея на гістарычную радзіму, і куды гэта глядзяць пятае ўпраўленне і райкам партыі? А я скажу: скулля вам, добрыя людцы, то не піянеры праводзілі габрэя, а вучні — настаўніка літаратуры, якім, па шчырасці, увесь савецкі перыяд жыцця і з'яўляўся Рыгор Яўсеевіч. Я гэта зразумеў пазней.

Апошнім разам, калі я чуў пра гэтае сямейства, Рыгор Яўсеевіч быў намеснікам мэра ў Ашдодзе, што пацвярджае правіла пра талент, які заўсёды праб'ецца. Дзіва, у нас вышэй настаўніка не давалі хады.

Ну, а з Лёнькам мы ліставаліся ў «Адноклах», калі я там трымаў акаўнт. Прыгадвалі былыя часы, расказвалі пра сябе і ўласныя жыццёвыя заняткі. Лёнька адслужыў у ізраільскім войску, ажаніўся, працуе мэнэджэрам у краме. Ма́е прыгажуню жонку і цудоўных дзетак. На маё пытанне, як вы там з тэрарыстамі ўжываецеся, у вас жа штодня нейкія баявыя дзеянні, Лёнька напісаў: «Брахня! Усё сваім чэрадам. Калі канфлікты якія, дык гэта справа вайскоўцаў. Нас не кранаецца. Вось я быў у Парыжы, уключыў у гатэлі тэлевізар — і аж перасмыкнула. Згодна з еўрапейскімі СМІ, у Ізраілі немаведама што творыцца. Цьху, суцэльная хлусня, тэлевізійшчыкі наўмысна нагнятаюць абстаноўку ў навінах!». Я ўжо не асабліва расказваў, што сам па прафесіі журналіст і добра разумею тэму гутаркі.

Мы шмат пра што размаўлялі, абменьваліся меркаваннямі і ўспамінамі дзяцінства.

Пра царскую манетку я ўжо не ўзгадваў...

## Вучань

Іванка быў паслухмяным хлопчыкам. Пасля школы — адразу дамоў, нідзе не басцяўся, не курыў з аднагодкамі па завугольлях, нават піва не паспытаў, а калі мацюкаўся, то даволі рэдка і «па дзелу». Вучыўся на выдатныя адзнакі, не прапусціў ніводнага ўрока, а яшчэ быў актывістам у класе. І нават дзяўчынак за коскі не тузаў. Дома ж быў удалым памочнікам: дроў наносіць бабулі, вады з калодзежа нацягае вёдрамі поўную выварку. Як па-сапраўднаму паслухмяны хлопчык, з'ядаў усё ў талерцы. І бацькам ніколі не агрызаўся, не ставіў вочы. Золата, а не дзіця.

У шостым класе хлопчык захацеў фотаапарат. А добры фоцік — не танная цацка. Хлопчык вырашыў зарабіць і цягам году збіраў бутэлькі, здаваў макулатуру, адцэджваў з кішэнных грошай, якія, дарэчы, перападалі дужа рэдка (бо дзецям, вядома, нельга грошы даваць у рукі). Улетку ж лацвей, можна разам з бабуляй прадаваць яблыкі, грушы, вішні на вакзале. Карацей, калі Іванка назбіраў палову патрэбнай сумы, мара набыць фотакамеру ўжо не здавалася такой недасягальнай. Бабуля выведала, навошта ўнук збірае грошы. Ухваліла, расчулілася (ага, геній расце) дый паабяцала выдзеліць з пенсіі другую палову неабходнай сумы, бо любіла Іванку.

**Наш клас лічыўся не дужа ўпартым у справе засваення навук, таму да ўрокаў Рыгора Яўсеевіча мы ставіліся адпаведна, чым вельмі раздражнялі настаўніка. Аднак мы яго паважалі. Ён мог расказаць нешта такое, што нават нас вымушала кінуць на ўроку гуляць у карты і пачаць слухаць**

Праўда, бабуля абяцаныя грошы аддала не ўнуку, а ягонай маці, бо дзецям, вядома, нельга грошы даваць у рукі. Маўляў, пойдзеце разам з матуляй у краму, выберыце, і мама купіць. Іванка даверліва аддаў любай матулі сабраныя за год грошы. Пайшлі ў краму...

Ага, купілі... Для маці — спартовы касцюм, Іванку — красоўкі, якія на той час былі дэфіцытам. Тут ужо матуля дадала з уласных сродкаў, якія ўзяла ў таты.

У той момант Іванка раптам зразумеў, што яшчэ мала ведае жыццё.

А гадоў праз сем Іванка ўжо працаваў фотамастаком у фірме. Здымаў прафесійнай камерай, якую атрымаў на рабоце.

***

Розумам спасцігнуць метады выхавання бацькоў Іванкі было немагчыма. Увесь працэс нагадваў нейкі пэўны здзек з пакутлівай дзіцячай душачкі.

— ...я пытаюся, чаму тут стаіць двойка?!

— Ну, мама... — Кароткі ўсхліп.

— Што мама? Чаму тут двойка? — Тон вышэй і вышэй.

— Ну я памыліўся, два разы. — Два кароткія ўсхліпы.

— Не, адкажы мне яшчэ раз, чаму тут стаіць двойка?!

Усхліп пераўтвараецца ў плач.

— Ды кінь ты дурное, дачушка, па пяць разоў адно і тое пытацца, муштраваць дзіця, — умешвалася бабуля. — Ты ж учора ўжо адчытвала малога за гэтую двойку ў сшытку, і заўчора, і ўвесь тыдзень, і болей нават. Пакуль сшытак не скончыцца, малое не спіша, будзеш таўчы-папікаць за гэтую двойку, што ў самым пачатку, плеш выясі дзіцёнку.

— Каб помніў!

Бабка хітала галавой і адыходзіла. Бацька ж кімарыў у фатэлі. Яму было да лямпачкі.

Вячэрняя праверка школьных сшыткаў была экзекуцыяй. І пачыналася не з хатняга задання на заўтра, а з самага пачатку, з першай старонкі. І калі напачатку сшытка Іванку ў школе ставілі двойку, ён «адказваў» за яе ўвесь час, пакуль сшытак не заканчваўся і не распачынаўся новы. Часам сшытак драўся дбайнай матуляй на шматкі, і Іванка садзіўся ўсё перапісваць з самага пачатку, слова ў слова, літара ў літару. Нават калі праверка хатніх заданняў зацягвалася і гадзіннік паказваў за апоўнач. І крый Божа зрабіць апіску ды ўнесці выпраўленне.

Іванка быў трошкі кволым хлопчыкам. Калі хварэў, мусіў перапісваць падручнікі па беларускай і рускай мове, пасля рашаць усе задачы па матэматыцы. Гэта ў школе настаўніца задавала адно-два-тры практыкаванні ды пару задачак. А калі хварэў і школу не наведваў, дома муштром прымушалі рабіць усе запар практыкаванні і рашаць усе задачы, адно за другім. Іванка перапісваў падручнікі, не раўнуючы, як манах-скрыптор святое Пісанне.

А калі задавалі на дом напісаць сачыненне, надараўся асабісты судны дзень. Дзень гневу і роспачы. Сачыненне перадусім павінна было спадабацца любай матулі. Лягчэй вярблюду прапаўзці ў ігольнае вушка... Ірваліся сшыткі, круціліся вушы, трашчаў чуб, гарэла адлупцаваная задніца. Ці варта казаць, што Іванка ненавідзеў школу, ненавідзеў пісаць сачыненні і марыў хутчэй вырасці? Іванка марыў, каб агні спалілі і школу, і яго самога, і ўвесь іх выкляты горад, які заадно з навукай падпадаў пад дзіцячы праклён.

Вырас Іванка, сам стаў бацькам. І ведаеце што? Іванка зрабіўся пісьменнікам...

# Памяці выдатнага вучонага:
## пісьмовае прафесійнае маўленне ў працах І. В. Жука



Людміла СІНЬКОВА

**Ігар Васільевіч Жук (1957–2017) — вядомы беларускі вучоны, доктар філалагічных навук, прафесар, аўтар выбітных літаратуразнаўчых прац як культурна-гістарычнага, так і семіятычнага характару. З дапамогай вылічальнай тэхнікі ён правёў сістэмны аналіз вялікага корпусу тэкстаў беларускай класічнай прозы і вызначыў мадэлі яе рытмавай арганізацыі, абараніў доктарскую дысертацыю.**

Нягледзячы на тэарэтычную заглыбленасць сваіх навуковых прац, даследчык імкнуўся публікаваць іх вынікі ў максімальна дэмакратычнай форме.

Найперш прафесар Ігар Жук меў на мэце пазбегнуць банальнага. У навуковым дыскурсе, як вядома, немагчыма абысціся без канстатацыі вядомага, пераказу нейкіх зыходных пазіцый, ад якіх адштурхоўваецца новая думка. У такіх выпадках Ігар Жук усё роўна не проста паўтараў вядомае — ён яго метафарызаваў. Метафара скарачае «пераказ», і вядомае выводзіцца з аўтаматызму ўспрыняцця. Напрыклад — метафарычнае акрэсленне Ігарам Жуком грамадска-палітычнай сітуацыі для Беларусі ў 1917 годзе: «З прычыны поўнай няяснасці, ува што, у які вітраж нацыянальнага ўпарадкавання складзецца скалыхнутая кастрычніцкім пераваротам Расійская імперыя, заставацца безыменным абломкам былога цэльнага дзяржаўнага карабля было неспадручна і ў вачах міжнароднай супольнасці» [4, с. 67]. Або — новае, вобразнае выкарыстанне метафары традыцыйных музычных інструментаў (па назвах зборнікаў паэзіі Ф. Багушэвіча і Цёткі): «Да моманту ўваходжання Купалы ў літаратуру нацыятворная ідэя не мыслілася рэальна; яна праступала фактам непрамога, апасродкаванага мастацкага абазначэння — нацыянальным «голасам», «гукам» супольнага народнага аркестра: дудка беларуская, скрыпка беларуская, смык беларускі» [3, с. 22]. Тут метафара ператварылася ў метаметафару.

У тэкстах Ігара Жука заўсёды ёсць наратар з пэўнай, пазнавальнай асабістай інтанацыяй. Дыстанцыя з чытачом тут мінімальная. Чытач — гэта суразмоўца, субяседнік. Аповед прафесара можа лёгка весціся не з трыбуны, а з бяседнай адлегласці: «Фрыдрых Шылер выказваўся прыкладна так: мы мыслім моваю, але і мова сама мысліць за нас. Гэтак жа і з матывікай. Як адмысловай моваю, літаратура «мысліць матывамі». Аднак жа і матывы як вялікі і невычарпальны эстэтычны сусветны вопыт таксама «мысляць» у літаратуры» [7, с. 3].

Ідучы насустрач чытачу, Ігар Жук імкнуўся мінімалізаваць ужыванне тэрміналогіі. Напрыклад, гаворачы пра ролевую функцыю персанажа ў Купалавым вершы «Падарожны» (і праз гэта па-новаму перачытваючы Купалу), Ігар Жук увогуле абышоўся без згадкі гэтай функцыі, г.зн. без спецыяльных тэрмінаў: «Па сутнасці, верш «Падарожны» — гэта мастацкая геаграфія выключна прасталюдзіннага бачання беларускага наваколля, прадпрынятая, здаецца, знарок, нават з некаторай усвядомленай правакацыйнай спрошчанасцю». Прадпрынятая дзеля таго, каб шарагова беларус хоць ва ўяўленні зварухнуўся, пападарожнічаў па сваім краі [3, с. 25 — 26].

Разважаючы пра складанае, Ігар Жук імкнуўся да «лёгкага маўлення» — імкнуўся ўвайсці ў кругагляд чытача. У навуковых працах Ігара Васільевіча чытаем: «...герой... папросту нават не ведае, куды ён ідзе [3, с. 23]; ... Да славутых «Паязджанаў» яшчэ цэлых 12 гадоў... [3, с. 21]; Адна дапытлівая душа з ліку маіх студэнтаў змагла выявіць... [3, с. 137]; ...Іншай паэтычнай інтанацыі...., відаць, нельга было і чакаць. І не толькі ад Купалы» [3, с. 21]... У апошнім прыкладзе красамоўнае не толькі ўводнае слова, але і эмацыйна афарбаваная парцэляцыя. Падобная паслядоўна вытрыманая інтанацыя развагі запавольвае хуткачытанне, змушае да ўважлівасці, да паглыблення ў прадмет гаворкі.

Ігар Жук няспешна, але дакладна, без лішняга слова, карыстаўся асацыятыўнай вобразнасцю (пра яе метадалагічную ролю пісалі класікі [1, с. 361 — 373, 409 — 412]). На першы погляд, чытач аддаляецца ад аб'екта апісання, а насамрэч набліжаецца да яго. Працытуем адну такую метафару-аналогію на два тэкставыя абзацы: «Сцвярджаюць, што наймагутнейшы тэлескоп на нашай планеце, які здольны выхапіць з глыбіняў космасу самыя слабыя шумы (такія, як, напрыклад, гіпатэтычны званок мабільнага тэлефона на Марсе), зафіксаваў сігнал, пушчаны з-за межаў Сусвету прыкладна сто тысяч гадоў таму назад. Нядаўна яны і сустрэліся: панадвечны сігнал Космасу і зямное чалавецтва, якое, эвалюцыянуючы ўсе гэтыя сто тысяч год, падрыхтавала ў сабе здольнасць да сустрэчы з незямной інфармацыяй і да першапачатковага яе ўспрыняцця.

Твор, або, як яго кваліфікаваў польскі даследчык Раман Інгардэн, «адзіны ідэальны эстэтычны прадмет» [5, с. 72 –91], — таксама сігнал з «космасу». Чалавечы інтэлект — тэлескоп, адладжаны па шкале ўласнай духоўнай гатоўнасці або нyздатнасці да счытвання нязнанай дасюль інфармацыі.



**Ігар Жук.** Фота Радыё Свабода

З «Сымонам-музыкам» яно так і ёсць: гэта сігнал, да якога мы пракладваем шлях праз наслаенні часу, культурных эпох і традыцый, літаратурных і агульнаэстэтычных установак» [3, с. 182 — 183]. Такое ўступнае слова прафесара, лектара падвядзе нават нігіліста да паважлівага разумення класічнай літаратурнай спадчыны.

Тым не менш, на першым месцы ў Ігара Жука ўвесь час заставалася не папулярызацыя, а навука. З гэтай прычыны эўрыстычны, вобразна-эмацыянальны ход думкі спалучаўся з акадэмічным, абслугоўваў яго. Вось прыклад такой кантамінацыі на ўзроўні фразы, якая пачынаецца эўрыстычна, а заканчваецца акадэмічна, спецыяльнай навуковай тэрміналогіяй: «Калі я гавару, што твор выходзіць з цела слова і становіцца realiora мастацкага духу, я ніяк не адмаўляю значэння той ролі і той сілы, якія належаць структураваным моўным вобразам свету» [3, с. 135]. Паўторымся: першая частка працытаванага сказа — вобраз, а апошняя — тэрмін з кагнітыўнай лінгвістыкі або лінгвакультуралогіі.

Можна меркаваць, што Ігар Жук свядома практыкаваў літаратуразнаўства не толькі як прафесійны, але і — па інтэнцыях — як прывабны тэкст. Навуку з мастацкім модусам у нас стваралі найперш пісьменнікі — Іван Навуменка, Алесь Адамовіч, Міхась Стральцоў... Варта згадаць тут яшчэ і займальнае літаратуразнаўства, пра неабходнасць якога пісаў Алег Лойка [6]. У кнігах Ігара Жука заўважнае і любаванне тэкстам, і законнае красаванне сваім даследчыцкім гартам [3, с. 40–41] — той эрас тэксту, пра які шмат гавораць пасля Р. Барта.

Чытач прац Ігара Жука не можа не заўважыць яскравай аўтарскай мадальнасці ў падачы думкі, інтэнсіўнасці эмацыйных афарбовак: «невераемным здаецца..., акурат, відаць, праўдападобна, што і ёсць важным, папросту, нам яшчэ спатрэбіцца... хаця, вядома... бо несумненна... гэта значыць...; калі я кажу..., то тым самым хачу падкрэсліць...; так яно бачыцца... праілюструю тое на канкрэтным прыкладзе... праўда, дзеля справядлівасці варта падкрэсліць... Дыярыюшам карціць назваць у Купалавай творчасці «Шляхам жыцця» — паэтычны зборнік, самы, можа быць, «інтымны» ў нашаніўскай спадчыне паэта» [3, с. 33]. Ну і канешне, выклічнікі, клічнікі: «О, як кантрастуе выгляд «зямлі пустыні»... з той «роднаю зямлёй»... [3, с. 204]; Божа, якое магутнае — двайной метафарычнай перакадзіроўкі — мастацкае параўнанне! [3, с. 31]; І тым не менш, проста ўражвае — не можа не ўразіць! — з якой няўмольнай пастаяннасцю, як наканавана, метафарычная нябачная стрэлка аднаго верша намацвае контр-вектар другога» [3, с. 47].

**У тэкстах Ігара Жука заўсёды ёсць наратар з пэўнай, пазнавальнай асабістай інтанацыяй. Дыстанцыя з чытачом тут мінімальная. Чытач — гэта суразмоўца, субяседнік. Аповед прафесара можа лёгка весціся не з трыбуны, а з бяседнай адлегласці**

Пры гэтым перад намі не эсэ, як можа падацца. Таму што, у адрозненне ад пазіцыі эсэіста, у Ігара Жука спрэс дамінуе суб'ектнасць, акадэмічная, прафесарская ацэначнасць, гіпотэза і яе абавязковая верыфікацыя, доказ. Найвыразная пазіцыя наратара, яго манапольны пункт гледжання на прадмет развагі (у адрозненне ад аўтара эсэ, ніколі не абмежаванага ні абавязкам акадэмічнай дакладнасці, ні логікай, якую замяняе асацыяцыя, і г. д.). У працах Ігара Жука знаходзім масу дакладных тэкставых цытат, ніводнай непацверджанай, не пракаментаванай думкі. У наяўнасці — метафарызацыя, шчыльная метафарызацыя, але і найстрогая дысцыпліна навуковага дыскурсу. Кожная гіпотэза, меркаванне абстаўлены засцярогай — у агаворках. Бо ўсё абдумана. Усе магчымыя контраргументы мяркуемага субяседніка ўжо ўлічаны і папярэджаны ў маўленні даследчыка.

Свабода наратара тут — вонкавая. Насамрэч расслабіцца яму, як і ягонаму чытачу, немагчыма, бо ўпусціш, перарвеш нітку развагі, камунікацыю. Вядзецца ж пра вельмі тонкія рэчы (напрыклад, пра Купалавы вобразна асацыятыўныя пераклічкі [3, с. 39]); супастаўляюцца цэлыя тэкставыя масівы ў перазовах. Ігар Жук паўсюль заўважаў рытмавыя ваганні, прыцягненні-адштурхоўванні, з якіх вынікаў сэнс, і ён фіксаваўся даследчыкам. Рытм у прозе Ігар Жук, як вядома, фіксаваў з дапамогай коланаў [2]. Для вывучэння рытму ў паэзіі ён выкарыстаў тэрміналагічныя паняцці структурныя адзінства паўтору [3, с. 64], рух семантыкі ў вершаванай прасторы [3, с. 66].

І яшчэ два вызначэнні, якімі карыстаўся Ігар Жук, прыцягваюць увагу: анталагічная неабходнасць сутворчасці, неспатольная прага сутворчасці [3, с. 134]. У іх замацавана высокая матывацыя да літаратуразнаўчай працы.

Такім чынам, навуковы дыскурс прафесара Ігара Васільевіча Жука пацвярджае, што мова філалагічных даследаванняў (не толькі культурна-гістарычных, але і семіятычных) дастаткова свабодна карэлюе з кананічнымі жанравымі патрабаваннямі навуковага стылю.

### Спіс літаратуры:

1. Бахтин, М. М. К методологии гуманитарных наук // Бахтин, М. М. Эстетика словесного творчества / Сост. С. Г. Бочаров, примеч С. С. Аверинцев и С. Г. Бочаров. — М.: Искусство, 1979. — 423 с.
2. Жук, І. Празаічны тэкст: дынаміка рытмавага існавання / І. Жук. — Гродна, Міністэрства адукацыі Беларусі, Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы, 2003. — 112 с.
3. Жук, І. Прыхінуцца да крыніцы / Ігар Жук. — Гродна: ГрДУ, 2017. — 235 с.
4. Жук, І. В. Сустрэчны рух: літаратуразнаўчыя эцюды / І. В. Жук. — Гродна: Гродзенскае абласное аддзяленне Беларускага фонду культуры, 1998. 112 с.
5. Ингарден, Р. Исследования по эстетике / Р. Ингарден. — М.: Изд-во иностр. лит., 1962. — 572 с.
6. Лойка, А. А. Займальная літаратура: эсэ / А. А. Лойка. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2009. — 176 с.
7. Матыўная прастора беларускай літаратуры пачатку XX ст.: манагр. / І. В. Жук [і інш.] ; пад агул. рэд. І. В. Жука. — Гродна: ГрДУ, 2009. 255 с.

# Калі любім узаемна,

## альбо Колькі хваляў пра Алега Аблажэя

Аксана СПРЫНЧАН

### Рыцар мары

Ніколі не думала, што буду везці праз мяжу з Вільні кнігі сына ўдзельніка паўстання Каліноўскага.

Вязу. Першы, трэці, чацверты і пяты тамы Збора твораў Аляксандра Грына (Грынявіцкага) у шасці тамах.

Памежнікі правяраюць рэчы. «Гэта ўсё?!» — «Усё». Яны гартаюць кнігі. Нічога няма. Ды і што можа быць у кнігах, выдадзеных яшчэ да майго нараджэння выдавецтвам «Правда». І раптам я гляджу на вокладку, на якой толькі прозвішча і тры лёгкія лініі хваляў, а хвалі — бел-чырвона-белыя...

Памежнікі сыходзяць, а я пачынаю таксама нешта шукаць у гэтых кнігах, ніякіх запісаў і падкрэсліванняў няма. Прадмова мае назву «Рыцар мары», і гэтак можна казаць таксама і пра Алега Аблажэя, які вельмі любіў Грына — і, набыўшы новы Збор твораў, стары падараваў мне. Бо ведаў, што я Грына таксама люблю і нарадзілася з ім у адзін жнівеньскі дзень.

### Бясспрэчна

Кажуць, што хто б пра каго ні пісаў, ён піша пра сябе. І тут не паспрачаешся, я таксама пішу пра Алега Аблажэя, але пішу пра сябе, бо мяне ўжо без яго і няма. Бо я яго ведала гэтак мала, але моцна люблю.

### Выстава ў садзе

Я на выставе Алегавых карцін, на выставе ў ягоным садзе, на выставе для мяне і маёй сям'і. І мы ходзім паміж карцін, шчаслівыя, як і мастак. А каля нас ходзяць куркі, чорныя і белыя, як і жыццё. І трусік скача, таксама чорна-белы. І свет сонечны.

### Чапляннe за даты

Калі напісаць праўду, колькі мы былі знаёмыя, праўды не будзе. Але людзі чапляюцца за даты, і я чапляюся: 7 сакавіка 2011–18 траўня 2016.

### «Сонца ў ваконца!»

За тое, што мы з Алегам Аблажэем знайшліся, апрача Бога я ўдзячная Зміцеру Сідаровічу, які, даведаўшыся, што я ўкладаю зборнік казак, даў маю адрасу Алегу.

Прыканцы першага ліста было зычэнне «Цяпла і радасці». Потым былі зычэнні: «Сонца і радасці», «Цяпла і ціхіх радасцяў», «Усіх зямных радасцяў», «Вялікіх і маленькіх радасцяў!», «Сонца і чыстага ваконца», «Цёплага і сонечнага бабінага лета!», «Сонца ў ваконца!», «Мяккага цяпла і ласкавага сонейка!», «Сонечных зайчыкаў!»...

Я пісала Алегу напачатку і прыканцы «Натхнення!», тады «Святла!», і неўзабаве спынілася на «натхнення і святла!». Тыя, хто атрымлівае ад мяне лісты, ужо, відаць, прызвычаіліся да «натхнення і святла», на якія мяне светла натхніў Алег Аблажэй.

### Чырвоныя і залатыя грушкі

Мы ліставаліся, Алег запрашаў «на гарбатку пад грушкай» «у месце Гедымінавым», я пад грушку на Лысай Гары. І аднойчы мы сям'ёю сабраліся ехаць на госці. Здзіўляліся не толькі сябры-знаёмыя, але і муж. Мы і дагэтуль здзіўляемся...

На жаль, здароўе не дазволіла Алегу выбрацца да нас. Але я ўзяла зямлі з-пад ягонай грушкі, і цяпер памяць ейнага карэння жывіць маё дрэва з чырвонымі грушамі.

«Дзічка з чырвонымі пладамі? — здзіўляўся Алег. — Цікава, ніколі не бачыў... У часы майго маленства за хлявом расла вялізная, як баабаб, дзічка. Штогод на ёй было безліч маленькіх залатых грушак — яны высцілалі траву суцэльным дываном, іхны смак я запомніў на ўсё жыццё. Іх елі так, сушылі на кампот, раздавалі сваякам і суседзям шмат гадоў. А потым яна памерла, высахла за адну зіму. І цяпер я бачу яе толькі ў снах. Доўга шукаю нешта падобнае, каб пасадзіць цяпер каля свайго дома, але марна».

### Рэальнае і нерэальнае

Алега ўражвала, што многія казкі перанасычаныя побытам і дыдактыкай, «чаго я стараюся ўнікаць, як агню». А мяне ўражвала, як у яго тое атрымлівалася ў такіх няпростых побытавых варунках.

### Стымул

Да казкі «Танец кветак», якая выйшла ў аднайменным зборніку з серыі «Беларуская аўтарская казка», Алег даслаў сваю ілюстрацыю. Яна надзвычай вытанчаная і глыбокая, але мастак быў незадаволены сваёй працай. Я напісала, што люблюся ёю, а ў адказ: «Вы бачыце толькі тое, што намалявана, а я параўноўваю з тым вобразам, які існуе ў маёй свядомасці. І яны не супадаюць. Як, зрэшты, амаль заўсёды. Але гэта стымул для змагання і росту».

Карціну Алег пасля падараваў мне, і цяпер я гляджу на гэтае «несупадзенне» і супадаю.

### Калі сябра абдымаецца з іншым мастаком

У Алега Аблажэя быў дасціпны гумар і шчырае захапленне натхнёнымі сябрамі, бо і сам быў гэткі: «Міхась Казлоўскі так шчыльна абняўся цяпер з Драздовічам, што забыўся пра ўсё на свеце — Вільню, сяброў, сваю Тамару, улюбёнага ката... і я баюся яго чапаць».

### Зорнае

Той, хто хоць раз глядзеў у вочы Алегу, будзе бачыць ягонае святло, няхай творцы і няма, але ж святло ад зорак можа ісці тысячы светлавых гадоў.

### Шчаслівае пакаленне

«Ён належыць да таго шчаслівага пакалення, якое яшчэ чула жывую народную беларускую мову». Гэтак пра Алега Аблажэя напісаў сам Алег Аблажэй, калі пісаў анатацыю да казкі «Красамоўнае сэрца». У анатацыю гэты сказ не ўвайшоў, але дадаў адчування шчасця рэдактару.

### Яшчэ крыху датаў

Першы раз я была ў Вільні ў траўні 1986-га, адзін дзень. Другі раз я прыехала ў Вільню ў 2015-м. Вільня сталася для мяне не проста Вільняй, а Вільняй Алега Аблажэя. Мы хадзілі і хадзілі па віленскіх бажніцах, я запаміднала і запаміднала назвы, і ўрэшце перад сном у мяне стаялі ў вачах не грыбы (як гэта бывае пасля грыбнога палявання), а прапłывалі бажніцы Вільні, і нават заснуўшы, я не магла супакоіцца, баючыся пераблытаць іх назвы.

Калі Алег даведаўся пра мае страхі, дык апавёў, што з назвамі віленскіх касцёлаў у яго быў горшы выпадак: ён іх пераблытаў, паказваючы дарогу замежнаму турысту! І зразумеў гэта запозна... Так вось нараджаюцца байкі, што «літоўцы заўсёды паказваюць дарогу ў адваротным кірунку»!

### Не толькі Грын

«Книга веселої мудрості» — наша настольная кніга... Я ж казаў — мы адной групы крыві! Няма нічога выпадковага на свеце...» — пісаў Алег, як даведаўся, што з маленства са мною кніга, якую чытала мая прабабуля Любоў.

І, вядома ж, свае: «Пакуль што прагна чытаю кніжкі, пазычаныя ў Вас. Закрануў Шніп — усё гэта мне так блізка і зразумела: і страта бацькоў, і апусцелая хата... Толькі ў мяне яшчэ горш — нашу хату разрабавалі дашчэнту, нават падлогу здзерлі... Парадаваў Пятровіч — у параўнанні з раннімі апавяданнямі ён вырас на цэлую галаву! (Толькі нельга гэтага яму перадаваць — бо я толькі што выслаў апавяданне ў «Дзеяслоў», і будзе выглядаць, як падхалімаж...) Бяруся за Рублёўскую. Дарэчы, даўным-даўно я аздабляў ейную кніжку «Замак месячнага сяйва»...

### Віншавальнае

Тэлефануе Міхась Казлоўскі, акрылены ідэяй выдаць паштоўку з Алегавым малюнкам, абвяшчае конкурс на верш. На светлым казачным малюнку (іншых у Алега няма) — вожык. Вожыкаў любяць усе, бо, як той казаў, чалавеку няма чаго дзяліць з гэтым калючым клубочкам, яны адно аднаму не перашкаджаюць. Некалі я навучылася чытаць па кнізе, на вокладцы якой быў намаляваны вожык. Аўтара не памятаю, а вожык гэты заўжды са мною. Аднойчы ўзяла на Лысай Гары вожыка ў рукі, а ён паказаў мне язык, шчасця было не меней, чым ад чытання. Вось у Алега, на мае адчуванні, вожык такі, нібыта ён навучыў мастака чытаць і аднячасна паказаў яму язык, вожык-сябра, вожык у прадчуванні калядняга цуду:

*Вожык ідзе па калядных сцяжынках.*
*Сцюдзёна маломy, ды светла ў душы.*
*На кожнае голцы — шчасця сняжынка.*
*Вазьмі — і «З Калядамі!» сябру скажы.*

### Хлеб і кнігі

«Адзін з найгоршых мінусаў эміграцыі — самота», — прызнаваўся Алег. І прасіў прывезці беларускага хлеба і беларускіх кніг.

Да хлеба і кніг мы прывозілі беларускую гарэлку і ўздымалі чаркі за беларускі хлеб і беларускія кнігі.

### Цуд і тост ад Алега

«У нас на дзялцы адбыўся батанічны цуд — была прыгожая ружа, якая штозімы, на жаль, вымярзала. Праўда, улетку адрастала, але не нагэтулькі, каб квітнець. Адрасла і гэтым летам, але — як звыклая шыпшына. І так сягнула ў рост — красуе, што праўда, сціпла, затое маем плады на вітамінную гарбату... То і я вам зычу, каб усялякія перамены прыносілі прынамсі вітаміны!»

### Нялішняе

«Зусім нялішне спытаць самога сябе, скончыўшы твор: чаго ў свеце стала болей — святла ці цемры?..» — пісаў у сваіх «Броўнаўскіх думках» Алег Аблажэй. А мне ў сваіх карціць адзначыць, што адно светлыя і запытваюцца ў саміх сябе...

### Замест

«Цяпер восень — то замест кветак пару вершыкаў...

* * *

*А я прачнуўся раніцой і зразумеў,*
*Што я ніколі не памру, ніколі,*
*Бо ноччу цёплы дожджык*
*прашумеў,*
*Бы Моцарт, над зялёным полем.*

*І я пачуў — шапталі ціха рэчы:*
*З табою застанёмся мы, з табою!*
*Такім далёкім мне здаваўся вечар,*
*І сонца ўставала над вадою.*

*І адбылася першая сустрэча –*
*Мая рука спаткалася з тваёю.*
*І мы ў сваіх руках трымалі*
*Вечнасць,*
*Як зайчанятка цёплае, жывое».*

### Сястра таленту

Алег Аблажэй — светлы, як беларуская Вільня.

### Ёсць

«Вітанні з места Гедымінава! Віншую з усімі магчымымі святамі і з Вясной! У нас сёння вялікая імпрэза, прысвечаная Дню Волі — запрошаны розныя дзеячы з Беларусі, але не ўсе прыедуць, бо супадае з Вялікаднем. Але рыхтаваліся сур'ёзна тыдні са два. Я намаляваў вялікі плакат з неіснуючай у прыродзе бел-чырвона-белай птушкай. Урэшце пацяплела і выглянула сонейка. І адчуваеш, што жыць на гэтым свеце — добра! Жывём мы — жыве Беларусь!»

І ўсё ж бел-чырвона-белая птушка ёсць. Яна ляціць над бел-чырвона-белымі хвалямі радкоў і палотнаў, якія стварыў Майстра. Каб жыць, ёй патрэбныя мы, калі любім узаемна.



Алег Аблажэй з жонкай і сваёй карцінай. Вільня




# Галоўны дзіцячы кніжны кірмаш

**У італьянскай Балонні стартаваў галоўны дзіцячы кніжны кірмаш, які ладзіцца з 1964 года.**

На ім па традыцыі сустракаюцца выдаўцы і аўтары, перакладчыкі ды ілюстратары, літаратурныя агенты і дыстрыб'ютары, прадаўцы і бібліятэкары. У гэтым годзе вядучая міжнародная выстава для прафесіяналаў у галіне дзіцячага кнігавыдавецтва – Bologna children's book fair 2019 – працавала некалькі дзён.

На Балонскім кніжным кірмашы адбылося звыш 250 канферэнцый і семінараў, ключавымі тэмамі якіх сталі «словы і колеры» афраамерыканскай культуры, аўдыёкніжкі, лічбавыя тэхналогіі, незалежныя кнігарні, Кітай і «вялікія жанчыны» ў дзіцячых кнігах. Адбылося і ўручэнне прыза за выдатную італьянскую дысертацыю па дзіцячай літаратуры.

У апошнія гады на кірмашы ў Балонні значную ўвагу надаюць лічбавым тэхналогіям, якія спрыяюць развіццю і адукацыі моладзі. Стала традыцыяй штогод прысуджэнне на кірмашы прэміі Bologna Ragazzi Digital Award, якая ўручаецца за новыя і перспектыўныя інтэрактыўныя гульнявыя праграмы, прылады і стартапы, якія даюць дзецям новыя магчымасці і формы вывучэння гісторыі.

У цэнтральнай частцы кірмашу экспанавалася выстава кніжных ілюстрацый з розных краін свету.

# Літаратура ў гандлёвых аўтаматах

**Гандлёвыя аўтаматы, якія мы прывыклі бачыць у залах чакання вакзалаў, шпіталях, на чыгуначных платформах і станцыях метро, у Англіі пачалі прадаваць... і літаратурныя творы, упрыгожваючы вольны час чытачоў.**

У Лондане на станцыі падземкі Canary Wharf на пачатку красавіка былі ўсталяваныя першыя ў Вялікабрытаніі так званыя вендзінгавыя аўтаматы, якія прадаюць кароткія – на адну паездку – апавяданні, якія ахопліваюць жанры ад навуковай фантастыкі да рамантыкі і дзіцячай мастацкай літаратуры. У ліку аўтараў – такія вядомыя пісьменнікі, як Вірджынія Вульф, Люіс Кэрал, Чарльз Дыкенс. Ініцыятыва пачалася са спецыяльна замоўленай аднахвілiннай гісторыі аўтару бэстсэлераў раманісту Энтані Гаравіцу (які пазней прызнаўся, што было даволі складана сціснуць тэкст гісторыі ў такую кароткую форму).

Гандлёвыя аўтаматы, выбраленыя французскай кампаніяй «Short Édition», якая адрадзіла і раскруціла ідэю, выдаюць адна-, трох- і пяціхвілінныя гісторыі мінакам пасля аднаго націску кнопкі. Яны ўжо ўсталяваныя ў розных частках Францыі, у Ганконгу, а таксама ў ЗША, дзе славуты рэжысёр «Хроснага бацькі» Фрэнсіс Форд Копала стаў такім іх фанатам, што не толькі ўклаў грошы ў кампанію, але і ўсталяваў кніжны аўтамат у сваім «Cafe Zoetrope» у Сан-Францыска.

Першыя «аўтаматы з кнігамі» з'явіліся яшчэ ў 1937 годзе, калі заснавальнік выдавецтва «Penguin» Ален Лейн усталяваў «Penguincubator» са сваімі кнігамі на Charing Cross Road, «шакаваўшы сваіх кансерватыўных калег».

«Canary Wharf Group» заявіла, што ёй прапанавалі ўсталяваць аўтаматы пасля таго, як праведзенае даследаванне паказала, што ў лонданцаў не хапае часу, каб дачытаць кнігі. У часе апытання 2 тысяч дарослых брытанцаў высветлілася, што 36% з іх праз недахоп часу не скончылі хаця б адну кнігу ў мінулым годзе, а 30% не змаглі дачытаць кнігу больш чым за паўгода...

Кіраўнік аддзела мастацтваў і падзей мэрыі Люсі Мур адзначыла: «Мы ўсе вінаватыя ў тым, што занадта занятыя, але наша даследаванне паказала, што ашаламляльныя 70% з нас аддалі перавагу б згубіцца ў добрай кнізе, чым згубіцца ў трусінай нары сацыяльных медыя. Нашы кароткія апавяданні забяспечваюць ідэальную лічбавую супрацьтруту...».

# Цэнтр захавання спадчыны Хэмінгуэя

**Нацыянальная рада па культурнай спадчыне Рэспублікі Куба і амерыканскі фонд «Finca Vigia» адкрылі ў Гаване Цэнтр рэстаўрацыі і захоўвання прац і дакументаў, якія пакінуў пасля сябе на востраве вядомы амерыканскі пісьменнік Эрнэст Хэмінгуэй.**

Майстэрня па аднаўленні дакументаў размясцілася паблізу ад дома-музея нобелеўскага лаўрэата, у яе ўваходзяць некалькі лабараторый і сховішчаў з розным узроўнем вільготнасці і сістэмамі падтрымання асаблівага тэмпературнага рэжыму.

Урачыстая цырымонія адкрыцця Цэнтра прайшла пры ўдзеле амерыканскага кангрэсмэна Джэймса Макговэрна. Словы прадстаўніка Злучаных Штатаў Амерыкі працытавала ТАСС: «Постаць Хэмінгуэя ўвасабляе сабой пазітыўную гісторыю ў адносінах Кубы і ЗША – нягледзячы на палітычныя рознагалоссі. Калі мы збіраемся разам, калі мы працуем разам, мы можам увасобіць у жыццё пазітыўныя і незвычайныя рэчы. Рэалізацыя праекта была б нашмат лягчэйшай, калі б не гандлёвае эмбарга супраць Кубы».

Вярнуўшыся з чарговага афрыканскага сафары ў 1934 годзе, Эрнэст Хэмінгуэй на суднаверфі Уілерам у Брукліне набыў яхту і даў ёй імя «Пілар». Пазней ён «пераганаў» судна на Кубу і часта рыбачыў у моры, там жа пісаў раман «Па кім звоніць звон», які стаў бэстсэлерам. У 1940 годзе ў прыгарадзе Гаваны ён купіў дом у маёнтку «Фінка Віхія» (Finca Vigía), дзе пражыў больш за 20 гадоў.

Пасля заканчэння вайны, у 1949 годзе, пісьменнік канчаткова перабраўся на Кубу і аднавіў сваю літаратурную дзейнасць. У Finca Vigía ён таксама напісаў аповесць «Стары і мора» (1952), за якую ў 1953 годзе атрымаў Пулітцэраўскую прэмію. А ў наступным годзе ён быў уганараваны Нобелеўскай прэміяй па літаратуры. Там жа, на Кубе, ён пачаў працу над аўтабіяграфічнай кнігай пра Парыж 1920-х гадоў – «Свята, якое заўсёды з табой», выдадзеную толькі пасля смерці літаратара.

Пасля смерці пісьменніка ў 1961 годзе яго ўдава Мэры Уэлш перадала маёнтак і маёмасць кубінскім уладам, дзе быў адкрыты музей з амаль 22 тысячамі асабістых прадметаў і дакументаў, якія належалі Хэмінгуэю. У ліку іх кнігі, паляўнічыя трафеі, пласцінкі, зброя, канцтавары, фатаграфіі, пішучая машынка і яго вялікі маркі катэр «Пілар».


**Эрнэст Хемінгуэй каля свайго дома на Кубе, 1947 г.**
Фота brainsly.net.jpg

# Прабачэнні за спаленыя кнігі

**Паводле паведамлення «The Guardian», дырэктар фундацыі «SMS Z NIEBA» святар з паўночнай Польшчы Рафал Ярасевіч папрасіў прабачэння на старонцы ў Facebook за публічнае спальванне кніг і прадметаў, звязаных з магіяй ды іншымі рэлігіямі ці вучэннямі.**

Вялебны Рафал Ярасевіч назваў «няўдалым» спальванне кніг і прадметаў, якія, як палічылі, звязаныя з магіяй або акультызмам і якія іх уладальнікі назвалі злой сілай. «SMS Z NIEBA» выкарыстоўвае нетрадыцыйныя сродкі для правядзення рэлігійнай працы па ўсёй Польшчы.

Так, у апошнюю нядзелю сакавіка ў каталіцкай парафіі Царквы Божай Маці і Святой Кацярыны з Швецыі ў Гданьску на вогнішчы былі спалены папулярныя кнігі цыклу пра Гары Потэра ангельскай пісьменніцы Джоан Роўлінг, кнігі серыі «Змярканне» Стэфані Мэер і цыкла «Дом начы» Крысцін Каст, а таксама кнігі іншых аўтараў, вучэнні па будызму і неаіндуізму, кнігі індыйскага духоўнага лідэра Osho, велізарны фотаальбом «Таямніцы старадаўняй медыцыны і магіі», афрыканскія маскі, драўляныя і керамічныя фігуркі-выявы паганскіх бажкоў, сланоў, ныркатоў, соваў і шмат іншага.

Фотаздымкі рытуалу спальвання першапачаткова былі размешчаны на старонцы фундацыі ў Facebook і выклікалі шырокі рэзананс у сацсетках: карыстальнікі крытыкавалі «кніжнае» вогнішча ксяндзоў, параўноўваючы іх дзеянні з дзеяннямі нацыстаў. Праз гэтую рэакцыю грамадскасці Ярасевіч і апублікаваў прабачэнне, заявіўшы, што не меў намераў асуджаць канкрэтных аўтараў, рэлігіі або сацыяльныя групы.

Святар напісаў у Facebook: «Факт спалення кніг ды іншых прадметаў быў няўдалай ідэяй. Тым не менш, гэта не было непаважлівым дзеяннем для любой сацыяльнай групы або рэлігіі, і гэта не было нацэлена на кнігі як такія або культуру. Калі хтосьці ўспрыняў мае дзеянні такім чынам, я б хацеў папрасіць прабачэння». І дадаў, што ён выдаліў фатаграфіі публічнага спалення, «каб гэта не выклікала больш эмоцый. Мне вельмі шкада...».

Святар Ярасевіч быў аштрафаваны гарадскімі праваахоўнымі органамі. Група супраць смогу таксама звязалася з пракуратурай з нагоды незаконнага спальвання адходаў на адкрытым агні...

# Vox populi: украінцы тлумачаць свой выбар

Вікторыя ЛАЎНІКЕВІЧ

**У дзень галасавання карэспандэнт НЧ пабываў на трох выбарчых участках у Кіеве, у тым ліку ў Доме Афіцэраў Узброеных Сіл Украіны, дзе галасаваў дзеючы прэзідэнт Пётр Парашэнка.**

Па выніках апытанняў, праведзеных на двух выбарчых участках, безумоўнае лідарства сапраўды належала Зяленскаму. Прычым, што характэрна, ужо з раніцы выбаршчыкі не саромеліся гласна заяўляць пра свой выбар і яго каментаваць.

На выбарчым участку ў Цэнтральным Доме афіцэраў мы спыталі Пятра Парашэнку:

***— За што сёння, на вашу думку, павінен прагаласаваць украінскі народ: за пэўны курс развіцця альбо за пэўную асобу?***

— Народ можа галасаваць у адпаведнасці са сваімі ўяўленнямі: за курс або за чалавека. Але найлепшым варыянтам будзе той, калі выбаршчык сёння прагаласуе адразу за опцыю «два ў адным»: адначасова за курс і за чалавека.

А вось што адказалі шараговыя выбаршчыкі. **Яўген, 35 гадоў:**

— Я галасаваў за Зяленскага. Ён малады і энергічны, а старыя палітыкі павінны сысці на пенсію. Я так лічу. Мне 35 гадоў, а Зяленскі не нашмат старэйшы. Па сутнасці, я галасую за сваё пакаленне. Але яшчэ я галасую так, таму што рэформаў як такіх у краіне няма. Цяперашні прэзідэнт усё, што мог, ужо зрабіў. За што яму вялікі дзякуй. Павінна быць абавязкова змена ўлады.

**Юрый Уладзіміравіч, пенсіянер:**

— Я галасаваў за Зяленскага. Мне падабаецца ён, таму за яго і прагаласаваў. У яго добрыя памкненні. Ну, і задавальняе пакуль. Яму будуць рабіць перашкоды, імкнуцца дыскрэдытаваць, асабліва спачатку. Таму я яму не зайздрошчу. А вашага Лукашэнку я ведаю і паважаю. Ёсць надзея і на Зяленскага. Можа, ён навядзе парадак. Такі, як Лукашэнка ў Беларусі.

**Аляксандр, інжынер-электрык:**

— Хачу пераменаў. Толькі і ўсяго. Хачу, каб эканоміка развівалася больш дынамічна. Карупцыя з'ядае эканоміку. Я хацеў бы, каб у нас свабодна развівалася ўсё. Каб было свабоднае права прадпрымальніцтва, якое, на жаль, у нас вельмі моцна абмежаванае.

**Ігар, прыйшоў на ўчастак з жонкай і маленькім сынам:**

— Галасаваў за Пятра Парашэнку. Лічу яго больш надзейным кандыдатам. За пяць гадоў шмат усяго змянілася ў лепшы бок, ёсць пэўны вектар, у рамках якога хацелася б рухацца і далей. А што будзе, калі прыйдзе Зяленскі, пакуль складана сказаць.

**Наталля:**

— Зяленскі. Хочацца змяніць нешта да лепшага, адчуць нейкі новы подых. Мяне не радуюць камунальныя тарыфы, якія пастаянна растуць. Кошты ў крамах не радуюць. На тым тыдні заходзіш — адна цана, праз тыдзень — іншая. Уся палітыка, уключаючы прэзідэнта, павінна накіроўвацца на памяншэнне тарыфаў. Мы бярэм вельмі шмат міжнародных траншаў, з нагоды гэтага пастаянна павышаюцца цэны, у тым ліку на камунальныя паслугі.

**Сяргей, працуе ў сферы мабільнай сувязі:**

— За Зяленскага. Таму што я хачу зменаў у краіне. Я жыў у Еўропе, і я хачу, каб мая краіна жыла так, як у Еўропе. За пяць гадоў Саакашвілі зрабіў з самай крымінальнай Грузіі краіну, якая зараз квітнее. На жаль, у Пятра Аляксеевіча гэтае не атрымалася за пяць гадоў. Будзем спадзявацца, што ў Зяленскага атрымаецца. Хацелася б паспрабаваць.

**Алена Бажко, маладая мама:**

— Мы галасавалі за Парашэнку. Зяленскі мне менш сімпатычны, чым Парашэнка. Мне падабаецца курс, які праводзіць Парашэнка. Хоць мы з малым цяпер атрымалі від на жыхарства ў Аўстрыі, і нас у краіне ўжо не будзе. Але я хачу, каб ва Украіне ўсё нарэшце нармалізавалася. І я разумею, што Зяленскі — гэта нават не «кот у меху», гэта няправільны крок. Гэта будзе чарговы, напэўна, Майдан. Гэта будзе крок назад.









**Аліса Вінаградава, актывістка ўкраінскай арганізацыі «Femen»:**

— Сваім выглядам я хацела канстатаваць непазбежны канец Парашэнкі і наступ Зяленскага, эпоха якога няўхільна наступіць пасля гэтых выбараў.

А вось што казалі выбаршчыкі на ўчастку №800583 па вуліцы Ольгінскай 2/4 у Кіеве.

**Валянціна, педагог, зараз працуе рэпетытарам:**

— У цэлым, беларусы нашы сябры. Мы вас слухаем, перапісваемся. У Беларусі зусім іншыя агітацыйныя метады. Я падтрымала Парашэнку. Курс на адукацыю, Еўропу, здаецца мне годным вектарам развіцця. І сам цяперашні прэзідэнт мне здаецца годным чалавекам. І ўвогуле, на гэты вектар павінна арыентавацца моладзь.

**Мікалай Лебедзеў, пенсіянер:**

— Галасаваў я за Зяленскага. Прычына? Надакучыў зладзюкаваты прэзідэнт. Таму мне было ўсё роўна каго абіраць, абы не Парашэнка.

**Вольга, пенсіянерка. Прызналася, што сапсавала бюлетэнь:**

— Я не люблю, калі хлусяць. Хлусяць абодва. Нікому не веру.

# Эксперт: Курс Зяленскага не нашмат будзе адрозніваецца ад курса Парашэнкі

Вікторыя ЛАЎНІКЕВІЧ

**Галоўны рэдактар выдання «Дзелавая сталіца» Віталь Піровіч распавядае, якімі, на яго думку, мусяць быць першыя крокі Уладзіміра Зяленскага ў якасці прэзідэнта.**



— На сёння ёсць розныя палітычныя рухі кшталту за роспуск парламента ці за абмежаванні Зяленскага ў пэўных паўнамоцтвах. Ёсць планы Цімашэнка па стварэнні канцылярскай рэспублікі, дзе прэзідэнт адыгрывае менш значную ролю. Усё гэта палітычныя гульні і манеўры. Да жыцця ўкраінцаў, калі мы бярэм сацыяльна-эканамічны аспект, яны наўрад ці будуць мець дачыненне.

Мне падаецца, што курс Зяленскага не нашмат будзе адрозніваецца ад курса Парашэнкі, як бы Зяленскі не пазіцыянаваў сябе як «новага палітыка». На самай справе, усё будзе захоўвацца ў той жа канве. Я амаль упэўнены, што першы візіт новага прэзідэнта будзе ў зону АТА, другі візіт — у Брусель.

Далей будуць нейкія рытуальныя крокі ў дачыненні да царквы, але тут складаней. Хутчэй за ўсё, Зяленскі правядзе сустрэчу з Усеўкраінскім Саветам Цэркваў, каб паказаць, што ў нас роўныя канфесіі, а ўсё, што ў нас робіцца па законе, хай робіцца па законе. Яго не цікавяць стогны Маскоўскага патрыярхату, роўна як і жаданне пэўнай увагі з боку дзяржавы ў ПЦУ, у ГКЦ і гэтак далей. Ад яго проста патыхае секулярызмам, яму гэтыя пытанні не цікавыя. Таму правільным крокам была б сустрэча з Усеўкраінскім Саветам Цэркваў, каб прадэманстраваць добрую волю. Зяленскаму таксама патрэбныя нейкія першыя яркія прызначэнні. Або ў сваёй канцылярыі прызначыць нейкую ўмоўна чыстую фігуру ці назваць сакратара Савета нацыянальнай бяспекі і абароны Украіны.

Ну і пытанне мовы, якое многіх украінцаў турбуе. Тут яму таксама неабходна зрабіць нейкія сімвалічныя крокі, каб усіх супакоіць. Калі ўсе гэтыя крокі будуць пройдзеныя, мы зразумеем, што Зяленскі — прадаўжальнік палітыкі Пятра Парашэнкі.

***— Ці атрымаецца ў Зяленскага ўвосень стварыць кааліцыю ў парламенце?***

— Калі чалавек становіцца прэзідэнтам, — ва Украіне так павялося, — у яго ўжо ёсць да ста народных дэпутатаў, якія гатовыя перайсці на яго бок. Таму што прэзідэнт — гэта рэсурс. Ва ўсіх ёсць нейкія свае матывы. Многія разумеюць, што чарга будзе доўгай, і спяшаюцца апярэдзіць калегаў у парламенце, засведчыць сваё вернападданніцтва. Можна, у прынцыпе, дабрацца да большасці, працаваць з астатнімі. Кагосьці цікавяць нейкія матэрыяльныя рэчы, кагосьці — крымінальныя справы... То-бок, з гэтым можна працаваць.

Несумненна, што Зяленскі з першага дня прэзідэнцтва пачне працаваць з парламентам, каб стварыць нейкую большасць: хай сітуацыйную, але хаця б пад адстаўку цяперашняга ўрада. Звольніць урад можна, але свой урад атрымаць Зяленскаму будзе складаней: трэба стварыць кааліцыю. Менавіта тут пачынаецца гандаль з мноствам фракцый. І тут асабліва важным для Зяленскага выглядае план роспуску парламента ды наступных хуткіх выбараў, каб не згубіць свой рэйтынг да восені. Мы ўжо бачылі, як было з Пятром Парашэнкам: на прэзідэнцкіх выбарах за яго было больш за 50%, праз паўгода на парламенцкіх выбарах Блок Пятра Парашэнкі набраў значна менш.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УКРАІНА. Дзе будзе мясцовы Лас-Вегас?



Незвычайны ажыятаж сярод украінцаў выклікала ідэя Уладзіміра Зяленскага, якую ён абвясціў напярэдадні свайго абрання прэзідэнтам. Паводле Зяленскага, «ігральны бізнес ва Украіне можна легалізаваць па прыкладзе Лас-Вегаса». «Асобны горад, куды ігральны бізнес увесь перанесці… Падняць такі горад, у які ніхто не прыязджае», — сказаў шоўмен. Паміж жыхарамі розных гарадоў пачалася спрэчка за права стаць сталіцай азартных гульняў. Нагадаем, што казіно ва Украіне забароненыя з 2009 года, хаця існуе вялікі падпольны сегмент. Відавочна, што легальныя казіно здольныя эканамічна адрадзіць любы горад. Аднак ёсць праблема: Зяленскі мяркуе, што ў тым жа горадзе павінен быць раён «чырвоных ліхтароў» і легалізаваныя лёгкія наркотыкі. Цяжка ўявіць, які муніцыпалітэт пагодзіцца на такую прапанову. Між тым, як ні смешна, шмат украінцаў «на ўра» ўспрынялі ідэю новага прэзідэнта. Перспектыва таго, што ўсе наркаманы і асобы лёгкіх паводзінаў перадуць у нейкі рэгіён, вельмі спадабалася простым людзям, асабліва кабетам.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Культ Сталіна могуць імпартаваць

У Казахстане частка грамадства занепакоеная апошнімі трэндамі ў суседняй Расіі. Гаворка пра рэзанансныя вынікі даследавання «Лявада-цэнтра». У ім заяўлена, што сярод расіян рэйтынг ухвалення асобы Сталіна дасягнуў гістарычнага максімуму: 70 працэнтаў. З улікам таго, што Казахстан знаходзіцца пад вялікім уплывам расійскай інфармацыйнай прасторы, на думку часткі мясцовых экспертаў, ёсць падставы чакаць росту папулярнасці савецкага правадыра народаў таксама сярод казахаў. Тым больш, што інтарэс да Сталіна звязаны з палітыкай цяперашняга расійскага кіраўніцтва, якое робіць стаўку на так званы рэтраспектыўны патрыятызм — актыўную папулярызацыю савецкага мінулага. З улікам слабага казахскамоўнага інфармацыйнага поля, супрацьстаяць папулярызацыі Сталіна можа хіба натуральны дэмаграфічны трэнд, калі новым генерацыям Сталін будзе папросту абыякавы. Аднак у межах такога падыходу малады чалавек не будзе ведаць і пра злачынствы сталінізму, што дазволіць паступова ўспрымаць Сталіна як нейтральную фігуру. Таму пакуль адказу на пагрозу імпарту культу дыктатара ў казахаў няма.

**Паводле казахскай прэсы**

### ЕС. Прапануюць новы гімн

Газета «Financial Times» належыць да самых салідных і ўплывовых выданняў свету. Таму да публікацый, што з'яўляюцца на яе старонках, трэба ставіцца сур'ёзна, якімі б смешнымі яны ні падаваліся. Напрыклад, на мінулым тыдні там быў апублікаваны артыкул Джыфа Сіберта, прысвечаны гімну Еўрасаюза. На думку аўтара тэксту, адна з прычынаў крызісу еўраінтэграцыі — вельмі далёкі ад рэальнасці гімн ЕС. Нагадаем, што з 1972 года ў якасці афіцыйнай мелодыі аб'яднання выкарыстоўваецца «Ода да радасці» Фрыдрыха Шылера, напісаная на музыку фрагмента дзявятай сімфоніі Бетховена. Паколькі той тэкст Шылер напісаў у далёкім 1823 годзе, яго змест сапраўды слаба адпавядае сучаснай еўрапейскай спецыфіцы. Не кажучы пра тое, што мелодыя Бетховена таксама цяжка гучыць для вуха цяперашняга еўрапейца. Адсюль, маўляў, і абыякавасць еўрапейцаў да перспектываў ЕС. Аўтар лічыць, што змяніць новы трэнд дапаможа больш актуальны гімн. Напрыклад, славуты хіт групы ABBA «Money, money, money» («Грошы, грошы, грошы»). Як лічыць Сіберт, гэтая мелодыя дакладна зробіць ЕС імідж чагосьці заможнага і, як вынік, дадасць яму прывабнасці.

**Паводле брытанскай прэсы**

### КНР. Цэнзура не спіць

Не так даўно пачаўся апошні сезон славутага серыялу «Гульня тронаў». Чакалі гэтай падзеі і яго аматары ў Кітаі. Аднак дэманстрацыя першай серыі выклікала скандал. Аказалася, што кітайцам паказваюць абрэзаную версію серыялу. Калі ва ўсім свеце першая серыя ідзе 54 хвіліны, то ў КНР — толькі 48. Пры гэтым мясцовая кампанія «Tencent», якая мае правы на пракат «Гульні тронаў» у Кітаі, адмаўляецца каментаваць тое, што адбываецца. Хутчэй за ўсё, цэнзурай займаюцца ўрадавыя чыноўнікі. Яшчэ большая загадка — па якім прынцыпе цэнзары вызначалі крамольныя фрагменты серыялу, якія, па сутнасці, уяўляе сабой адну вялікую крамолу. Як вядома, «Гульня тронаў» — гэта ў тым ліку бясконцы каскад гвалтоўных сцэнаў. Таму ў сеціве дамінуе думка, што цэнзары парэзалі фільм абы-як, каб давесці кіраўніцтву, што цэнзурнае ведамства не спіць.

**Паводле брытанскай прэсы**

# Хто будзе расійскім Зяленскім?

*Алег НОВІКАЎ*

**У расійскай грамадскай дыскусіі набывае моду думка пра тое, што перамога акцёра Уладзіміра Зяленскага на прэзідэнцкіх выбарах ва Украіне можа сфармаваць запыт на аналагічную постаць у РФ.**



Фота www.ok.ru

Дарэчы, напрацоўкі ў гэтай галіне ў расіян ёсць. Дастаткова прыгадаць кар'еру Міхаіла Еўдакімава. Яго скетч пра паход у лазню не толькі прынёс яму каласальную вядомасць, але і даў пропуск у вялікую палітыку. У 2004 годзе Еўдакімаў не меў праблемаў на выбарах губернатара Алтайскага краю. Праўда, на гэтай пасадзе ён запомніўся выключна спрэчкамі з рэгіянальным парламентам. Але ў жніўні 2005-га трапіў у смяротную аварыю. Можна таксама ўзгадаць, як на новы 1991 год народы СССР, які сканаў тыднем раней, віншаваў сатырык Міхаіл Задорнаў. Некаторыя памылкова палічылі, што гэта старт яго выбарчай кампаніі ў прэзідэнты Расіі.

Дзякуючы Зяленскаму тэма прэзідэнта-артыста вярнулася ў расійскі палітычны дыскурс. І ў тым ліку таму, што сітуацыя ў чымсьці падобная да ўкраінскай. «Калі палітычная архітэктура ў Расіі і на Украіне мае шмат адрозненняў, то грамадскія працэсы вельмі падобныя. За фасадам стабільнасці, дзе ёсць прэзідэнт, урад і парламент з партыямі, можна разглядзець новых герояў сучаснасці. Тыя ж вядучыя блогаў на Youtube маюць сёння мільёны падпісчыкаў. Ролікі некаторых артыстаў штодня глядзіць аўдыторыя большая, чым у спікераў ад усіх парламенцкіх партый разам узятых», — піша палітолаг Валерый Скурлатаў.

І гэта яшчэ не ўсе перавагі артыстаў або блогераў перад прадстаўнікамі партыі ўлады. Па-першае (гэта давёў досвед Сабчак, якая балатавалася ў прэзідэнты ў мінулым годзе), артысты значна больш пазнавальныя за лідараў апазіцыйных сектаў. Па-другое, нягледзячы на адсутнасць вопыту працы ў адміністрацыі або ў вялікім бізнесе, яны больш прывабныя. Нарэшце, за кошт вялікай арміі аматараў свайго таленту ім будзе прасцей знайсці рэсурс для кампаніі.

Дарэчы, у расійскім афіцыёзе ўжо сапраўды запанікавалі наконт варыянту з артыстам. «Уявіць сабе папулярнага акцёра або нейкага іншага прадстаўніка нібыта антыэліты, контрэліты ў якасці паспяховага кандыдата ў прэзідэнты Расіі немагчыма. Уладзімір Пуцін — не слуга эліты ці нават наменклатуры, а яе біч — ён у самым галоўным сэнсе і ёсць «слуга народа». То-бок месца для з'яўлення сімулякра «народнага кандыдата» ў нас папросту няма», — намагаецца давесці праўладны публіцыст Петр Акопаў.

Як бачым, рэцэпт захопу Крамля не такі і складаны. Застаецца толькі знайсці адпаведную арт-асобу і пераканаць яе падацца ў палітыку. Тым больш, час спрыяе такой ідэі. Нядаўнія выбары паказалі, што грамадзяне гатовыя аддаць галасы спойлерам, хатнім гаспадыням, абы прадэманстраваць уладзе дулю. Акрамя таго, на носе транзіт улады. У 2024 годзе Пуцін павінен сысці з пасады прэзідэнта, і вертыкаль, унутры якой прагназуецца вайна за кандыдатуру пераемніка, страціць маналітнасць.

З іншага боку, праект расійскага Зяленскага ў РФ мае шэраг слабых бакоў. Папулярнасці Зяленскага шмат у чым дапамог зняты яго тэлестудыяй «95-ы квартал» серыял «Слуга народа». Серыял зрабіў яму не толькі рэкламу, але і прадставіў артыста ў патрэбным вобразе палітыка. На працягу трох сезонаў акцёр выконваў ролю сумленнага прэзідэнта Украіны, вымушанага наладжваць жыццё краіны ў няпростых умовах. Зразумела, што яго герой быў прадуктам мастацкай выдумкі, але вобраз прэзідэнта апынуўся пераканаўчым. Таму на выбарах электарат успрымаў Зяленскага як больш-менш палітычную альтэрнатыву.

Відавочна, што ў Расіі такі фокус не атрымаецца. Цяжка ўявіць, што Крэмль (асабліва зараз) пагодзіцца, каб у татальна падкантрольных яму каналах здымалі, а пасля круцілі ў прайм-тайм серыял пра прэзідэнта, які кідае выклік існуючай у краіне мадэлі. Не маючы за плячыма свайго «Слугі народа», артысту-кандыдату ў палітыку можна не лезці. «Нашы папулярныя блогеры ад палітыкі далёкія, іх глядзяць дзеля забавы, але не шукаюць у іх адказаў на пытанні палітычнага характару», — вызнае выданне «Rambler».

Аднак, магчыма, не ўсё так кепска. На расійскай сцэне ёсць акцёр, які сапраўды мае імідж палітычна нелаяльнага да Пуціна. Гэта былы гулец КВЗ, а пасля акцёр, спявак і прадзюсар Сямён Слепакоў (1979 года нараджэння). У яго творах сапраўды заўжды прысутнічала нотка фронды. А яго апошні прадукт — серыял «Хатні арышт» — увогуле стаў бомбай. Напэўна, упершыню ў расійскім серыяле яго героямі ўзгадваецца Навальны, даюцца альтэрнатыўныя погляды на падзеі ў Крыме і гэтак далей. У сакавіку «Хатні арышт» быў прызнаны лепшым серыялам мінулага года, што адразу, праўда, выклікала версію пра тое, што фільм — нейкая хітрая метадалагічная гульня з нетраў адміністрацыі Пуціна.

Так ці інакш, калі верыць выданню «Newsland», падчас украінскіх выбараў Слепакоў стаў аб'ектам асаблівай увагі адпаведных спецслужбаў. «Пуцін глядзіць на Зяленскага, потым на Слепакова. Потым зноў на Зяленскага, і зноў на Слепакова. Вы ж разумееце, якія там думкі ў галаве нараджаюцца? Вось таму ў расійскага гумарыста зараз могуць пачацца складанасці», — прагназуе выданне.

Сітуацыя вакол Слепакова стала яшчэ больш цікавай 22 красавіка, калі дэпутат Вярхоўнай рады Украіны Антон Герашчанка прапанаваў расіянам абраць гумарыста Сямёна Слепакова прэзідэнтам Расіі. Герашчанка заявіў у Facebook, што «шанец стаць наступным прэзідэнтам Расіі ёсць у Сямёна Слепакова». Паводле яго слоў, гэта «зробіць магчымым паляпшэнне адносін паміж Украінай і Расіяй». Акрамя таго, ён лічыць, што перамога Слепакова на выбарах дазволіць вярнуць Украіне кантроль над Крымам і Данбасам.

Як бачым, нешта ў гэтай галіне ў Расіі сапраўды заварушылася. А вось у Беларусі з Зяленскімі пакуль поўная нявызначанасць.



Фота www.sputnik.by

# За што Бог пакараў французаў?

Алег НОВІКАЎ

**Шмат французаў і хрысціян успрынялі пажар як пакаранне або знак вышэйшых сілаў.**

Калі гарыць галоўны хрысціянскі храм краіны, ды яшчэ напярэдадні Вялікадня, ды яшчэ па не высветленых і цяпер прычынах, у гэтым міжволі спрабуюць знайсці метафізіку, глабальнае пасланне, паколькі такога буйнога пажару ў гісторыі Нотр-Дама яшчэ не было.

Закладзены ў XII стагоддзі, храм перажыў Вялікую французскую рэвалюцыю і дзве сусветныя вайны. Прычым, часам комплекс захоўваўся амаль цудам. Напрыклад, у часы рэвалюцыі Рабесп'ер запатрабаваў з парыжан выкуп за захаванне «бастыёну цемрашальства». Атрыманыя грошы павінны былі пайсці на падрыхтоўку рэвалюцый у замежжы. Выкуп быў выплачаны, і сабор пакінулі ў спакоі.

І пасля ўсяго гэтага 15 красавіка 2019-га сабор атакавала полымя такой сілы, што гарэлі галоўны фасад і шпіль. Не дзіўна, што гэтая сцэна дала штуршок для самых смелых версій.

Хапае, натуральна, і вар'яцкіх думак. Напрыклад, расійскія ўра-патрыёты трактавалі пажар як помсту за падпал Напалеонам Масквы ў 1812 годзе. А польскі сатырычны часопіс «Nie» бачыць першапрычынай катастрофы падзеі восені 1939-га, калі французы, насуперак дамоўленасцям, не прыйшлі на дапамогу палякам, якіх атакаваў Гітлер. Прыхільнікі Парашэнкі звязваюць пажар з дэманічнай фігурай Уладзіміра Зяленскага, які напярэдадні пажару меў у Парыжы рандэву з Макронам.

Аднак гэта — маргінальныя тэорыі. У трэндзе высновы некаторых каталіцкіх публіцыстаў. На іх думку, пажар стаў знакам-напамінам пра рэгрэс у Францыі хрысціянскіх каштоўнасцяў. Адразу ўзгадалі, што менавіта перад галоўным алтаром Нотр-Дама ў 2013-м скончыў жыццё самагубствам вядомы французскі гісторык, які такім чынам пратэставаў супраць легалізацыі аднаполых шлюбаў. А паколькі парыжскі сабор мае статус аб'екта агульнаеўрапейскай культурнай спадчыны, папулярная версія пра тое, што пажар у Парыжы — напамін усім хрысціянам пра пагрозу існавання іх цывілізацыі.

Дарэчы, сімвалічна, што напярэдадні пажару былы Рымскі Папа Бенедыкт заклікаў распачаць крыжовы паход супраць спадчыны 1968 года — буйной культурнай трансфармацыі на Захадзе, якая прынесла з сабою сексуальную рэвалюцыю і альтэрнатыўны лад жыцця.

Больш сур'ёзныя выданні намагаюцца ігнараваць версіі пра метафізічны падтэкст пажару, аднак нейкі сімвалізм у тым, што адбылося, яны дапускаюць. Нямецкая газета «Suedeutsche Zeitung» піша пра заняпад іміджу Парыжа як сталіцы мастацтва і кахання. Цяпер ён будзе выклікаць асацыяцыі са спаленым саборам, буйнымі тэрактамі ісламістаў і вулічнымі беспарадкамі «жоўтых камізэлек».

А амерыканская «New York Times» пабачыла ў полымі Нотр-Дама сімвалічнае заканчэнне нейкага этапу французскай гісторыі. Сапраўды, крызіс у грамадстве, праявай якога сталі згаданыя пратэсты, вымагае ад палітыкаў шукаць новыя прынцыпы агульнай грамадзянскай дамовы. Праўда, пакуль палітыкі дзейнічаюць роўна наадварот. Макрон намагаецца рабіць піяр на праекце аднаўлення храма. Яго апаненты нагадваюць, што адміністрацыя Макрона пагадзілася выдаткаваць толькі два мільёны еўра з астранамічнай сумы, патрэбнай на комплексную рэканструкцыю храму. Дарэчы, апошнія сацыялагічныя замеры сведчаць, што прэзідэнт Францыі не здолеў палепшыць свой рэйтынг за кошт абяцанняў «адбудаваць Нотр-Дам».

Ёсць яшчэ адна катэгорыя ўдзельнікаў дэбатаў наконт трагедыі сабора. Гэта група гісторыкаў, якія заклікаюць не ўспрымаць усё так балюча. На самай справе, нешта падобнае ў гісторыі ўжо здаралася. Хаця такіх моцных пажараў у храме не было, рэканструкцыі, што мелі месца пры Людовіку XIV і Людовіку XV, можна параўнаць з маштабным рамонтам, якому папярэднічала буйная аварыя. Пасля эры рэвалюцый і войнаў Напалеона, прыкладна ў 1830 годзе, комплекс выглядаў настолькі старым, што сталічная мэрыя ўсур'ёз абмяркоўвала пытанне яго дэмантажу. Шмат у чым ад ідэі адмовіліся праз папулярнасць славутага раману Віктора Гюго, які пабачыў свет у 1831 годзе. Прыкладна да 1840-га былі знойдзеныя грошы на пачатак рамонту катэдры. Так што рэканструкцыі для такіх аб'ектаў, як Нотр-Дам, — шмат у чым справа дзяжурная.

Тут варта ўзгадаць пра іншы Нотр-Дам, што ў Рэймсе. Штогод мільён турыстаў наведваюць гэтую царкву, дзе каранаваліся французскія манархі. Пры гэтым мала каго з наведвальнікаў цікавіць, што ў часы Першай сусветнай вайны храм быў цалкам знішчаны. Тады таксама актыўна шукалі ў гэтым факце глыбокі сімвалізм, аднак пасля таго, як комплекс адбудавалі з нуля, пошукі прыпыніліся.

Праўда, ёсць адна праблема. Падаецца, што адбудаваны Нотр-Дам не будзе падобны да арыгіналу. Прынамсі, шмат архітэктурных бюро прапануюць розныя смелыя варыянты рэканструкцыі. Напрыклад, зрабіць на даху пляцоўку для агляду, а сам дах — са спецыяльнага шкла, што дазволіць асвятляць унутраныя памяшканні сабора. Пра офісныя пляцоўкі пад арэнду, буцікі і кавярні ў новым Нотр-Даме нічога пакуль не пішуць, аднак выключаць гэтага нельга.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### Ейка Сэратэта



Аленявод, які пражывае ў Ямала-Ненецкай аўтаномнай акрузе (Расія), чалец КПРФ, праславіўся на ўвесь свет дзякуючы мясцовай паліцыі. На яго склалі пратакол за правядзенне мітынгу... у тундры.

Сапраўды, 27 сакавіка 40 аленяводаў сустрэліся ў тундры для таго, каб абмеркаваць праблемы карэнных жыхароў і склалі спіс у асноўным экалагічных патрабаванняў да рэгіянальнай улады. Пры гэтым самі ўдзельнікі сустрэчы адмаўляюцца лічыць сваю акцыю мітынгам, адзначаючы, што ямальскія камуністы атрымліваюць пастаянныя адмовы ў правядзенні публічных мерапрыемстваў.

Справа Сэратэта выклікала вялікі рэзананс у тым ліку ў Еўропе, дзе тэме правоў карэнных народаў надаюць шмат увагі. У прэсе пішуць, што вось-вось там з'явіцца новы санкцыйны спіс, куды трапяць нафтавыя і газавыя «генералы» і вышэйшыя службовыя асобы Ямала. Яго так і назавуць — «спіс Ейка».

Прэстыж ямальскіх уладаў таксама моцна пацярпеў, бо справа Сэратэта нагадвае вядомы анекдот пра чукчу-партызана. Гестапаўцы прыходзяць да ярангі чукчы і крычаць: «Партызана дома?!» — «Не, — крычыць у адказ яго жонка. — Тундра сышоў, улёткі ляпіць, мост падрываць». — «А, ну добра, як прыйдзе, скажы яму, гестапа прыходзіў і вельмі моцна лаяўся».

### Абдэль Фатах ас-Сісі



Напэўна, яшчэ ні адзін кіраўнік краіны ў гісторыі не падаўжаў сабе кадэнцыю так проста, як генерал і правадыр Егіпта.

Згодна з Канстытуцыяй, ён павінен быў сысці з пасады ў 2022 годзе, адседзеўшы два тэрміны ў прэзідэнцкім крэсле. Аднак цяпер ён можа заставацца гарантам аж да 2030-га. Усё дзякуючы пакету канстытуцыйных паправак, якія 16 красавіка прыняў з падачы прэзідэнцкай партыі парламент.

Перш за ўсё, ас-Сісі дазволілі быць прэзідэнтам да 2024-га. Пасля ён зможа ўдзельнічаць у новых выбарах, і ў выпадку перамогі будзе кіраваць краінай да 2030-га, калі яму споўніцца 75 гадоў. І гэта, думаецца, яшчэ не фінал.

Тое, што ў 2024 годзе ас-Сісі лёгка атрымае элегантную перамогу, гарантуе яшчэ адно канстытуцыйнае новаўвядзенне — у артыкуле 200 Асноўнага закона пашыраныя абавязкі вайскоўцаў Егіпецкай Арабскай Рэспублікі. Цяпер войска павінна абараняць «канстытуцыю і дэмакратыю, а таксама структуру краіны і яе цывільны характар».

Праўда, для таго, каб згаданыя папраўкі ўступілі ў сілу, неабходна было зацвердзіць іх на рэферэндуме. І тут кідаецца ў вочы паспешлівасць, нават мітуслівасць, з якой улады ладзяць рэферэндум. Плебісцыт быў праведзены праз тры дні пасля прыняцця паправак — 19–22 красавіка. Канчатковы вынік будзе вядомы 27-га красавіка. Такую аператыўнасць, на думку экспертаў, можна звязаць толькі з падзеямі ў суседніх Судане і Алжыры, дзе днямі адбыліся мірныя рэвалюцыі. Мяркуючы па ўсім, у Каіры баяцца, што рэвалюцыйная хваля перакінецца на Егіпет.

### Ігар Дадон



Прэзідэнт Малдовы блізкі да фармавання беспрэцэдэнтнай для постсавецкай прасторы ўрадавай кааліцыі. Калі не адбудзецца нічога сенсацыйнага, Малдовай хутка будзе кіраваць урад з удзелам прарасійскіх сацыялістаў і праеўрапейскіх дэмакратаў з блоку ACUM.

Згаданыя палітсілы вырашылі на нейкі час адмовіцца ад сваіх геапалітычных амбіцый, каб вырашыць урадавы крызіс. Нагадаем, што пасля лютаўскіх выбараў у парламенце паўстаў цугцванг: ніводная з фракцый не можа аднаасобна стварыць кабінет. Між тым, адсутнасць ураду ўсё больш паралізуе дзяржаўныя інстытуты, што прымусіла Дадона працягнуць руку ненавісным дэмакратам. «Давайце скажам праўду, мы супраць іх (ACUM) змагаліся ўсе гэтыя гады! Калі мы праводзілі фестываль сям'і ў цэнтры Кішынёва, яны на суседняй вуліцы ўдзельнічалі ў гэтых гей-парадах! (...) Але, нягледзячы на гэта, сацыялісты праявілі мудрасць і сказалі, што трэба мяняць сістэму і ствараць кааліцыю», — заявіў прэзідэнт.

Што тычыцца дэмакратаў, яны, хаця і пагадзіліся на перамовы пра кааліцыю, канчатковага «так» яшчэ не сказалі. Унутры блока ідзе жорсткая барацьба паміж большасцю, якая выступае за перамовы з сацыялістамі, і меншасцю, якая супраць. Ёсць небяспека, што супрацоўніцтва з сацыялістамі выкліча раскол у шэрагах ACUM.

# Подых пераменаў: выбары–1989

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ

**Выбары народных дэпутатаў СССР 26 сакавіка 1989 года паклалі пачатак канца савецкай выбарчай сістэмы. У Беларускай ССР гэтыя выбары мелі свае асаблівасці.**

## Правілы гульні

Выбары народных дэпутатаў СССР павінны былі адбыцца паводле рашэння XIX Усесаюзнай партыйнай канферэнцыі (28 чэрвеня — 1 ліпеня 1988 года): меркавалася істотна дэмакратызаваць выбарчы працэс шляхам забеспячэння «широкого обсуждения кандидатур», уключэння ў бюлетэні «большего числа кандидатов, чем имеется мандатов».

Адпаведны закон аб выбарах народных дэпутатаў СССР быў зацверджаны 1 снежня 1988 года. Нягледзячы на відавочныя плюсы (гарантыя правоў грамадзянаў на выбар, альтэрнатыву), у законе былі нормы, якія дыскрэдытавалі ідэю свабодных выбараў.

Па-першае, гэта наяўнасць штучнага дэпутацкага прадстаўніцтва ад грамадскіх арганізацый. Іх прадстаўнікі абіраліся на адпаведных пленумах, а таму аніякай передвыбарчай барацьбы не вялі. Квота дэпутатаў БССР ад грамадскіх арганізацый была 31 чалавек.

Па-другое, быў уведзены «акруговы перадвыбарчы сход», які прымаў канчатковае рашэнне пра рэгістрацыю таго ці іншага кандыдата ў адпаведнай выбарчай камісіі. Працоўнікі сходу адразу заявілі пра яго палітычны падтэкст — і мелі рацыю. Акруговы перадвыбарчы сход выкарыстоўваўся, па вялікім рахунку, для пазбаўлення ад «нязручных» кандыдатаў.

Для правядзення выбараў у Беларускай ССР ствараліся 60 выбарчых акругаў: 28 тэрытарыяльных і 32 нацыянальна-тэрытарыяльных. Калі колькасць тэрытарыяльных акругаў фармавалася ў залежнасці ад колькасці насельніцтва, дык лічба нацыянальна-тэрытарыяльных акругаў была прапісаная канкрэтна. Рэгістрацыя кандыдатаў пачыналася за два месяцы і заканчвалася за месяц да пачатку выбараў.

Напярэдадні выбараў БССР уяўляла сабой адну з самых кансерватыўных рэспублік СССР. Дэмакратычныя працэсы адбываліся тут марудна і хваравіта — у адрозненне, напрыклад, ад Расіі, Украіны, Малдавіі і Прыбалтыкі. Гэта дало падставу Алесю Адамовічу назваць БССР «Вандэяй перабудовы».

За некалькі месяцаў да выбараў БССР перажыла сапраўдны палітычны крызіс, які быў звязаны з брутальным разгонам 30 кастрычніка 1988 года мітынгу ў Дзень памяці продкаў «Дзяды». Выкарыстанне супраць дэманстрантаў спецсродкаў выклікала непаразуменне і на агульнасаюзным узроўні.




Масква. Крамлёўскі Палац з'ездаў, дзе праходзілі пасяджэнні З'езда народных дэпутатаў СССР

Фота ТАСС

## Расстаноўка сіл

Перадвыбарчая кампанія абумовіла своеасаблівую расстаноўку палітычных сілаў у рэспубліцы. Гэтыя сілы можна ўмоўна падзяліць на дзве лініі. Першая была прадстаўлена Прэзідыумам Вярхоўнага Савета, Саветам Міністраў і ЦК КПБ. Другую ўвасабляла альтэрнатыўная плынь, у тым ліку так званыя «нефармалы», якія кансалідаваліся вакол Аргкамітэта па стварэнні Беларускага народнага фронту (БНФ) за перабудову «Адраджэнне» на чале са старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі АН БССР, кандыдатам мастацтвазнаўства Зянонам Пазьняком.

Падчас перадвыбарчай кампаніі Аргкамітэт па стварэнні БНФ актыўна падтрымліваў тых, хто выказаў свою прыхільнасць дэмакратычным і нацыянальным каштоўнасцям. Пры актыўнай падтрымцы Аргкамітэта перадвыбарчую кампанію распачаў правялі прарэктар БДУ, будучы старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі 12 склікання Станіслаў Шушкевіч, следчы па асабліва важных справах пры Пракуратуры БССР, будучы першы генеральны пракурор незалежнай Беларусі Мікалай Ігнатовіч, прафесар Рэспубліканскага міжгаліновага інстытута павышэння кваліфікацыі кіраўнічых работнікаў і спецыялістаў, доктар эканамічных навук Аляксандр Жураўлёў. Апошні быў адным з аўтараў эканамічнай праграмы БНФ.

У студзені 1989 года Аргкамітэт распаўсюдзіў свае «Пятнаццаць пунктаў», якімі павінны былі кіравацца кандыдаты ад Беларускага народнага фронту. «Пункты» тычыліся самых набалелых пытанняў: Чарнобыля і экалогіі, эканомікі, рэфармавання СССР, сталінізму і іншага.

Аргкамітэт таксама абвясціў сябе рухам дзеяння. 19 лютага 1989 года на сталічным стадыёне «Дынама» сабраліся каля 35 тысяч чалавек — у асноўным паплечнікаў БНФ. На мітынгу былі прыняты дзве даволі радыкальныя рэзалюцыі. Першая тычылася выбарчай сістэмы і патрабавала ануляваць выбары з удзелам аднаго кандыдата, а таксама скасаваць правы грамадскіх арганізацый на вылучэнне кандыдатаў. У другой рэзалюцыі змяшчаўся заклік афіцыйна прызнаць рух БНФ за перабудову «Адраджэнне», спыніць дэзінфармацыю насельніцтва адносна мэтаў і задач Беларускага народнага фронту, прадаставіць Аргкамітэту БНФ памяшканне для працы і магчымасць публікавацца на старонках рэспубліканскага, абласнога і раённага друку. Мітынгоўцы асобна патрабавалі зацвердзіць у Беларусі нацыянальную сімволіку — герб «Пагоня» і бел-чырвона-белы сцяг.

Кампанія па вылучэнні кандыдатаў па акругах скончылася 23 лютага 1989 года. На 60 мандатаў прэтэндавалі 104 чалавекі. Сваю моц прадэманстравалі акруговыя передвыбарчыя сходы, якія адкінулі 128 прэтэндэнтаў. Напрыклад, па Мінскай-Савецкай тэрытарыяльнай выбарчай акрузе №566 было зарэгістрана тры кандыдаты з чатырнаццаці.

Каб пазбегнуць непрадбачаных сітуацый, дзяржаўная і партыйная эліта рэгістравалася не ў сталіцы, і нават не ў абласных цэнтрах, а на раённым узроўні. Пры гэтым практычна ўсе высокія кіраўнікі ішлі на выбары безальтэрнатыўна. Першы сакратар ЦК КПБ Яфрэм Сакалоў быў зарэгістраваны па Кобрынскай тэрытарыяльнай выбарчай акрузе №549 Брэсцкай вобласці; Мікалай Дземянцей, сакратар ЦК КПБ, — па Полацкай тэрытарыяльнай выбарчай акрузе №54 Віцебскай вобласці; Георгій Таразевіч, старшыня Прэзідыуму Вярхоўнага Савета — па Маладзечанскай тэрытарыяльнай выбарчай акрузе №71 Мінскай вобласці.

Але выбары абудзілі амбіцыі «новай генерацыі» — адносна маладых людзей, якія былі занятыя ў розных сферах грамадскага жыцця. Інтуітыўна яны адчувалі, што савецкае грамадства патрабуе рэфармавання, і што тэмпы перабудовы замарудзіліся. Зарэгістраваліся кандыдатамі старшы навуковы супрацоўнік Інстытута механікі металапалімерных сістэм АН БССР, лаўрэат прэміі ЛКСМБ 1987 года Юрый Варонежцаў, працоўны Віктар Карнеенка, старшыня саўгаса Аляксандр Лукашэнка, інжынер Аляксандр Дабравольскі.

Перадвыбарчая кампанія ў БССР 1989 года не прайшла без інцыдэнтаў. Першы адбыўся 24 сакавіка, калі ў будынку Саюза пісьменнікаў БССР, у памяшканні літаратурнага кансультанта Аляксандра Емяльянава праваахоўнікамі былі знойдзены праграмныя дакументы Аргкамітэта БНФ. Для матэрыялаў БНФ, паводле «Вечернего Минска», былі характэрны ***«декларативность, наличие противоречий и необоснованность предложений, ставка на волевые, командно-принудительные методы решения социально-экономических задач, особенно языково-культурных проблем»***.

Пасля гэтага Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР 31 сакавіка прыняў указ «О внесении дополнений и изменений в Кодекс Белорусской ССР об административных нарушениях». У прыватнасці, змены тычыліся артыкула 172 Кодэкса: уводзілася адказнасць за распаўсюд друкаваных выданняў, выраблены з парушэннем устаноўленага парадку і не маючых выхадных звестак. Дарэчы, першы намеснік міністра юстыцыі СССР Іван Самошчанка раіў беларусам дачакацца прыняцця Закона СССР «О печати и других средствах массовой информации».

Другі інцыдэнт тычыўся палітычнага перфомансу Алеся Пушкіна. 25 сакавіка 1989 года студэнт чацвёртага курса Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута Алесь Пушкін выйшаў на вуліцу Мінска, трымаючы плакат з перакрэсленым Дзяржаўным сцягам БССР узору 1951 года і лозунгам «Досыць сацыялістычнай, адродзім народную Беларусь!». Рэакцыя ўладаў была хуткай: у чэрвені 1989 года студэнт быў асуджаны, у прэсе распачалася кампанія супраць Пушкіна.

Імя Пушкіна фігуравала ў выступленні пракурора БССР Георгія Тарнаўскага 20 красавіка перад народнымі дэпутатамі СССР, абранымі ад БССР. Бел-чырвона-белы сцяг пракурор ахарактарызаваў як ***«псевдонациональный флаг сомнительного происхождения»***. На XIII пленуме ЦК КПБ 22 чэрвеня 1989 года канстатаваўся развал выхаваўчай работы ў Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце.

## Пераможцы і зрынутыя

Пасля рэгістрацыі кандыдатаў па акругах на передвыбарчую агітацыю адводзіўся месяц. І тут дзяржаўная партыйная наменклатура дапусціла значную памылку. Яна палічыла, што адсейваннем нязручных кандыдатаў праз передвыбарчыя сходы перамога ім забяспечаная. Таму ўлады не надалі належнай увагі паўсядзённай агітацыі і абмежаваліся прыёмамі мінулых гадоў. А паплечнікі БНФ актыўна выкарыстоўвалі передавыя на той час паліттэхналогіі: аператыўныя арганізацыі мітынгаў, пакватэрны абыход грамадзян, раздачу ўлётак...

Прыхільнікам Беларускага народнага фронту, якія падкрэслівалі побытавыя праблемы (з транспартам, жыллём, гандлем), удалося не дапусціць да дэпутацтва шмат высокапастаўленых кандыдатаў. На з'езд народных дэпутатаў СССР не трапілі прадстаўнікі «чырвонага дырэктарату» (кіраўнік «БелаўтаМАЗа» Міхаіл Лаўрыновіч, дырэктар завода «Гарызонт» Аляксандр Санчукоўскі), партыйнага апарату (першы сакратар Мінскага гаркама КПБ Уладзімір Галко). Некаторыя з гэтых кандыдатаў публічна апраўдваліся праз прэсу. Сярод фактараў сваёй паразы Галко назваў ***«агитационные усилия неформалов»***, якія былі скіраваныя ***«так называемым оргкомитетом БНФ»***.

Па выніках выбараў 26 сакавіка 1989 года дэпутацкія мандаты атрымалі 47 чалавек. Яшчэ тры кандыдаты сталі дэпутатамі падчас другога тура — 2 красавіка 1989 года.

У дзесяці выбарчых акругах БССР пераможцы так і не выначыліся. Там былі прызначаны паўторныя выбары — на 14 мая 1989 года. На дзесяць мандатаў прэтэндавалі 51 кандыдат.

Напярэдадні паўторных выбараў палітыка беларускіх уладаў стала больш рэпрэсіўнай: 21 красавіка ў крымінальным заканадаўстве БССР былі зацверджаныя змены, паводле якіх узмацнялася адказнасць (пазбаўленне волі да трох гадоў, штраф да 2 тысяч рублёў) ***«за публичные призывы к свержению и изменению советского государственного и общественного строя, за публичные призывы к преступлениям против государства, за публичные оскорбления и дискредитацию государственных органов и общественных организаций»***.

Адначасова са старонак рэспубліканскай прэсы бясконца ліліся крытыка тых, хто адважыўся стварыць канкурэнцыю камуністычнай сістэме. Насельніцтву і пантэнцыйным выбаршчыкам даводзілася думка, што ***«в настежь распаханные шлюзы демократизации хлынули и такие люди, которые не прочь использовать перестроечные процессы для подрыва существующих государственно-политических структур, а кое-кого из лидеров неформалов совершенно не интересует, что будет с республикой»***.

14 мая 1989 года мандаты атрымалі 4 чалавекі, а падчас другога тура 21 мая — астатнія 6 прэтэндэнтаў.

Выбары–1989 сведчылі пра аб'ектыўны запыт пэўнай часткі беларускага савецкага грамадства на альтэрнатыву і неабходнасць пераменаў. Улічваючы гэта, трэба прымаць пад увагу асабістую мужнасць, цвёрдую грамадзянскую пазіцыю дэмакратычных кандыдатаў, якія не збаяліся рэпрэсіяў і пераследу, зневажальных выкідаў дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі. Цікава, што будзе праз 30 гадоў?

# Таямніца маскоўскіх перамоў



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Напярэдадні Другой сусветнай вайны Вялікабрытанія і Францыя спрабавалі дамовіцца з Савецкім Саюзам аб сумесным выступленні супраць нацысцкай Германіі. Узамен Сталін патрабаваў ад заходніх дэмакратый граць па яго правілах.**

## Хаўрус з д'яблам

Англійская і французская вайсковыя дэлегацыі прыехалі 11 жніўня 1939 года ў Маскву, каб дамовіцца з Крамлём аб удзеле Саветаў у магчымай «антыгітлераўскай кааліцыі». Варта адзначыць, што англічане і французы вырашылі ехаць у СССР не звычайным наземным шляхам праз усю Еўропу і памежную станцыю Коласава, а на параходзе праз Ленінград, а адтуль цягнікам да Масквы.

На той момант у Еўропе ўсе разумелі, што пазбегнуць глабальнай вайны не атрымаецца. Гітлер далучыў Аўстрыю, акупаваў Чэхію, патрабаваў тэрыторый і падтрымкі ад Польшчы і Румыніі. У гэтай сітуацыі Парыж і Лондан прыйшлі да высновы, што трэба дамаўляцца з бальшавікамі. Другая Рэч Паспалітая выдатна разумела: «гарантыі Масквы» могуць каштаваць ёй вельмі дорага. Падчас «Чэхаславацкага крызісу 1938 года» Крэмль, з мэтай дапамогі Празе, патрабаваў ад палякаў прапусціць падраздзяленні Чырвонай Арміі праз польскую тэрыторыю. Але палякі добра памяталі 1920 год, калі бальшавікі імкнуліся прарвацца ў Еўропу дзеля арганізацыі «сусветнай рэвалюцыі». Варшава разумела, што праз 18 гадоў Сталін імкнецца рэалізаваць тое, што не атрымалася падчас польска-бальшавіцкай вайны.

Летам 1939 года сітуацыя Польшчы ўскладнялася яшчэ і тым, што на перамовы з бальшавікамі накіраваліся тыя дзяржавы, ад якіх палякі чакалі падтрымкі і гарантыі незалежнасці. Яшчэ ў траўні 1939 года польскі міністр замежных спраў Юзаф Бэк у лісце паслу Польшчы ў Парыжы Юліюшу Лукасевічу падкрэсліваў: «Прашу звярнуць увагу Банэ (міністра замежных спраў Францыі), што нават аднабаковую савецкую гарантыйную дэкларацыю лічу для нас непрымальнай». Дарэчы, 11 траўня 1939 года гэтае меркаванне свайго шэфа агучыў у размове з народным камісарам замежных спраў СССР Вячаславам Молатавым пасол Польшчы ў Савецкім Саюзе Вацлаў Гжыбоўскі. У чэрвені 1939 года Юзаф Бэк накіраваў польскім дыпламатычным установам інструкцыю, у якой адзначаў, што «польскі бок не пагаджаецца на згадку Польшчы ў дамове, заключанай паміж заходнімі дзяржавамі і СССР». Акрамя гэтага, у дакуменце адзначалася, што ўмовы аказання дапамогі з боку СССР дзяржаве, якая падверглася нападу, без яе згоды Варшава лічыла недапушчальным і небяспечным парушэннем бяспекі ва Усходняй Еўропе.

## Праз Валожын і Маладзечна на... Кёнігсберг?

Брытанскі бок падтрымліваў польскі пункт гледжання. Больш за тое, «Foreign Office» (МЗС Брытаніі) інфармаваў Варшаву пра тое, як ідуць перамовы ў Маскве. А вось Масква спрабавала выкарыстаць «перамовы з капіталістамі» на сваю карысць, а менавіта — атрымаць геапалітычныя бонусы. Падчас размоваў з французскімі і брытанскімі вайскоўцамі 14 жніўня 1939 года народны камісар абароны Клімент Варашылаў і яго калег Вячаслаў Молатаў усё часцей і часцей узгадвалі Польшчу і краіны Балтыі як магчымыя ахвяры германскай агрэсіі. Бальшавіцкі маршал падыходзіў да карты Еўропы і алоўкам дэманстраваў, як Чырвоная Армія можа «прыйсці на дапамогу суседзям». «Галоўнай умовай нашага ўдзелу ў вайне супраць агрэсара з'яўляецца пропуск нашых войскаў на польскую тэрыторыю праз віленскі калідор і Галіцыю, а таксама праз румынскую тэрыторыю. Калі мы не дамовімся пра гэта, то няма сэнсу размаўляць далей. Разважанні прадстаўнікоў французскай і англійскай дэлегацый пра тое, што Польшча і Румынія могуць уласнаручна звярнуцца па дапамогу да Савецкага Саюза лічу не зусім аб'ектыўнымі. Могуць звярнуцца, а могуць не звярнуцца. Ці могуць звярнуцца з такім спазненнем, якое паўплывае на пагаршэнне сітуацыі Англіі і Францыі і іх хаўруснікаў», — адзначаў падчас перамоў маршал Варашылаў.

Савецкі бок, па сутнасці, патрабаваў, каб Францыя і Вялікабрытанія «здалі» Польшчу — свайго галоўнага саюзніка ва Усходняй Еўропе, як у 1938 годзе яны аддалі Гітлеру Чэхаславакію. Крэмль жорстка патрабаваў, каб у выпадку нападу Трэцяга Рэйху на Другую Рэч Паспалітую апошняя дазволіла праход савецкіх войскаў з боку Полацку і Заслаўя ў накірунку на Вільню. Так, паводле меркавання Масквы, савецкія войскі маглі дайсці да Усходняй Прусіі. Акрамя гэтага, Сталін хацеў атрымаць калідор у Галіцыі і Румыніі. Прадстаўнікі французскай дэлегацыі на патрабаванні Сталіна адказалі, што Польшча і Румынія — незалежныя дзяржавы і пытанне аб транзіце чужых войскаў праз іх тэрыторыю трэба вырашаць з урадамі гэтых дзяржаў. Перамовы зайшлі ў тупік, але для Масквы справа была зробленая. СССР зрабіў выгляд, што «змагаецца за мір», разлічваючы, што флегматычныя еўрапейцы альбо «здадуць» палякаў і румын, альбо ўсё вырашыць «дыялог» паміж Крамлём і Рэйхсканцылярыяй.



Рыбентроп і Сталін пасля падпісання савецка-германскага пакта ў Крамлі. Жнівень 1939 года



Сталін і Молатаў. 1939 год

## Сталін працягвае руку Гітлеру

На сустрэчы з паслом Германіі ў СССР Фрыдрыхам Шуленбургам 15 жніўня 1939 года наркам Вячаслаў Молатаў адзначыў, што дзвюм краінам «трэба размаўляць вельмі канкрэтна», і запытаў, «ці мае германскі бок акрэсленае меркаванне па справе заключэння пакта аб ненападзе з СССР». Хутка немцы перадалі савецкім уладам мемарандум, у якім, у прыватнасці, адзначалася: «Паміж Германіяй і СССР не існуе супярэчнасці інтарэсаў. [...] Заходнія капіталістычныя дэмакратыі з'яўляецца ворагамі як нацыянал-сацыялістычнай Германіі, так і СССР, і зараз яны, з дапамогай заключэння вайсковага хаўрусу, спрабуюць зноў уцягнуць Савецкі Саюз у вайну супраць Германіі. У 1914 годзе такая палітыка мела кепскія наступствы для Расіі».

У гэты ж час улады Другой Рэчы Паспалітай ад сваіх французскіх саюзнікаў атрымалі дэталі франка-брытанска-савецкіх перамоваў у Маскве. Парыж усё яшчэ наіўна разлічваў дамовіцца з бальшавікамі коштам саступак па «польскім пытанні». Пры гэтым прадстаўнікі Генеральнага штаба Войска Польскага спрабавалі давесці французам, што бальшавікі не збіраюцца ратаваць мір, а імкнуцца забяспечыць свае геапалітычныя інтарэсы.

У Берліне 19 жніўня 1939 года была падпісаная савецка-германская гандлёвая дамова. 22 жніўня міністр замежных спраў Польшчы Юзаф Бек адзначыў у паведамленні для польскіх пасольстваў у Парыжы і Лондане наступнае: «Савецкі ўрад даўно праводзіць двайную гульню з мэтай сарваць перамовы з Парыжам і Лонданам, таму нашае негатыўнае стаўленне да транзіту савецкіх войскаў не можа служыць падставай да сітуацыі, якая склалася (на маскоўскіх перамовах)». 23 жніўня 1939 года ў Маскву прыляцеў міністр замежных справаў Трэцяга Рэйху Ёахім фон Рыбентроп, які ў ноч на 24 жніўня падпісаў пакт аб ненападзе паміж Германіяй і СССР. Французская і брытанская дэлегацыя вымушаныя былі з'ехаць з Масквы ні з чым.

## А заўтра была вайна...

Ці ведалі ў Варшаве, што да Пакта Рыбентропа–Молатава быў далучаны патаемны пратакол? Безумоўна, ведалі. У апошнія дні жніўня адзін з супрацоўнікаў Генеральнага консульства Польшчы ў сталіцы БССР, які, па сумяшчальніцтву, быў агентам польскай выведкі, перадаў у Варшаву інфармацыю пра небяспечны для Польшчы дадатак да савецка-германскага пакта. Аднак польскія дыпламаты да моманту пачатку Другой сусветнай вайны ніякіх контрдзеянняў не прымалі. У жніўні 1939 года Сталін ашукаў «капіталістычныя дзяржавы» і зрабіў усё для рэалізацыі сваіх планаў. Варта адзначыць, што падраздзяленні Чырвонай Арміі, якія перайшлі польска-савецкую мяжу а пятай гадзіне раніцы 17 верасня 1939 года, пры сустрэчы з жаўнерамі Войска Польскага павінны былі «супакойваць» апошніх тым, што ідуць на дапамогу Другой Рэчы Паспалітай у вайне з Германіяй. Аднак нават такая вытанчаная хлусня не магла схаваць жудасную рэчаіснасць мядовага месяцу дыктатараў, якія ў верасні 1939 года пачалі дзяліць паміж сабой Еўропу.



Французскія і брытанскія вайскоўцы ў Маскве ў 1939 годзе

# БагатаДата

**Ці ведаеце вы, каму з нашых землякоў стаіць помнік у Японіі? А пра тое, як скончыў жыццё адзін з першых даследчыкаў Белавежскай пушчы? Больш цікавостак — у нашым аглядзе.**

## 27 красавіка

**Сусветны дзень ветэрынарнага лекара.**

**1584.** У Вільні памёр дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага Мікалай Радзівіл Руды. Быў падчашым, лоўчым, гетманам і канцлерам ВКЛ. Выступаў супраць заключэння Люблінскай уніі 1569 года і не падпісаў акт пра яе. Вызнаваў кальвінізм, прасоўваў Рэфармацыю. Камандаваў войскам ВКЛ у пераможнай бітве на рацэ Ула пад Чашнікамі над маскоўскім корпусам, які быў амаль утрая большым па колькасці за атрады ВКЛ.

**1919.** Польскія войскі занялі Гродна, дзе на той час знаходзіўся ўрад БНР.

## 28 красавіка

**Вялікдзень** (па календары праваслаўнай канфесіі) і **Сусветны дзень аховы працы.**

**1814.** У сяле Стралічаў (цяпер — Хойніцкі раён Гомельскай вобласці) нарадзіўся Іосіф Гашкевіч, дыпламат, мовазнаўца, даследчык Японіі, Кітая ды іншых краінаў. Яго імем названы заліў у Паўночнай Карэі і некаторыя адкрытыя віды рэдкіх насякомых. Помнік Гашкевічу стаіць у японскім горадзе Хакагатэ і пад нашым Астраўцом, у ваколіцах якога ён жыў, калі вярнуўся на радзіму. У Мінску ёсць вуліца Гашкевіча.

**1859.** У вёсцы Зіновічы Лідскага раёна нарадзіўся ваенны дзеяч Кіпрыян Кандратовіч, генерал, міністр абароны БНР.

**1864.** У Магілёве быў пакараны смерцю лекар, паўстанцкі камісар у Магілёўскай і Мінскай губернях Міхал Аскерка. 22 красавіка Мураўёў-вешальнік падпісаў яму смяротны прысуд. Сваякі і сябры намагаліся дамагчыся яго змякчэння — і смяротнае пакаранне нібыта адмянілі. Але было зроблена так, каб паведамленне пра гэта прыйшло ў Магілёў ужо пасля расстрэлу Аскеркі.

**1949.** У Жыткавічах, што на Гомельшчыне, нарадзіўся кампазітар Уладзімір Буднік. Яго вядомыя песні — «Янка Купала», «Пах чабаровы», «Палессе», «Белая лілея», «Святло тваіх вачэй», «Водар чаромхі», «Я зачараваная табой», «Папараць-кветка» ды іншыя.

**1964.** У расійскім Новакузнецку нарадзіўся цяперашні міністр адукацыі Беларусі Ігар Карпенка.

**1994.** Быў створаны Канстытуцыйны суд Беларусі.

## 29 красавіка

**Міжнародны дзень танца.**

**1884.** У Гродне нарадзіўся Самуіл Агурскі, беларускі і яўрэйскі гісторык. Дырэктар Інстытута яўрэйскай пралетарскай культуры, намеснік дырэктара Інстытута нацыянальных меншасцяў Акадэміі навук. Выкрываў нацыяналізм Усевалада Ігнатоўскага і Зміцера Жылуновіча, але ў 1938 годзе сам быў рэпрэсаваны і сасланы ў Казахстан, у Паўладарскую вобласць, дзе і памёр.

**1979.** У Чавусах, што ў Магілёўскай вобласці, нарадзіўся біятланіст Сяргей Новікаў, сярэбраны медаліст Алімпійскіх гульняў–2010.

## 30 красавіка

**1994.** Пасля апублікавання набыла моц Канстытуцыя Беларусі.

## 1 траўня

**Дзень працы.**

**1939.** У Свярдлоўску нарадзілася спявачка, народная артыстка Беларусі Наталля Гайда, вядомая па пастаноўках цягам многіх гадоў у Беларускім дзяржаўным акадэмічным музычным тэатры (Тэатры музкамедыі).

**1949.** У вёсцы Далідавічы Валожынскага раёна на Міншчыне нарадзілася спявачка, народная артыстка Беларусі Ядвіга Паплаўская. Вядомая выступленнямі ў ансамблі «Верасы», а таксама як стваральніца і кіраўніца разам з мужам Аляксандрам Ціхановічам першага ў Беларусі Тэатра песні і творчай студыі пры ім.

**1969.** Адкрыўся Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Францыска Скарыны. Тады ён быў педінстытутам імя Валерыя Чкалава — славутага лётчыка, які нейкі час служыў у Гомелі.

**2004.** Беларусь займела мяжу з Еўрасаюзам. У гэтым дзень да ЕС далучыўся дзясятак краінаў, у тым ліку нашы суседзі — Літва, Латвія ды Польшча.

## 2 траўня

**1954.** Дзень народзінаў мастака і дызайнера Канстанціна Хацяноўскага, аўтара выяваў першых грошай незалежнай Беларусі — «зайчыкаў».

**2009.** Пайшоў з жыцця акцёр, народны артыст Беларусі Фёдар Шмакаў, які больш за 60 гадоў працаваў у трупе Коласаўскага тэатра ў Віцебску.

## 3 траўня

**Міжнародны дзень свабоды прэсы.**

**1864.** Скончыў жыццё самагубствам у сібірскай ссылцы Станіслаў Горскі, беларускі прыродазнаўца, медык і педагог. Ён быў адным з першых даследчыкаў Белавежскай пушчы.

**1939.** У Маскве нарадзіўся рэжысёр Леанід Нячаеў, які, працуючы на «Беларусьфільме», зняў такія славутыя дзіцячыя стужкі, як «Прыгоды Бураціна», «Пра Чырвоны Каптурок», «Прадазены смех», «Пітар Пэн» ды іншыя.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

# Пасля «Дыктатара»: у Беларусі збіраюць грошы на кнігу філасофскіх вершаў для дзяцей

**Выдавецтва KOSKA збірае перадзамовы на кнігу шведскага пісьменніка Ульфа Старка і фінскай ілюстратаркі Лінды Бундэстам, вядомых у Беларусі дзіцячай кнігай «Дыктатар».**






Тады, у 2012 годзе, Ульф Старк наведаў Мінск і Магілёў, дзе сустракаўся з чытачамі. У названай кнізе апавядалася пра змены ў характары дзіцяці, калі яно пачынае паводзіць сябе як сапраўдны маленькі дыктатар і спрабуе ўсімі кіраваць.

Цяпер жа беларусам прапануюць пазнаёміцца са зборнікам вершаў і малюнкаў «Звяры, якіх ніхто не бачыў, апроч нас». Гэтая кніга-карцінка стане падарожжам у экзатычныя мясціны ўнутранага свету чалавека — няважна, маленькага ці дарослага.

Вершы з ненадакучлівай рытмікай апавядаюць пра Качэўліка, Эскалопа, Слязёўну, Бубуха, Клыпантропку, Марскога гіганта і іншых дзівосных істотаў. Чым яны жывуць і як глядзяць на гэты свет? Ці нагадваюць у чымсьці нас саміх? Дзеці змогуць неўпрыкмет задумацца над гэтымі пытаннямі, слухаючы ці чытаючы вершы і разглядаючы на кожнай старонцы малюнкі адной з самых выбітных сучасных ілюстратарак Паўночнай Еўропы.

Вось як Лінда Бундэстам шукала вобразы звяроў з гэтай кнігі: «Я хадзіла па прыродна-краязнаўчых музеях і рабіла эскізы розных жывёл, але хутка заўважыла, што разнастайнасць прыроды не пераўзыдзеш, дый сумна ўвесь час глядзець на чучалы. І тады я пачаланазіраць за наведнікамі музеяў і ўяўляць іх унутраных звяроў».

Перастварыла кнігу па-беларуску Алеся Башарымава, у перакладах якой выходзілі кнігі Тувэ Янсан пра мумітроляў, кнігі-карцінкі Эвы Сусы і Бенжамена Шо «Снежны чалавек», Ульфа Нільсана і Эвы Эрыксан «Найлепшы спявак у свеце» ды іншыя.

«Вобразы незвычайных звяроў сустрэліся мне яшчэ ў папярэдняй кнізе Ульфа і Лінды, пакуль не выдадзенай па-беларуску, — гаворыць Алеся. — Тады яны ўразілі мяне ўжо толькі сваімі вобразамі і назвамі. Таму мне было за шчасце трымаць у руках і перакладаць цэлую кнігу дасціпных вершаў пра гэтую бясконца разнастайную фаўну. Хачу падзяліцца гэтым цудам, і таму спадзяюся на шырокую падтрымку краўдфандынг-кампаніі!»

Даведацца падрабязней пра кнігу, падтрымаць кампанію і зрабіць перадзамову кнігі можна на сайце Ulej.by.

### Даведка:

Ульф Старк (1944–2017) — вядомы шведскі дзіцячы пісьменнік. Яго кнігі спалучаюць неверагоднае пачуццё гумару і глыбіню ды сур'ёзнасць тэмаў. Ульф Старк казаў: «Мне падабаецца пісаць такія кнігі, у якіх не ўсё адразу зразумела». Некаторыя іншыя яго кнігі: «Ці ўмееш ты свістаць, Юхана?», «Хай танчаць белыя мядзведзі», «Цудакі і зануды».

Лінда Бундэстам (нарадзілася ў 1977 годзе ў Хельсінкі) — адна з найбольш выбітных сучасных ілюстратараў паўночных краін. З Ульфам Старкам зрабіла некалькі кніг, адна з іх — «Дыктатар» — выйшла па-беларуску ў 2012 годзе. З кнігай «Звяры...» намінавалася на Аўгустаўскі прыз, атрымала прэмію «Снежка» за найлепшую шведскую кніжку-карцінку 2016 года і прэмію Рады Паўночных краін у 2017 годзе.

Перакладчык — Алеся Башарымава, у перакладах якой па-беларуску выйшлі кнігі Тувэ Янсан пра мумітроляў, кнігі-карцінкі Эвы Сусы і Бенжамена Шо ды Ульфа Нільсана і Эвы Эрыксан, а таксама паэзія Эдыт Сёдэргран і нобелеўскага лаўрэата Тумаса Транстромера.

Выдавец — Надзя Кандрусевіч, якая ў 2018 годзе стварыла выдавецтва Koska, што выпускае якасную шведскую дзіцячую літаратуру па-беларуску. Тут выйшлі кнігі Юі Вісландэр і Свэна Нурдквіста Маму Му, кніга Юі Вісландэр «Ёрдзіс», а таксама кніга-карцінка Сары Лундберг «Птушка ўва мне ляціць, куды захоча».

Некаторыя вершы з кнігі «Звяры, якіх ніхто не бачыў, апроч нас».

### Нябачаныя звяры

*Нябачаныя намі ёсць звяры*
*на сушы і пад воднаю паверхняй.*
*Яно й няхай!*
*Ты толькі вушы вострымі трымай —*
*тады табе пашчасціць і, павер мне,*
*ты ўчуеш іх чырыканне ці рык.*

### Кракавяк

*«Птушкі ціўкаюць хорам.*
*Не песні, а нейкі сорам.*
*Думаюць, што ўсім любыя*
*іх піскі мізэрнадзюбыя.*

*Але гэтак добра спяваць, як я*
*Не ўмее ніхто, — сказаў Кракавяк, —*
*і так запяяў:*
*Крак-крак, крак-крак, крак-крак!»*

*Бубух*
*Бух-бух-бух —*
*ад маёй хады*
*усе на ўвесь дух*
*бягуць хто куды.*

*І вось я самотны, дарэмна іх клічу.*
*Што мне рабіць з такім абліччам?*

**Паводле прэс-рэлізу**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №648

Падпісана да друку 26.04.2019. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 6 друк. аркушаў. Кошт свабодны.